◂ № 7 (328) ◂ 22 лютага ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**РАІСА МІХАЙЛОЎСКАЯ**

Стар. 6

**КАЛІ НЕ ЁН, ДЫК ХТО?**

Сакральны не чалавек і нават не трон, а чалавек, які сядзіць на троне. Такім чынам, улада — гэта не безасабовая сукупнасць уладных адносін і нават не суб'ект улады як такі. Гэта суб'ект, які здзяйсняе ўладныя функцыі

Стар. 5

**ВЯРТАННЕ МАХНО**

Любоў украінцаў да анархіста Нестара Махно пераходзіць у фазу адмаўлення ад ідэі дзяржаўнасці — як мінімум, у яе цяперашняй форме

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ХТО ПАЛЯВАЎ НА САВЕЦКІХ АФІЦЭРАЎ У БАБРУЙСКУ**

Нарыс Ігара Мельнікава

▸ АД РЭДАКТАРА

# ЛАГЕР УЗМОЦНЕНАГА АДПАЧЫНКУ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускім чыноўнікам не даюць спакою лаўры СССР. Услед за рознымі абмежаваннямі працоўных улада ўзялася за дзяцей. У Беларусі ўжо адраджаюцца лагеры працы і адпачынку для дзяцей, старэйшых за 14 гадоў. Як паведамляецца, яны будуць дзейнічаць паўсюль, акрамя Чарнобыльскай зоны.**




Улада паспяхова крочыць па абраным шляху аднаўлення «Імперыі зла». Ужо колькі разоў яна спрабавала прымусіць грамадзян працаваць! Спачатку было ўведзена размеркаванне студэнтаў. Потым — «прымусовая адпрацоўка» для бюджэтнікаў: два гады на дзяржаўным прадпрыемстве. Потым наспеў час сістэмы тэрміновых працоўных кантрактаў. Зусім нядаўна — дэкрэт прэзідэнта №9, які абмежаваў звальненне працоўных з прадпрыемстваў. Зараз ва ўрадзе пачалі клапаціцца пра прымусовую дзіцячую працу — маўляў, няма чаго ім «бадзяцца» па вуліцах.

Як паведаміў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва Мікалай Мазур, у Беларусі адраджаюцца лагеры працы і адпачынку для дзяцей, старэйшых за 14 гадоў. Гэта работа ўжо праводзіцца ў адпаведнасці з рашэннем урада. «Пастаўлена задача, каб на вуліцах не было валацужных падлеткаў у перыяд канікул», — заявіў Мазур.

Паводле яго слоў, лагеры працы і адпачынку, дзе падлеткі будуць працаваць па некалькі гадзін на дзень, з'явяцца ў бягучым годзе ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. «Калі ў сельскай мясцовасці дзеці ў большай ступені прыцягнуты да працы, у тым ліку на падсобных участках, то ў гарадах у перыяд летніх канікул многія падлеткі адкрыта лайдачаць», — растлумачыў Мазур.

Увогуле, беларускаму ўраду трэба сказаць, каб яны там селі і падумалі міжсобку, што ім трэба. Адны з ураду заклапочаныя тым, што падлеткі ўвесь час сядзяць за кампутарам, вельмі мала ўвагі аддаюць стасункам з сябрамі і, зрэшты, маюць праз гэта праблемы з сацыялізацыяй і ўзаемаадносінамі. Іншыя лічаць гульні на свежым паветры з аднагодкамі «бадзяннем» і «лайдацтвам». Адпаведна, яны і ствараюць «працоўныя лагеры». Урад, нарэшце, павінен вырашыць, чаго ён хоча, а толькі потым ужо займацца дзіцячай палітыкай.

Ініцыятыва «працоўных лагераў» выклікае шмат пытанняў. Першае з іх — хто будзе вызначаць, «бадзяецца» падлетак па вуліцы альбо яго маці ў краму за малаком паслала?

Другое пытанне больш складанае. Гэта ў СССР было ўсё добра: там праца з'яўлялася абавязкам кожнага чалавека, што і было прапісана ў Канстытуцыі. У нашай жа Канстытуцыі прапісана, што праца — гэта права, а не абавязак, кажа праваабаронца і юрыст Валянцін Стэфановіч.

Паводле ягоных словаў, прымусовая праца ў Беларусі магчымая толькі ў адным варыянце: калі ёсць адпаведнае рашэнне суда ў адносінах да асуджанага. Толькі калі суд прызначыў яму прымусовую працу як форму пакарання і выпраўлення, чалавек мусіць працаваць. У іншых выпадках чалавек мае поўнае права адмовіцца ад прымусовай працы — і будзе мець рацыю. А прымусовая праца дзяцей — гэта ўвогуле злачынства, на якое звяртаюць увагу ўсе міжнародныя арганізацыі, ад ААН да Міжнароднай арганізацыі працы. Гэта ўжо «цягне» на канкрэтныя санкцыі ў дачыненні да краіны.

У сітуацыі, калі падлетка нельга прымусіць працаваць, што ўвогуле атрымаецца? Тое ж «бадзянне», толькі «бадзяцца» ён будзе не па вуліцах горада, а па канкрэтна вызначанай тэрыторыі лагера.

Трэцяе і чацвёртае пытанні — гэта таксама пытанні працы. Зразумела, што ў падлеткаў няма працоўнай кваліфікацыі, і іх будуць адпраўляць на тыя ўчасткі, дзе кваліфікацыі і не патрабуецца. Але ці многа яны там наробяць?

Зараз, згадваючы часы сваёй маладосці, Стэфановіч распавядае, што іх на такія працы адпраўлялі са школы ў «добраахвотна-прымусовым парадку». «Адмазваліся» ад такіх лагераў хто як мог. А галоўнымі «адмазчыкамі» былі важатыя-камсамольцы, якія павінны былі, па ідэі, «выхоўваць маладое пакаленне». Да таго ж, адзначае Стэфановіч, грошай за сваю працу школьнікі-падлеткі так і не ўбачылі. «Нам сказалі, што гэтыя грошы пайшлі на патрэбы школы. Нібыта, за іх закупілі крэслы і дываны нейкія. Атрымліваецца, што працавалі мы выключна «за пахлёбку», — дагэтуль памятае ён свой няплочаны заробак.

Але падчас сваёй прамовы спадар Мазур ніводнага разу не згадаў пра заробак дзяцей. Ці будуць яны атрымліваць грошы за працу, альбо грошы зноў пойдуць «на патрэбы беларускай народнай гаспадаркі»? Па гэтай прычыне некаторыя СМІ нават сцвярджаюць, што некалькі гадзін штодзённай працы не акупяць выдаткаў на ўтрыманне падлетка ў такой установе. Так што, магчыма, бацькам давядзецца даплачваць за пуцёўкі.

Ну і галоўнае, што непакоіць шмат якіх бацькоў, якія чулі пра гэтую ініцыятыву. Па іх меркаванні, у першую чаргу ў «працоўныя лагеры» будуць адпраўляць тых, хто «бадзяецца», а значыць, дзяцей з «праблемных» сем'яў, тых, якія стаяць на ўліку ў дзіцячых пакоях міліцыі, якія ўжо здзейснілі нейкае правапарушэнне. Тых, хто, можа, сапраўды «бадзяецца» па вуліцах. Што будзе з «нармальнымі» падлеткамі, якія патрапяць у такое атачэнне?

У самай горшай сітуацыі, «лагер працы і адпачынку» ператворыцца ў нейкае падабенства «дзіцячай калоніі» са сваімі «паханамі», «дзедаўшчынай», і гэтак далей. У не самым горшым выпадку падлеткі вернуцца з «працоўнага лагеру» ўжо пакаштаваўшы цыгарэт, піва і вяскова самагону.

Але як усё ж прымусіць дзяцей не «бадзяцца» па вуліцах у час канікул? Адказ на гэта даюць каментатары навіны ў інтэрнэце. «Ды падключыце ўсім ім бясплатны вай-фай з 19 да 24 гадзін — і ніводнага бадзяжнага падлетка вы на вуліцы не ўбачыце!» — смяюцца карыстальнікі інтэрнэту.

Дык, можа, сапраўды, падумаць над тым, чым завабіць дзяцей, а не адпраўляць іх у лагер?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА РАМОНТ ПОМНІКАЎ У ГОНАР ПАЎСТАНЦАЎ

**Баранавіцкія грамадскія актывісты распачалі збор подпісаў за тэрміновы рамонт помнікаў (Баранавіцкі раён) у гонар Мілавідскай бітвы ў час паўстання Каліноўскага.**

Помнікі сёння знаходзяцца ў занядбанні. У найгоршым стане — пляцоўка каля Мілавідскага памятнага знака ў гонар касінераў Кастуся Каліноўскага, якую пашкодзіў п'яны мясцовы кіроўца ў студзені 2013 года. Зусім дрэнны вонкавы выгляд мае і каталіцкая капліца, у якой вецер сарваў бляху і моцна пашкодзіў дах.

«Мы распачалі збор подпісаў і будзем прасіць кіраўніцтва Мілавідскага сельскага савета, як толькі сыдзе снег, адрамантаваць пашкоджаную пляцоўку. Адначасова мы накіравалі ліст кіраўніцтву Баранавіцкага завода станкапрыладаў, каб яны прыслалі тэхніку і спецыялістаў для рамонту даху каталіцкай капліцы ў Мілавідах», — паведаміў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

### БРЭСТ. ЖЫХАРЫ ПРАТЭСТУЮЦЬ СУПРАЦЬ УШЧЫЛЬНЕННЯ

**Адрасам чарговага будаўнічага канфлікту з'яўляецца дваровая тэрыторыя каля дому №76/1 на вуліцы Карбышава, дзе мяркуецца пачаць узвядзенне шматпавярховага будынку.**

Супраць новабудоўлі выступаюць не толькі жыхары згаданага дому па вуліцы Карбышава, але і двух суседніх будынкаў. На іх погляд, планаванне шматпавярховіку ў такім шчыльна забудаваным квартале азначае істотнае пагаршэнне ўмоваў пражывання цяперашніх жыхароў, бо нават зараз дваровая тэрыторыя фактычна адсутнічае: замест прадугледжаных 10 квадратных метраў зямлі на чалавека, тут атрымліваецца толькі 2 метры.

Жыхары пажадалі абмеркаваць праблемы гэтага кварталу з прадстаўнікамі ўлады, аднак засталіся незадаволеныя вынікамі, бо запрошаныя на сустрэчу галоўны архітэктар горада Алег Ляшук, намеснік старшыні гарвыканкама Мікалай Якубоўскі, адказныя асобы санітарных службаў і МНС запэўнівалі, што будаўніцтва шматпавярховага дому адпавядае нормам, а дваровая тэрыторыя нават будзе добраўпарадкавана пасля таго, як скончыцца будоўля. Але мясцовыя жыхары спадзяюцца, што праект «ушчыльнення» ўсё ж будзе перагледжаны (ва ўсялякім разе, улады паабяцалі разгледзіць пытанне пра карэкціроўку сваіх першапачатковых планаў) і шматпавярховік на гэтым месцы не з'явіцца.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі сайта spring96.org**

▸ ХРОНІКА

## ХВАЛЯ САЛІДАРНАСЦІ: ХУТКА Ў ВАШЫМ ГОРАДЗЕ!

Сяргей ПУЛЬША

**Марафон «Хваля салідарнасці», прысвечаны беларускім палітвязням, абвешчаны аргкамітэтам па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», ідзе даволі паспяхова.**

За 10 дзён ён прайшоў па сямі гарадах Беларусі. Як ні дзіўна, акцыі праходзяць амаль без інцыдэнтаў з уладамі.

Распачалі кампанію «Хваля салідарнасці» бабруйскія актывісты БХД. Яны распаўсюдзілі сотні ўлётак і плакатаў з інфармацыяй пра палітвязняў па паштовых скрынях бабруйчанаў і на сценах дамоў. Таксама яны вывесілі дзве расцяжкі з заклікам да вызвалення палітвязняў: адну — на прыпынку грамадскага транспарту, другую — на ўездзе ў горад. Апроч таго, на працягу некалькіх дзён на вуліцах горада раздаваліся паштоўкі з заклікам падпісаць іх і даслаць палітвязням.

12–13 лютага ў розных месцах Слоніма былі расклееныя ўлёткі з партрэтамі палітвязняў з заклікам: «Напішы ліст палітычнаму вязню!». Апроч таго, яшчэ 8 лютага мясцовыя актывісты БХД на ўездзе ў Слонім з боку Баранавічаў па трасе Мінск — Баранавічы — Слонім — Ваўкавыск — Беласток прымацавалі плакат з надпісам «Свабоду палітвязням!».

14 лютага кампанія БХД дасягнула Баранавічаў. У горадзе былі распаўсюджаныя па паштовых скрынях грамадзян, пад'ездах і прыпынках грамадскага транспарту ўлёткі з заклікам падтрымаць палітвязняў і інфармацыяй пра іх.

Да Наваполацка кампанія дайшла 15 лютага. У ажыўленым месцы горада, каля гандлёвага цэнтра «Дыяніс», быў вывешаны бел-чырвона-белы сцяг. І таксама распаўсюджвалі па скрынях навапалачанаў улёткі з інфармацыяй пра беларускіх палітвязняў.

Адзіны пакуль што інцыдэнт з «салідарнымі» адбыўся ў Віцебску. 16 лютага там былі затрыманыя сябры БХД Стас Лаўрэнаў і Аляксей Кішчук пасля таго, як яны вывесілі расцяжку «Свабоду палітвязням». Але гэта не перашкодзіла іх калегам правесці ля Ефрасіннеўскага крыжа 18 лютага супольную малітву за палітвязняў. Нягледзячы на тое, што малітва праходзіла пад наглядам людзей у цывільным, яна скончылася мірна.

Апроч таго, 18 лютага віцебскія актывісты распаўсюдзілі ля праходных шасці віцебскіх заводаў улёткі з інфармацыяй пра палітвязняў і заклікам падтрымаць іх.

19 лютага марафон прыйшоў у Смаргонь. Улёткі з інфармацыяй пра палітвязняў былі распаўсюджаныя на гарадскім рынку. 20 лютага акцыі ў падтрымку палітвязняў прайшлі ў Жлобіне.

Нагадаем, што марафон «Хваля салідарнасці» пройдзе па 37 гарадах Беларусі і скончыцца акцыяй у Дзень Волі ў Мінску.

▸ СУСТРЭЧА

## КОЖНЫ КРЫЖ СВОЙ ВЫБІРАЕ

Марат ГАРАВЫ

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася літаратурная сустрэча «Кожны крыж свой выбірае», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага і яго жонкі Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай.**

Гасцямі музея былі акадэмік Радзім Гарэцкі з жонкай Галінай і доктар тэхнічных навук, прафесар, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч.

Імёны братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх дарагія сэрцу кожнага свядомага беларуса, бо гэтыя людзі спрабавалі прабіць шлях да сапраўднай Беларусі.

Жыццё Максіма Гарэцкага заўчасна абарвалі сталінскія рэпрэсіі. Яго ваенныя творы былі заўважаны за мяжой. Антываенныя апавяданні Максіма Гарэцкага «Генерал» і «Рускі» параўноўваюць з творамі Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» і «Адна ноч», аповесць «На імперыялістычнай вайне» — з творамі Эрыха Марыі Рэмарка, Анры Барбюса і Жоржа Дзюамеля.

Жонка Максіма Гарэцкага Леаніла Чарняўская-Гарэцкая — беларуская пісьменніца, перакладчыца, педагог, аўтар чытанак для малодшых школьнікаў «Родны край».

Гаўрыла Гарэцкі — вядомы беларускі геолаг і географ — таксама быў высланы з роднай Беларусі і спазнаў цяжкасці выгнання.

Якуб Колас у свой час хадайнічаў пра вяртанне Гаўрылы Гарэцкага на Беларусь, аднак улады не прыслухаліся да песняра. Навукоўцу дазволілі жыць і працаваць на Бацькаўшчыне толькі ў 1968 годзе.

Падчас сустрэчы ў музеі адкрылася выстава «Сябры майго далёкага юнацтва», на якой прадстаўлены арыгіналы лістоў Якуба Коласа і ягонай жонкі Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч (Каменскай) да Леаніллы Чарняўскай, Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх, рукапіс успамінаў дачкі Максіма Гарэцкага пра бацьку і роднага дзядзьку, выданні твораў Максіма Гарэцкага 1920-х гадоў, сямейныя фотаздымкі з дароўнымі надпісамі.

Акрамя таго, экспануецца інсталяцыя: пісьмовы стол з настольнай лямпай і кнігай Коласа «Рыбакова хата» з дароўным надпісам сям'і Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх, а таксама ліст песняра да іх. Каля стала — валёнкі Коласа, а на крэсле — ягоны беларускі кажух.

Пра гісторыю гэтых рэчаў распавяла галоўная захавальніца фондаў музея, праўнучка Коласа, Васіліна Міцкевіч. У лісце да Гарэцкіх Колас паведамляў пра тое, што цяжка хварэе грыпам, сядзіць на другім паверсе свайго дома за рабочым сталом у кажуху і валёнках і піша сваім дарагім сябрам вельмі цёплы, шчымлівы ліст з абяцаннем даслаць сваю кнігу «Рыбакова хата»… І гэта абяцанне пясняр выканаў.

▸ АКЦЫЯ

## ПАДПІШЫЦЕСЯ НА КНІГУ МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА

Марат ГАРАВЫ

**Перавыдадзім талакою кнігу Міхася Чарняўскага «Не бойцеся ахвяраў і пакут!» З такой прапановай звярнуўся да грамадства Алесь Мазанік — каардынатар грамадскай акцыі па збору сродкаў на другое выданне кнігі Міхася Чарняўскага.**

У 154-старонкавае ілюстраванае навукова-папулярнае выданне, каторае выйшла ў 2006 годзе ў віленскім выдавецтве «Наша будучыня» накладам ў 200 паасобнікаў, увайшлі дакументы і матэрыялы пра дзейнасць мядзельска-смаргонскага антыкамуністычнага падзем'я ў 1948–1950 гадах і яго кіраўніка, няזломнага змагара супраць таталітарызму за свабоду і незалежнасць Беларусі Расціслава Лапіцкага (01.09.1928 — 27.10.1950), забітага сталіністамі.

Апошняй воляй Міхася Чарняўскага якраз і было перавыданне зборніку матэрыялаў і дакументаў пра моладзевы паваенны супраціў. Навуковец паспеў завяршыць працу над другім выданнем кнігі, але не дачакаўся яго выхаду. І Алесь Мазанік, да якога ў свой час звярнуўся Чарняўскі з просьбай перавыдаць зборнік, зараз лічыць святой справай выкананне апошняй волі свайго выбітнага земляка. Прычым зрабіць гэтую справу, на думку спадара Алеся, трэба грамадой, дабрачынна.

Мазанік прапануе падпісацца на кнігу і ахвяраваць на яе выданне. У вольны продаж кніга, хутчэй за ўсё, не трапіць, а будзе распаўсюджвацца толькі на вечарыне памяці спадара Міхася, якая адбудзецца 28 лютага а 18.00 на сталічнай сядзібе Партыі БНФ. Увесь прыбытак ад кнігі спадар Алесь мяркуе перадаць сям'і Міхася Чарняўскага. Мазанік заклікае ўсіх неабыякавых беларусаў падтрымаць гэтую акцыю, далучыцца да яе і разам выканаць апошнюю волю спадара Міхася.

Звязацца з Алесям Мазанікам і загадзя замовіць кнігу можна па мабільным тэлефоне +375-29-757-58-67, а таксама праз электронную пошту ales.mazanik@gmail.com і праз скайп ales_mazanik.

▸ КАНФЕРЭНЦЫЯ

## АХВЯРАМ СТАЛІНІЗМУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Марат ГАРАВЫ

**28 лютага а 12.00 ў Мінску на сядзібе Партыі БНФ адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя па праблемах ушанаванне памяці ахвяраў камуністычных рэпрэсій у Беларусі.**

Яе арганізатарам выступіла грамадская ініцыятыва «За ўратаванне мемарыялу Курапаты».

Як паведаміла НЧ каардынатар ініцыятывы Ганна Шапуцька, на канферэнцыі запланаваныя выступы па раскрыццю і фіксацыі месцаў масавай згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій перыяду сталінізму (1920–1950 гады), перспектывах правядзення ў гэтых месцах археалагічных раскопак, пошуку Беларускага Катынскага спісу, пытаннях тэматычнай выдавецкай дзейнасці і папаўнення базы дадзеных рэпрэсаваных, праблемах аховы месцаў масавай згубы бязвінных ахвяраў.

Сярод выступоўцаў — гісторыкі Ірына Кашталян і Ніна Стужынская, археолаг Алег Іоў, кінадраматург Уладзімір Халіп, кнігавыдавец Віктар Хурсік, грамадска-палітычныя дзеячы Ганна Шапуцька і Валерыя Чарнаморцава, былы вязень ГУЛАГу Уладзімір Раманоўскі.

Даследчык палітычных рэпрэсій ў Беларусі Ігар Кузняцоў выступіць на канферэнцыі з асноўным дакладам па тэме «Месцы масавых расстрэлаў-пахаванняў перыяду 1920–1950-х гадоў у Беларусі. Праблемы ўшанавання памяці».

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як толькі Лукашэнка з’ехаў у Сочы на кароткатэрміновы адпачынак, у Беларусь адразу зляцеліся жадаючыя прыдбаць што-небудзь беларускае па добрым кошце. Нібыта для таго, каб узгадніць чарговы транш крэдыту для Беларусі. Аднак яны, як крумкачы, праляцелі па асноўных беларускіх прадпрыемствах: «Гомсельмаш», «Гродна Азот», «Беларуськалій», МАЗ і шэраг прадпрыемстваў мікраэлектронікі. І адразу пасыпаліся заявы пра продаж «фамільнага беларускага срэбра».**




Па-першае, стала вядома, за колькі прадаюць 25% акцый бровара «Крыніца». Кіраўнік Дзяржкаммаёмасці РБ Георгій Кузняцоў сказаў, што гэты пакет «зацягне» на 15 мільёнаў долараў. Але пра такі «дзіўны» продаж мы ўжо пісалі — умовай пакупкі акцый ёсць пагашэнне ўсіх абавязацельстваў прадпрыемства. То бок, «заплаціце нам за тое, што вы заплаціце яшчэ больш».

На фініш выйшаў, як высветлілася, яшчэ адзін інвестыцыйны праект: продаж ААТ «Белгіпс» расійскай кампаніі «Волма». Кошт прадпрыемства — каля 5 мільёнаў долараў. А ўмовы цягнуць яшчэ на 100 мільёнаў: укласці інвестыцыі не менш за 40 мільёнаў еўра ў мадэрнізацыю існуючага завода, плюс пабудаваць новы завод пад Мінскам — гэта яшчэ каля 40 мільёнаў долараў.

Яшчэ адна навіна: на фоне абмеркавання холдынгу МАЗ — КАМАЗ усе забыліся пра Мінскі завод колавых цягачоў. Гэта прадпрыемства — адзін з надзейных вырабнікаў цягачоў для ваеннай тэхнікі. Дык вось, Кузняцоў паведаміў, што продаж ААТ «МЗКЦ» расійскім інвестарам абмяркоўваўся ў ходзе нядаўняга візіту Дварковіча.

«Былі яшчэ пытанні да МЗКЦ. Вы ведаеце, што гэты завод рыхтуе, вырабляе і разумееце, што асноўны рынак збыту прадукцыі гэтага завода — Расія, — растлумачыў Кузняцоў. — Але там ёсць заканадаўства, што на «абаронку» працуюць толькі расійскія прадпрыемствы». Маўляў, выбару няма — толькі Расіі прадацца.

Даведаліся мы і пра тое, што беларускія ўлады гатовыя прадаць блок-пакет акцый ААТ «Гродна Азот», як мяркуецца, расійскаму ААТ «Еўрахім». «Ёсць прапанова па продажы «Гродна Азота» 25% +1 акцыя... Гады два ці тры абгаворваюць правесці мадэрнізацыю гэтага завода. Інфраструктура створана, газаправод падведзены... Але трэба там, напэўна, больш за мільярд долараў на гэты праект. Сёння ў Беларусі такіх грошай няма», — сказаў кіраўнік ДКМ.

Пачуўшы ўсё гэта, нацыянальна-дэмакратычныя сілы схапіліся за галаву: усё цікавае, усё такое «смачнае» — і толькі Расіі! Кіраўнік Партыі БНФ Аляксей Янукевіч нават з заявай выступіў пра тое, што «фактычная здача «Гродна Азота» расійскім манаполіям і здача кантрольнага пакета акцыяў МАЗа яшчэ раз сведчаць, што сапраўдныя глыбінныя прычыны ды негатыўныя наступствы крызісу сённяшняе кіраўніцтва краіны не збіраецца пераадольваць на аснове нацыянальных інтарэсаў: рэжым не прызнае сістэмных памылак у кіраванні краінай, ён толькі ратуе сябе і сваю неканкурэнтаздольную сацыяльна-эканамічную мадэль датацыйнай гаспадаркі».

Янукевіч выказаўся за тое, каб у распродажы ўдзельнічалі, па-першае, еўрапейцы, па-другое, каб гэты працэс быў празрыстым і, па-трэцяе, каб дапусціць да «прыватызацыі» нацыянальны беларускі капітал. Але тут — няма дурных. І не тое, каб у беларусаў не было такіх грошай альбо еўрапейцам хтосьці перашкаджае прапанаваць свае грошы для Беларусі. Проста еўрапейцы не такія наіўныя, каб купіць абавязацельствы і пазыкі «Крыніцы» за 15 мільёнаў долараў альбо «заплаціць за права заплаціць яшчэ раз», укласці 5 мільёнаў долараў у «Белгіпс», каб потым укласці яшчэ сто.

**Улады маюць намер перадаць на разгляд парламента папраўкі, якія дазволяць уводзіць аналаг «залатой акцыі» на любым прыватызаваным прадпрыемстве**

Гэта толькі ачмурэлым ад нафтавых грошай маскалікам здаецца, што калі ёсць грошы, яны тут усё і вырашаюць. А насамрэч, ім тактоўна ніхто не нагадвае: больш за 20 умоваў прыватызацыі, выпрацаваных яшчэ напачатку 2000-х гадоў, у тым ліку захаванне працоўных месцаў, захаванне і ўтрыманне сацыяльнай сферы, і іншае — ніхто не адмяняў. Не здолелі «падняць сацыялку» — няма чаго вам рабіць і на прадпрыемстве.

Калісьці ў інтэрнэце з’явіўся забаўны дакумент — вытрымка з дамовы аб крэдытаванні аднаго з банкаў. Там было напісана, што банк не нясе адказнасці за складанасці, звязаныя з форс-мажорнымі абставінамі, — навадненнямі, землятрусамі, а таксама «нарматыўнымі дакументамі беларускіх уладных органаў». Усе смяяліся з гэтых «форс-мажорных абставін», а дарма. Перш, чым інвестарам укладацца ў нашы прадпрыемствы, трэба было б уключыць у дамовы і такі пункт.

Паводле слоў таго ж Кузняцова, беларускія ўлады маюць намер у красавіку перадаць на разгляд парламента папраўкі ў заканадаўства, якія дазволяць дэ-юрэ ўводзіць аналаг «залатой акцыі» на любым прыватызаваным прадпрыемстве нават незалежна ад наяўнасці ў дзяржавы долі ў гэтым прадпрыемстве! Усе прыватызаваныя хоць і на 100% (як «Белтрансгаз», выкуплены «Газпрамам» у 2011 годзе) прадпрыемствы будуць падлягаць так званаму «ўладальніцкаму нагляду». Гэты законапраект ужо ўзгоднены з Лукашэнкам і накіраваны ў Саўмін.

Нават тыя прадпрыемствы, дзе няма долі дзяржавы, ствараліся ў працэсе прыватызацыі або на базе арэндных прадпрыемстваў. «Там акцыі маюць нашы грамадзяне. Вось з мэтай абароны інтарэсаў гэтых грамадзян там будуць прызначацца губернатарамі прадстаўнікі дзяржавы. Якраз яны і будуць блакаваць дзесьці рашэнні, калі парушаюцца інтарэсы акцыянераў — нашых грамадзян», — удакладніў сутнасць папраўак кіраўнік Дзяржкаммаёмасці.

Разам з тым, паводле Кузняцова, ліквідуецца такая структура, як Назіральны савет у тых акцыянерных таварыствах і прадпрыемствах, дзе доля дзяржавы большая за 50%.

Падводзім вынік на прыкладзе той жа «Крыніцы». Нейкі дабрадзей за 15 мільёнаў долараў выкупае 25% акцый прадпрыемства і сплачвае ўсе яго пазыкі. Акрамя рашэння аддаць свае грошы, ніякіх рашэнняў ён не прымае (больш за 50% акцый у дзяржавы) і паўплываць на палітыку прадпрыемства і прыняцце рашэнняў ён таксама не можа (Назіральнага савета няма). Улада атрымлівае «чысценькае», без пазыкаў, прадпрыемства, і можа рабіць з ім, што хоча. Можа мадэрнізаваць, можа зноў у пазыкі ўлезці, а можа і збанкруціць.

Як вам такая прыватызацыя, спадары інвестары?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ДАР’Я ДОМРАЧАВА




Беларуска Дар’я Домрачава выйграла золата Чэмпіянату свету па біятлоне. 26-гадовай мінчанцы не было роўных у гонцы з масавым стартам, дзе прынялі ўдзел 30 лепшых біятланістак свету.

Да гэтай гонкі чэмпіянат атрымліваўся для Домрачавай няўдалым, але на апошнюю гонку Дар’я выйшла вельмі матываванай. На першай стральбе яна дапусціла адзін промах і пайшла толькі 13-й, але ўжо да другой стральбы беларуска нагнала фаварытаў і стала 5-й. Да сярэдзіны круга Домрачава выйшла ў лідары і ўжо нікога не выпусціла наперад. На трэцяй стральбе Дар’я была дакладная, на апошняй дапусціла адзін промах.

Залаты медаль Домрачавай дазволіў беларускім біятланістам заняць 4-е агульнакаманднае месца на Чэмпіянаце свету–2013. На мінулым чэмпіянаце свету ў 2012 годзе ў актыве беларускіх спартсменаў было 2 медалі, і абодва на рахунку Дар’і Домрачавай, якая выйграла золата ў гонцы пераследу і стала срэбным прызёрам у спрынце.

### ЮРЫЙ ЖАДОБІН



Ва Узброеных сілах Беларусі пастаянна ўдасканальваецца аператыўная, мабілізацыйная і баявая падрыхтоўка, «зыходзячы з таго, што мяняюцца формы і метады ўзброенай барацьбы, мэты тых, хто развязвае лакальныя і рэгіянальныя канфлікты», заявіў міністр абароны генерал-лейтэнант Юрый Жадобін. У прыватнасці, у рамках вучобы арміі ў 2012 годзе была праведзена двухбаковая камандна-штабная ваенная гульня, «калі адно аператыўнае камандаванне з сіламі ўзмацнення ваявала супраць іншага аператыўнага камандавання», растлумачыў міністр. Упершыню Генеральны штаб правёў дзелавую гульню з органамі дзяржаўнага кіравання.

Паводле слоў міністра, летась было праведзена больш за 400 мерапрыемстваў баявой падрыхтоўкі: ад баявых стрэльбаў узводаў да батальённых тактычных вучэнняў, паведамляе БелаПАН.

Апроч вучэнняў міністр абароны Юрый Жадобін распавёў і пра стан спраў у афіцэрскім корпусе. «Я задаволены, што ў цяжкія для ўсіх часы, 2009–2011 гады, калі долар зваліўся, завагаліся адзінкі, хто пакінуў войска», — падкрэсліў кіраўнік Мінабароны. Але ў 2009–2011 гадах аўральнымі тэмпамі абясцэньваўся акурат такі не долар, а беларускі рубель.

### АЛЕГ КАЧАН, ІГАР ЗАІЧКОЎ



Скандальная гісторыя распачалася вакол былога міністра спорту і турызму Алега Качана і памочніка прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму Ігара Заічкова. Выданне «Ежедневник» паведаміла, што чыноўнікаў абвінавацілі ў крадзяжы прыбіральняў для сваіх дачаў.



Пасля сходу ў Нацыянальным алімпійскім камітэце восенню мінулага года Лукашэнка адправіў у адстаўку Качана і Заічкова. Лукашэнка даручыў праваахоўным органам старанна разабрацца з дзейнасцю спартыўных чыноўнікаў, асабліва ў сферы будаўніцтва іх асабістай нерухомасці.

Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС выявіла спецыфічныя аб’екты нерухомасці, якія быццам бы былі ўстаноўленыя на дачных участках Качана і Заічкова за чужы кошт. Па дадзеных ГУБЭЗ МУС, у чэрвені 2012 года на вытворчым лесаперапрацоўчым участку «Закрэўшчына» Уздзенскага лясгасу былі выраблены 2 дваровыя прыбіральні. Аб’екты нерухомасці выраблялiся з лесаматэрыялаў, але ў вельмі добрым, можна нават сказаць, прэзентабельным выглядзе, таму і кошт прыбіральні атрымаўся каля 10 мільёнаў рублёў. Дваровыя прыбіральні былі адлюстраваны ў бухгалтарскім уліку прадпрыемства і ў далейшым адгружаныя ў «Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту і конегадоўлі», размешчаны ў пасёлку Ратамка Мінскага раёна. Аднак рэальна прыбіральні былі дастаўлены ў садоўніцкае таварыства «Моя отрада» ў вёсцы Закаблукі Мінскага раёна і ўстаноўленыя на зямельных участках Ігара Заічкова і Алега Качана.

Журналісты «Еўрарадыё» з’ездзілі ў прысталічную вёску Закаблукі (10 кіламетраў ад Мінска), каб паглядзець, што ж за прыбіральні на дачах паставілі сабе высокапастаўленыя чыноўнікі. Драўляных прыбіральняў не знайшлі, але пабачылі на ўчастках дарагія сучасныя катэджы. У адным з агенцтваў нерухомасці паведамілі, што добры катэдж у 10 кіламетрах ад кальцавой з падведзенай вадой, газам і электрычнасцю можа каштаваць ад 300 тысяч долараў. А ў сярэднім — каля 500 тысяч.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КАЛІ НЕ ЁН, ДЫК ХТО?

Сяргей НІКАЛЮК




**«Сакральны не чалавек і нават не трон, а чалавек, які сядзіць на троне. Такім чынам, улада — гэта не безасабовая сукупнасць уладных адносін і нават не суб'ект улады як такі. Гэта суб'ект, які здзяйсняе ўладныя функцыі».**

Бог любіць тройцу, і таму да двух класічных пытанняў, якія хвалююць інтэлігенцыю вось ужо два стагоддзі, дадалося трэцяе. Гэта пытанне я і вынес у загаловак. Пытанне, як кажуць, «ад жыцця». Падчас выбарчых кампаній з ім пастаянна сутыкаюцца партыйныя актывісты. Сутыкаюцца — і не могуць прапанаваць адэкватнага адказу. Таму і вынік такі.

Пошук персанальнай альтэрнатывы адзінаму палітыку (АП) — галаўны боль беларускай апазіцыі. Хвароба набыла хранічны характар. Чым яе толькі ні спрабавалі лячыць, але з'яўленне адзінага кандыдата, узброенага адзінай стратэгіяй, сёння гэтак жа малаверагодна, як і ў год чацвёртых прэзідэнцкіх выбараў.

Гэта рэальнасць, і яна не можа быць іншай у грамадстве, якое ўспрымае дзяржаву як вялікую сям'ю на чале з бацькам. Паглядзіце на электаральныя рэйтынгі беларускіх чыноўнікаў. Ніводзін з іх не выходзіць за межы статыстычнай памылкі. Усё лагічна. Якая можа быць альтэрнатыва бацьку ў патрыярхальнай (традыцыйнай) сям'і?!

## Ленін, салдат і імбрык

Тэма «харызматычнага лідара ў палітыцы» паўстала не сёння. Набіраю на YouTube «Чалавек са стрэльбай». Знаёмыя з дзяцінства кадры: салдат з вінтоўкай і імбрыкам бегае па Смольным у пошуках кіпеню. Выпадкова ён натыкаецца на мужчыну ў гарнітуры-тройцы. Далей ідзе знакаміты дыялог. А вось і фінальная фраза: «Браткі! Я Леніна бачыў!», пасля якой у салдата падае імбрык…

Тут жа можна паглядзець і пародыю на дыялог Ігара Угольнікава. Прывяду фрагмент.

— Не еврей, нет?

— Нет, но сочувствующий.

— Это хорошо. А чего здесь?

— Понимаете, по нужде.

— Ничего, ничего, товарищ. Когда-нибудь наступит такой момент, когда трудящиеся не будут испытывать нужду ни большую, ни малую.

У кожнай сацыяльнай з'явы ёсць свой пачатак і канец, у тым ліку і ў міфа. Экранізаваны Ленін, што абмяркоўвае з салдатам жыццёвыя і палітычныя праблемы, — гэта міф, які дасягнуў максімальнай кропкі свайго развіцця (фільм зняты ў 1938 годзе). Публічнае адмаўленне міфа на гэтай стадыі магло каштаваць чалавеку жыцця.

Смерць міфа пра Леніна і смерць палітычнай сістэмы, адбыліся адначасова. Дзівіцца гэтаму не даводзіцца. А вось хто каго ў свой час спарадзіў — пытанне спрэчнае. Кастрычнік 17-га быў рэакцыяй шматмільённай сялянскай масы на рэформы Сталыпіна, якія праводзіліся, каб разбурыць патрыярхальны сялянскі свет і ўвесці рынкавыя адносіны ў вёсцы.

Крытычнай масы фермераў, г. зн. суб'ектаў рынкавай эканомікі, стварыць не атрымалася. Затое ў поўнай адпаведнасці з законам пра ненаўмысныя наступствы адбылося тое, што міністр-рэфарматар і ў страшным сне не мог уявіць: «рэйтынг» Цара-бацюхны апусціўся ніжэй нізкага. Святое месца вызвалілася, і яго заняў «мужчына ў гарнітуры-тройцы».

Падагулім сказанае: паспяховы адказ на пытанне: «Калі не ён, дык хто?» магчымы толькі пры ўмове поўнай дыскрэдытацыі дзейнага палітычнага лідара і палітыкі, якая ім праводзіцца. А гэта азначае, што пры адказе на першае і другое пытанне ў грамадстве сфармаваўся кансэнсус: вінавата дзейная ўлада, патрэбны новы лідар.

Прыгадаем падзеі пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі камуністы масава здавалі партыйныя пасведчанні. Якія пры гэтым былі шанцы на захаванне ўлады ў салдата партыі Мікалая Дземянцея? Нулявыя.

## Рацыянальная недасведчанасць

Нагадаю афіцыйныя вынікі першага тура прэзідэнцкіх выбараў 1994 года: Лукашэнка — 45%, Кебіч — 17%, Пазняк — 13%, Шушкевіч — 10%, Дубко — 6% і Новікаў — 5%. У поўнай адпаведнасці з электаральнай структурай беларускага грамадства, кожны кандыдат мог разлічваць толькі на галасы «сваіх» выбарцаў. «Сваімі» для «большасці» былі Лукашэнка, Дубко і Новікаў. Для «меншасці» — Пазняк і Шушкевіч.

На размерканне галасоў сярод «сваіх», безумоўна, паўплываў цэлы букет асобасных характарыстык кандыдатаў у прэзідэнты. З дапамогай сацыёлага Аляксандра Аслона паспрабую вылучыць галоўную: «Калі партыя ці палітык, ці нейкая арганізацыя з'яўляюцца і штосьці кажуць, ацэньваецца зусім не тое, што яны кажуць. Сказанае праходзіць пэўны тэст на дзеяздольнасць, на патэнцыю, на тую сілу, якая ёсць ці няма для рэалізацыі абяцанага».

Чытач мае права спытаць: а як жа перадвыбарныя праграмы? Каб зразумець іх унёсак у поспех барацьбы за галасы выбарцаў, запазычу з інтэрнэту чарговую азбуковую паліталагічную ісціну: «Паколькі верагоднасць таго, што адзін голас самага звычайнага выбарца здольны неяк паўплываць на канчатковы выхад галасавання, блізкая да нулявой, у выбарцаў адсутнічаюць дастатковыя стымулы марнаваць свой час і сілы на вывучэнне перадвыбарчых праграм кандыдатаў, збор і апрацоўку іншай палітычнай інфармацыі. Таму выбарцы праяўляюць рацыянальную недасведчанасць у палітычных пытаннях». І беларусы ў гэтым сэнсе не з'яўляюцца выключэннем. Дэталямі праграм яны не цікавіліся, не цікавяцца і ніколі цікавіцца не будуць.

На кожным баявым самалёце ўсталявана электронная сістэма «свой—чужы». Яе своеасаблівы аналаг існуе і ў галовах выбарцаў. Ён і дазваляе практычна беспамылкова адрозніваць «свайго» кандыдата ад «чужога». З улікам электаральнай спецыфікі Беларусі («большасць» + «меншасць») гэта азначае поўную бесперспектыўнасць так званых «незалежных кандыдатаў». Практыка, што, як вядома, выступае крытэрам ісціны, вось ужо 18 гадоў пацвярджае гэту высноу.

Як яечка каштоўнае да Хрыстова дня, так і харызматычны апазіцыйны палітык здольны зацікавіць выбарцаў выключна ў момант руйнавання звыклай для іх карціны свету. У якасці галоўнага элемента руйнавання выступае расчараванне ў персаніфікатары ўлады (манарху, генеральным сакратары, прэзідэнце). Як тут ні прыгадаць Аляксандра Галіча: «Оказался наш отец не отцом, а сукою».

Сваёй перамозе над канкурэнтамі (Кебіч, Дубко, Новікаў) у 1994 годзе АП абавязаны найперш самому сабе. З гэтым не паспрачаешся. У момант, калі ў грамадстве ўзнік попыт на «моцную асобу», яна з'явілася ў вобразе барацьбіта з карупцыяй.

Але, як гэта ні падасца дзіўным, «моцная асоба» не абавязкова павінна валодаць адпаведнымі асобаснымі якасцямі. Пра гэта ніжэй.

## «Цуд ператварэння ўлады»

Падыдзем да трэцяга пытання з нечаканага боку. Прынцып «не высоўвайся» — адзін з базавых у беларускай культуры. У сваіх штодзённых практыках ім кіруюцца мільёны. Традыцыйная культура адпрэчвае асобасны пачатак. Асоба — прадукт мадэрнізацыі (зрэшты, мадэрнізацыя — прадукт дзейнасці асоб). Але ў беларускім грамадстве працэс мадэрнізацыі яшчэ далёка не завершаны. Не дарма ж пад мадэрнізацыяй АП разумее выключна працэс тэхнічнага пераўзбраення прадпрыемстваў.

Тут самы час звярнуцца да цытавання: «Сакральны не чалавек і нават не трон, а чалавек, які сядзіць на троне. Такім чынам, улада — гэта не безасабовая сукупнасць уладных адносін і нават не суб'ект улады як такі. Гэта суб'ект, які здзяйсняе ўладныя функцыі. У адвечна-наіўным пытанні «хто?» чуецца містычнае чаканне цуду ператварэння ўлады» (Андрэй Пелепенка, культуролаг).

Прыкладам «цуду ператварэння ўлады» можа служыць палкоўнік Пуцін. «Малчалін на пасадзе нацыянальнага лідара», — так сказаў сацыёлаг Леў Гудкоў пра Пуціна. Тым, хто даўно не перачытваў «Гора ад розуму» нагадаю характарыстыку сакратара Фамусава: «Вот он на цыпочках и не богат словами». Здавалася б, пра якую харызму тут можна весці гаворку! Але зірніце на рэйтынг. Ён як узляцеў да нябёсаў пасля першай ракіроўкі (з Ельцыным у 1999 годзе), так амаль без страт дацягнуў да другой (з Мядзведзевым у 2012 годзе).

У адрозненне ад сваіх палітычных канкурэнтаў, Пуцін — суб'ект, які здзяйсняе ўладныя функцыі, і ўжо хаця б таму на пытанне: «Калі не ён, дык хто?» няма і не можа быць пераканаўчага адказу. Зразумела, да таго часу, пакуль карціна свету, якую ён увасабляе, не разбурыцца. І вось тады пачне фармавацца масавае запатрабаванне ў новым культурным героі-месіі. І пачынаецца новы цыкл: светлыя надзеі — любоў — сляпое ігнараванне неадпаведнасці паміж чаканнямі і рэальнасцю — расчараванне і незадаволенасць — пагарда і нянавісць…

## Моцнае, але неэфектыўнае

Беларускае грамадства ходзіць па тым жа коле. Але ў новага масавага расчаравання будзе важнае адрозненне ад расчаравання пачатку 90-х гадоў, якое завяршылася трыумфальнай перамогай АП на прэзідэнцкіх выбарах. Расчараванне дваццацігадовай даўніны было спароджана хаосам лібералізацыі, таму ў якасці зваротнай рэакцыі сфармаваўся запыт на «моцную дзяржаву» і адпаведны тып асобы, здольны такую дзяржаву ўзначаліць.

Прывяду фрагмент выступу АП на III Усебеларускім народным сходзе: «У нас нет организованной преступности и бьющей в глаза коррупции. Мы устранили как экономические, так и политические причины социальных потрясений. Управленческая «вертикаль» позволяет нам концентрировать ресурсы на главных направлениях развития, принимать и эффективно реализовывать государственные решения».

У 2006 годзе адкрыта ўсумніцца ў пералічаных дасягненнях адважваліся толькі нядобразычлівцы і адкрытыя апаненты АП. Сёння пра неэфектыўнасць «вертыкалі» нам увесь час распавядае сам яе архітэктар. Прыгадаем яго візіты на дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы. Не прадстаўнікі ж «пятай калоны» распрацоўвалі планы па іх мадэрнізацыі з тэрмінам завяршэння ў 2009 годзе.

Першыя інфармацыйныя ластаўкі карціну свету змяніць не здольныя, але сёння мы назіраем пачатак масавага пералёту інфармацыйных «птушак». Ігнараваць гэты працэс дзяржаўныя СМІ ўжо не ў стане. Асабіста для мяне асноўнай крыніцай палітычнай інфармацыі даўно ўжо служыць «Советская Белоруссия».

Генератарам новага хаосу гэтым разам выступае «моцная дзяржава», таму рымейк перабудовы вельмі верагодны, як верагодны і грамадскі запыт на «новое мЫшленье» і адпаведны яму тып героя-месіі.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКОН «НЕМЭТАЗГОДНЫЯ»

**Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала адказ з Палаты прадстаўнікоў на свае прапановы ўнесці змены ў заканадаўства, якое рэгулюе дзейнасць СМІ.**

Афіцыйны ліст ГА «БАЖ» атрымала ад старшыні Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных зносінах і СМІ. Андрэй Наумовіч інфармуе, што зварот журналісцкай арганізацыі наконт удасканалення некаторых палажэнняў закона «Аб СМІ» камісія разгледзела і «дэталёва прапрацавала з Міністэрствам інфармацыі». Дэпутат фактычна рэтранслюе пазіцыю Мінінфарма і кажа пра «адсутнасць істотных недахопаў у прававым рэгуляванні названай сферы».

«На сённяшні дзень Закон РБ «Аб сродках масавай інфармацыі» ў цэлым стабільна функцыянуе, даваляе вырашыць практычныя праблемы, што ўзнікаюць у дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі, а таксама спрыяе паступальнаму развіццю інфармацыйнай прасторы краіны, — піша Наумовіч. — Зыходзячы з гэтага, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў — члены камісіі лічаць у цяперашні час немэтазгодным ініцыяваць унясенне карэкціровак у заканадаўства ў галіне СМІ...»

Старшыня ГА «БАЖ» Жанна Літвіна адзначае, што гэта не першы афіцыйны адказ з дзяржаўных органаў з адсылкай да Мінінфармацыі. Напрыклад, Міністэрства ўнутраных спраў, да якога журналісцкая арганізацыя звярталася з прапановай правесці круглы стол, таксама адпісалася пра тую ж «немэтазгоднасць», ківаючы на Мінінфарм.

«Такое ўражанне, што манаполія на прыняцце абсалютна ўсіх рашэнняў датычна сферы СМІ належыць Мінінфармацыі. Выглядае, што дэпутаты пазбаўленыя магчымасці самастойна, без умяшальніцтва выканаўчай улады, прыняць рашэнне нават па такім бяскрыўдным пытанні, як слуханні ў межах камісіі», — гаворыць Жанна Літвіна.

Прапановы Беларускай асацыяцыі журналістаў унесці папраўкі ў заканадаўства аб СМІ тычацца некалькіх аспектаў. Першы з іх — акрэдытацыі журналістаў і доступ да інфармацыі.

Другі блок прапаноў закранае працу журналістаў-фрылансераў. Эксперты БАЖ па гэтым пытанні прапануюць некалькі змяненняў у розныя артыкулы — пачынаючы ад паняццяў, дзе варта замяніць вызначэнне «журналіст сродку масавай інфармацыі» на «журналіст», прыбраўшы прывязку да СМІ. Яшчэ адна важная прапанова — надаць права выдачы службовых журналісцкіх пасведчанняў не толькі рэдакцыям СМІ, але і журналісцкім арганізацыям — БАЖ, БСЖ. Гэта значна палепшыць прававую абароненасць журналістаў. Сёння такія пасведчанні могуць выдаваць толькі рэдакцыі СМІ, а гаворка ідзе пра тое, каб гэтым правам валодалі, як і ў большасці цывілізаваных краін, журналісцкія арганізацыі.

Трэці блок прапаноў звязаны з прававой абароненасцю журналістаў. Цяпер «папярэджанне» журналісту фактычна мае характар санкцыі, а вынясенне двух папярэджанняў ёсць падставай для закрыцця выдання. БАЖ прапануе альбо зусім прыбраць магчымасць звароту Міністэрства інфармацыі з іскамі пра закрыццё СМІ, альбо зрабіць гэта магчымым толькі ў строга вызначаных выпадках, прапісаных у законе, — пры вельмі грубых парушэннях з боку сродку масавай інфармацыі.

Чацвёрты блок прапаноў тычыцца дзейнасці інтэрнэт-медыя: увесці такі парадак, паводле якога інтэрнэт-выданні могуць атрымаць статус СМІ па жаданні заснавальнікаў гэтых выданняў. Гэта дазволіць супрацоўнікам рэсурсаў карыстацца паўнамоцтвамі журналістаў, але не будзе абавязкам для ўсіх сеціўных выданняў станавіцца на жорсткі ўлік.

**Паводле інфармацыі БАЖ**

СМІ

# З ЦЭНЗАРАМ У ГАЛАВЕ

**Вольга ХВОІН**

**Афіцыйна ў Беларусі цэнзуры няма. Аднак у кожным рэдактары ці журналісце жыве ўнутраны цэнзар. І шырыня яго паўнамоцтваў залежыць найперш ад палітычнай сітуацыі ў краіне.**

X index
the voice of free expression

Паводле ацэнак міжнародных экспертаў, Беларусь уваходзіць у лік краін, дзе сітуацыя з цэнзурай у СМІ вельмі кепская. Так, Камітэт у абарону журналістаў (CPJ) у сваёй справаздачы за мінулы год адзначае, што Аляксандр Лукашэнка кіруе найбольш «цэнзураванай» краінай свету, працягвае палітыку падаўлення крытычнай журналістыкі і падаўлення свабоды меркаванняў. Чатыры чалавекі былі арыштаваныя за выказванне сваіх меркаванняў. А жорсткая рэакцыя на «плюшавых мядзведзікаў» адлюстроўвае рэпрэсіўную палітыку ўладаў.

На праблемы цэнзуры і абмежавання свабоды слова ў Беларусі звяртае ўвагу і міжнародная арганізацыя «Індэкс цэнзуры» (Index on Censorship). Аналітычны даклад гэтай арганізацыі пад назваю «Беларусь: Сетка пад кантролем» утрымлівае высновы, што наша краіна мае адзін з найгоршых рэйтынгаў свабоды прэсы і свабоды выказвання ў свеце. І гэта тычыцца не толькі традыцыйных СМІ. Новыя лічбавыя тэхналогіі, у першую чаргу інтэрнэт, далі новыя магчымасці для свабоды слова, але ў той жа час яны забяспечылі ўлады і «новымі інструментамі для задушэння свабодных галасоў і адсочвання іншадумцаў».

У сувязі з гэтым у аналітычных дакументах, датычных Беларусі, утрымліваюцца заклікі да ўладаў краіны спыніць несуразмерныя і залішнія юрыдычныя і неправавыя практыкі, якія падрываюць свабоду выказвання, правесці неадкладныя рэформы, якія б гарантавалі свабоду слова ў Беларусі. Асобным пунктам ёсць прапановы змяніць заканадаўства ў частцы, што прадугледжвае крымінальную адказнасць за паклёп, абразу асобы, дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь ды паклёп у дачыненні да кіраўніка Беларусі.

Судовыя іскі да недзяржаўных выданняў часцей грунтуюцца якраз на прэтэнзіях у абразе, прыніжэнні гонару і годнасці. А газета «Згода», пераемніцай якой ёсць «Новы час», спыніла сваё існаванне ў сакавіку 2006 годзе з-за нібыта распальвання міжнацыянальнай варожасці, калі апублікавала карыкатуры на прарока Мухамеда. У студзені 2008 года выпускаючы рэдактар газеты «Згода» Аляксандр Сдвіжкоў быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па артыкуле 130 ч. 2. КК РБ (наўмысныя дзеянні, скіраваныя на абуджэнне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай варожасці ці розні, на прыніжэнне нацыянальнага гонару і годнасці, здзейсненыя службовай асобай з выкарыстаннем сваіх паўнамоцтваў).

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года шэраг рэдакцый недзяржаўных СМІ зведаліператрусы, канфіскацыю тэхнікі, любімае многімі слухачамі «Аўтарадыё» ўвогуле было зачыненае. Загад аб спыненні вяшчання «Аўтарадыё» быў вынесены на падставе рашэння Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Афіцыйнай прычынай пазбаўлення радыёстанцыі частот стала «невыкананне творчай канцэпцыі і распаўсюджванне інфармацыі, якая змяшчае публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці»: падчас выбарчай кампаніі «Аўтарадыё» пусціла ў эфір ролікі кандыдатаў у прэзідэнты Саннікава і Някляева, у якіх былі заклікі прыходзіць «на Плошчу».


Андрэй Скурко

Галоўны рэдактар штотыднёвіка «Наша Ніва» Андрэй Скурко гаворыць, што цяпер у Беларусі цэнзуры ў класічным яе выглядзе няма: «Няма забароненых тэмаў, але ты можаш пісаць толькі пра тое, што пацвярджаецца сабранай фактурай. Калі будзе публікацыя без доказаў, гэта можа пацягнуць судовыя іскі, санкцыі. Так, у прынцыпе, ва ўсім свеце — за бяздоказныя сцвярджэнні трэба адказваць. Іншая справа, што на частку тэмаў, якія тычацца высокіх чыноўнікаў, іх маёмасці, рашэнняў дзяржаўнай важнасці, немагчыма знайсці фактуру: яна закрытая. Правы журналіста на атрыманне інфармацыі дзейнічае ў Беларусі роўна наадварот: чыноўнік часта не мае права без дазволу начальніка штосьці сказаць журналісту».

Андрэй Скурко не схільны ставіць у адзін шэраг з механізмамі класічнай цэнзуры і «наезды» на рэдакцыі СМІ ў часе палітычнай кампаніі–2010, бо гэта «агульная тактыка запалохвання», якая прымянялася і да палітычных партый, і да грамадскіх арганізацый. «Яшчэ адзін спосаб уздзеяння на незалежныя СМІ — праз папярэджанні Міністэрства інфармацыі. Часта яны выглядаюць як фармальныя прычэпкі, мэта якіх — абмежаваць дзейнасць выдання, змусіць марнаваць час на судовыя разбіральніцтвы. Дзяржаўным чыноўнікам варта памятаць, што абмежаванні свабоды слова, якія дапускаюцца ў Беларусі, шкодзяць іміджу нашай дзяржавы ў свеце», — адзначае спадар Скурко.

Галоўны рэдактар недзяржаўнай «Брестской газеты» Віктар Марчук гаворыць, што за дзесяць гадоў існавання газеты калектыў з наўпраставай цэнзурай ніколі не сутыкаўся. Тым не менш...

«Былі факты фотацэнзуры — калі фота дзяржаўных чыноўнікаў не задавальнялі тыпаграфію, нам гаварылі, напрыклад, што яны кепска апрацаваныя. Асноўны панятак, з якім мы жывём, — самацэнзура. Але для кожнай газеты гэта індывідуальна. Кожны вызначае ў палітыцы газеты мяжу дазволенага. Мы ўстанавілі сабе даволі шырокія межы: пішам на любыя тэмы — і пра вышэйшых чыноўнікаў, і пра мясцовых. Але ёсць тэмы, якія мы імкнёмся не выносіць на публіку. Найперш, гэта неправераная інфармацыя, асабліва калі яна закранае палітычную тэматыку. Што тычыцца сацыяльных, бытавых праблем, то мы не абмяжоўваем сябе. Вось нядаўна пісалі пра Тарфяную вуліцу Брэста, жыхары якой дамагаюцца завяршыць добраўпарадкаванне. Нядаўна пісалі, як на вуліцы Цаглянай людзі жывуць у бараках у вельмі кепскіх умовах, потым гэтую тэму падхапілі іншыя выданні. І нядаўна было пасяджэнне чыноўнікаў, дзе прадстаўнікі гарвыканкама выказаліся за вырашэнне праблемы», — распавядае Віктар Марчук.


Віктар Марчук

Здавалася б, такая пазітыўная ацэнка, але спадар Марчук дадае: «Я не магу сказаць, што цэнзуры няма. Ёсць сур'ёзная самацэнзура. Праўда, маё меркаванне: гэта мусіць быць паўсюль, бо ў адваротным выпадку СМІ скочваецца да скандалаў. А вось наколькі самацэнзура моцная, залежыць ад таго, у якім грамадстве мы жывём. Паколькі наша палітычная сістэма, мякка кажучы, не надта дэмакратычная, то ўзровень самацэнзуры ў нас у разы вышэйшы, чым у заходніх выданнях».

**Матэрыял створаны ў супрацоўніцтве з арганізацыяй Index on Censorship (Індэкс цэнзуры), www.indexoncensorship.org**

ТРЭЦІ СЕКТАР

# РАІСА МІХАЙЛОЎСКАЯ

Аляксандр ТАМКОВІЧ



**З вялікай павагай стаўлюся да ўсіх без выключэння сучасных беларускіх праваабаронцаў, але ёсць сярод іх тыя, чые імёны і справы застаюцца па-за нашай увагай. Па той прычыне, што яны найперш сканцэнтраваны на справе, цалкам ігнаруючы піяр. Адна з іх — гераіня гэтага нарыса.**

## Еўрапейскі пачатак

Раіса Міхайлоўская нарадзілася ў Клайпедзе — горадзе, які зараз знаходзіцца на тэрыторыі ЕС. Менавіта ў Літве пазнаёміліся і пабраліся шлюбам яе бацькі, а 3 сакавіка 1960 года ў іх нарадзілася другая дачка Раіса (першая — Святлана — на тры гады старэйшая).

Пётр Машэраў, які на той час быў другім сакратаром ЦК КПБ, называў яе бацьку «вусаты танкіст». Пазнаёміліся яны падчас дастаткова драматычных падзей, абумоўленых масавым скарачэннем арміі, найперш танкавых частак, якое ініцыяваў напачатку 1960-х гадоў Мікіта Хрушчоў. Пад гэта скарачэнне трапіў і бацька Раісы — танкіст, капітан Канстанцін Гумераў. Зачэпкай для яго скарачэння магла стаць і графа ў анкеце, дзе ён шчыра напісаў, што яго бацька (дзед Раісы) быў асуджаны як «вораг народа».

Пад хрушчоўскае скарачэнне арміі трапілі тысячы афіцэраў. Мінск, які заўсёды лічыўся вельмі прывабным для вайскоўцаў, гэта адчуў вельмі хутка. Міністэрства абароны перакінула вырашэнне праблем звольненых вайскоўцаў на «цывільных». З групай прадстаўнікоў пацярпелых вайскоўцаў, у якую ўваходзіў і Канстанцін Гумераў, сустрэўся Пётр Машэраў. У выніку ў Завадскім раёне Мінска вайскоўцам выдзелілі дом. Так бацькі Раісы апынуліся ў Беларусі.

## Беларускі працяг

Маці Раісы Міхайлоўскай Ірына Іванаўна Канаш родам з Калядзічаў, што пад Мінскам, так што для яе кватэра ў беларускай сталіцы азначала фактычнае вяртанне на сваю радзіму. Родным горад стаў і для самой Раісы, у які яна трапіла трохмесячным немаўлём.

Завадскі раён — адзін з самых пралетарскіх у Мінску. Адпаведны быў і кантынгент вучняў сярэдняй школы №43, якую скончыла Раіса. Аднак, нягледзячы ні на што, школьныя гады Раіса лічыць сапраўды цудоўнымі.

Зімой яны працавалі на мінскім падшыпнікавым заводзе (шліфавалі палачкі для сцяжкоў), зараблялі грошы на экскурсійны аўтобус, а летам амаль цэлы месяц ездзілі па літаратурных мясцінах: Ясная Паляна, Спаскае-Лутавінава, Чэхава, Меліхава, Кішынёў, Адэса... Пагадзіцеся, не кожны элітны клас можа пахваліцца такімі вандроўкамі.

Усе аднакласнікі Раісы Міхайлоўскай сталі паважанымі людзьмі. Ёсць сярод іх банкіры, бізнэсоўцы, інжынеры, настаўнікі, журналісты, юрысты.

Раіса заўсёды была лідарам. І адносна вучобы (выдатніца), і наконт грамадскай дзейнасці (камсорг класа). А галоўнае — афіцыйнае становішча цалкам адпавядала становішчу рэальнаму. Яе паважалі (і паважаюць зараз) і настаўнікі, і аднакласнікі. Пасля заканчэння школы на вечар сустрэчы выпускнікоў клас Раісы Міхайлоўскай доўгі час збіраўся амаль поўным складам. Дый цяпер многія аднакласнікі засталіся шчырымі і надзейнымі сябрамі.

У школе Раіса вельмі любіла матэматыку, таму выбар «мехмата» (вытворчае аддзяленне) БДУ ў 1977 годзе выглядае цалкам лагічна. У 1982 годзе першае працоўнае месца — малодшы навуковы супрацоўнік навукова-даследчай лабараторыі вылічальных сістэм Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Займалася распрацоўкай праграмных комплексаў і нават атрымала за гэта срэбны медаль ВДНГ СССР.

Потым была «Заходняя будаўніча-прамысловая біржа», дзе Раіса Міхайлоўская ў якасці інжынера-праграміста пачала займацца праграмным забеспячэннем.

Зараз Раіса ў другім шлюбе, адсюль і прозвішча Міхайлоўская. А першы быў падчас вучобы ў БДУ. На чацвёртым курсе Раіса выйшла замуж за свайго аднакурсніка Ігара. На жаль, іх шлюб распаўся, але яны змаглі захаваць цёплыя адносіны да самай яго смерці. Ад гэтага шлюбу нарадзілася дачка Кацярына, якая некалькі гадоў таму нарадзіла прыгажуню Ульяну, а зусім нядаўна яшчэ і сына Цімура.

## Праваабарончы паварот

Можна прывесці шмат прыкладаў, калі людзі кардынальна змяняюць сваё жыццё. Так адбылося і з Раісай Міхайлоўскай. Прычым, двойчы. У 1993 годзе яна перайшла на працу ў выдавецтва СП «Мока-Далфінг». Спачатку займалася камп'ютарнай вёрсткай і дызайнам, а праз год стала кіраўніком выдавецкага аддзела.

У 1995 годзе яе запрасілі на пасаду начальніка выдавецка-паліграфічнага аддзела ў другую вядомую фірму — «Красіка-Прынт», якая належала бізнэсоўцу Анатолю Красоўскаму. Таму самаму, які ў 1999 годзе трагічна знік разам з Віктарам Ганчаром.

1990-я гады не дарэмна называюць «ліхімі». Кватэрная афёра, ахвярай якой стала сястра Раісы, і пазнаёміла яе з праваабаронцам Алегам Волчакам. На той момант ён быў дэпутатам Мінскага гарсавета і як юрыст актыўна дапамагаў пацярпелым.

Хутка высветлілася, што па многіх падыходах да жыцця Алег і Раіса, як і шэраг іх калег, з'яўляюцца аднадумцамі. Так нарадзілася думка аб'яднацца ў праваабарончую структуру. Летам 1998 года прыхільнікі гэтай ідэі сабраліся на ўстаноўчы сход, а 10 верасня міністэрства юстыцыі зарэгістравала грамадскую арганізацыю «Прававая дапамога насельніцтву».

Калі чыноўнікі ўручалі юрыстам ліцэнзію на аказанне юрыдычнай дапамогі, яны шчыра віншавалі і бласлаўлялі іх на высакародную дзейнасць. Напэўна, у той час ніхто нават уявіць не мог, што праз пяць гадоў практычна гэтыя ж самыя людзі будуць (з дапамогай суда) пазбаўляць непадкантрольную ўладзе структуру афіцыйнай рэгістрацыі.

Раіса Міхайлоўская працавала ў «Прававой дапамозе насельніцтву» выканаўчым дырэктарам, была заснавальнікам і галоўным рэдактарам газеты «Грамадзянін і закон». Пры яе актыўным удзеле было выдадзена шмат бюлетэняў, кніжак і брашур па прававой тэматыцы.

У гэты ж час была створана грамадская камісія па расследаванню знікнення былога кіраўніка МУС Беларусі Юрыя Захаранкі.

Такога кшталту дзейнасць патрабавала адпаведных ведаў, і цалкам лагічна, што Раіса пайшла вучыцца ў Мінскі інстытут кіравання на спецыяльнасць «Правазнаўства». Некалькі разоў потым выязджала за мяжу на адпаведныя курсы павышэння кваліфікацыі. Скончыла праваабарончыя курсы ў Варшаве, стажыравалася ў ЗША і праходзіла трэнінг у Канадзе.

Асобна трэба ўзгадаць стасункі гераіні гэтага нарыса з Ірынай Казулінай. Не буду пералічваць усе дзеянні Раісы па вызваленні Аляксандра Казуліна, але ўпэўнена, што яно адбылося дзякуючы ў тым ліку і таму, што за яго шчыра змагаліся такія людзі, як Раіса Міхайлоўская.

## На ўласны досвед

У 2008 годзе выйшла замуж і з'ехала да мужа ў Швецыю, як казалі, «самая паэтычная праваабаронца» нашага часу Вера Страмкоўская. Перад ад'ездам яна прапанавала Раісе Міхайлоўскай узначаліць Цэнтр па правах чалавека. Тая пагадзілася, і кіравала ім да 2012 года.

Прынцыпова не буду ўлазіць у нейкія ўнутраныя разборкі і займаць канкрэтны бок. Адзначу толькі, што ўзяць структуру пад свой кантроль значна лягчэй, чым яе потым утрымаць.

У час прэзідэнцкіх выбараў 2010 года праваабаронца Раіса Міхайлоўская прыняла прапанову папрацаваць у юрыдычнай службе перадвыбарчага штаба Уладзіміра Някляева. Цалкам разумею гэты выбар лепшага паэта сучаснасці. Акрамя патрэбных юрыдычных ведаў у Міхайлоўскай быў і рэальны асабісты досвед.

Чатыры разы яна прымала ўдзел у выбарчых кампаніях іншых, а ў 2003 годзе паспрабавала стаць дэпутатам сама. Выпадак, калі за два дні да галасавання яе знялі за тое, што свой партрэт (ратуючы ад дажду) яна загарнула ў цэлафан, і гэтым перабольшыла фінансавыя сродкі, увайшоў ва ўсе маніторынгі таго часу.

Зноў не хачу некага пакрыўдзіць, але ў гэтым выпадку я з большага згодны з тымі, хто лічыць, што быць унутры кампаніі больш каштоўна, чым назіраць за кампаніяй выключна звонку. У дадзеным выпадку, нягледзячы на збіццё і арышт Уладзіміра Някляева, менавіта ўласны досвед дапамог Раісе скласці і падаць у Цэнтрвыбаркам ад імя арыштаваных кандыдатаў у прэзідэнты абгрунтаваную скаргу аб прызнанні выбараў несапраўднымі. І менавіта ўласны досвед быў карысным для Міхайлоўскай потым у арганізацыі дапамогі адвакатам і сваякам арыштаваных у снежні 2010-га.

> **Выпадак, калі за два дні да галасавання яе знялі за тое, што свой партрэт (ратуючы ад дажду) яна загарнула ў цэлафан, і гэтым перабольшыла фінансавыя сродкі, увайшоў ва ўсе маніторынгі таго часу**

## Самаробныя «святцы»

У кастрычніку 2012 года пачаў сваю дзейнасць зарэгістраваны ў Літве «Беларускі дакументацыйны цэнтр», які стварыла і ўзначаліла Раіса Міхайлоўская. Рэч, на мой погляд, вельмі карысная і патрэбная. І каб наглядна даказаць гэтую выснову, я нагадаю пра сваю кніжную паліцу.

Побач на ёй стаяць дзве энцыклапедыі. Адна выдадзена да 1995 года, другая — у нашы часы. У першай — інфармацыя дастаткова поўная і аб'ектыўная, у другой — жудасна цэнзураваная, з яе старонак наогул зніклі біяграмы былога кіраўніка ўраду Міхаіла Чыгіра, шматгадовага кіраўніка прафсаюзаў Уладзіміра Ганчарыка.

Знайсці пад заваламі прапагандысцкай хлусні аб'ектыўныя дакументальныя сведчанні нашай эпохі, нашай барацьбы нашчадкам будзе дастаткова складана. Для таго ж, каб яны засталіся ўвогуле, і ствараюцца падобныя цэнтры.

Гэта вельмі важна, калі ў судах адвакаты перакананаўча бароняць дэмакратычных дзеячаў, але матэрыялы для іх рыхтуюць юрысты, якія скрупулёзна збіраюць патрэбныя дакументы і фіксуюць факты. Раіса Міхайлоўская менавіта з такіх.

Калі ішла работа над гэтым нарысам, у мае рукі трапіў самаробны часопіс «Мая сям'я». Некалькі гадоў таму 40 экземпляраў, зробленых рукамі Раісы Міхайлоўскай, былі раздадзены амаль усім яе сваякам. Гэта даволі грунтоўная радаслоўная іх сям'і.

Раіса там піша: «У старыя добрыя часы нашых дзядоў і прадзедаў перадавалася з пакалення ў пакаленне Евангелле, на палях якога запісвалася кароткая сямейная хроніка. Хто нарадзіўся, калі ажаніўся, калі памёр...»

Шкада, але сёння гэтых самаробных «святцаў» амаль няма. Асабліва ў палітыцы. А дарэмна, бо так больш цяжка ісці ўперад без памылак...

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ TV

## 25 ЛЮТАГА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** «Кадэт» («Беларусьфільм»).
**12.15** Дак. фільм «Войска народа».
**12.45** Вакол планеты.
**13.35** Eurovision. Вынікі тыдня.
**13.55** Журналісцкае расследаванне.
**14.25** Таямніцы следства.
**15.10, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Прыгодніцкі фільм «Зялёны фургон» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**17.45** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**19.20** «Трыўмф. Героям спорту». Дзённік.
**19.35, 00.30** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Форум.
**22.40** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).

### Н (ОНТ)

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «Пяць нявест».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**22.10** Цырымонія ўручэння ўзнагарод амерыканскай кінаакадэміі «Оскар-2013». Перадача з Лос-Анджэлеса.
**00.30** «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Тыдзень».
**10.10** «Уявіце сабе».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Глядзець усім!».
**14.50** «ХОР-ШОУ». Адмысловы выпуск.
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Скрыжаванне 10-й і Вульф». ЗША, 2006 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Пякельная кухня - 2».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 1 серыя.
**11.20** Прыгодніцкі баявік «Рыцары неба» (Францыя).
**13.20** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.55** Цела чалавека.
**14.30** Камедыйны серыял «Дзяўчыны».
**15.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Трагікамедыя «Нябёсы запаветныя».
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**22.40** Камедыйны серыял «Дзяўчыны».
**23.35** Авертайм.
**00.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**01.00** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 1 серыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Шукальнікі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Карункі».
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Прышэльцы. Гісторыя ваеннай таямніцы».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.30** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Серыял «Марскія д'яблы».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Тэлесерыял «Гарачы лёд».
**11.00** Вынiковая праграма «Разам».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Праграма «Агульны рынак».
**12.40** Праграма «Навіны Садружнасці. Культура».
**13.15** Мастацкі фільм.
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.50** Праграма «Саюзнікі».
**19.15** Праграма «Ўсюды жыццё».
**19.45** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**20.10** Праграма «Беларусь сёння».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Свет спорту».
**21.55** Дакументальны фільм «У свеце сакрэтных ведаў».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Цёмны інстынкт».
**01.15** Праграма «Зроблена ў СССР».
**01.40** Мастацкі фільм «А ці быў Каратын?».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55, 15.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20, 15.55** Дак. гадзіна: «Дзеці рэвалюцыі», дак. фільм, 2002 г., Польшча.
**09.20** Два на два (тэледыскусія).
**09.45** Euromaxx.
**10.15** Форум (ток-шоу).
**10.55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Псеўданім Пух».
**11.45** «Ясмін», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**13.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**14.05** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**14.50** ПраСвет.
**15.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.55** Форум (ток-шоу).
**17.40** Відзьмо-невідзьмо: выд. 19.
**18.05** Еўропа сёння.
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (парваднік гледача).
**21.30** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Ясмін», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**23.40** Студыя «Белсат».
**01.15** Асабісты капітал.
**01.35** Аб'ектыў.
**02.05** Не прапусці! (парваднік гледача).
**02.25** «Калыханка» ад Сашы і Сярожы.

## 26 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Трыўмф. Героям спорту». Дзённік.
**12.30** Дак. серыял «Будзь у тонусе!».
**13.00** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.20** Культурныя людзі+.
**16.55** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.45** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.45** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**01.15** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### Н (ОНТ)

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ясенін».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** «Задзіракі».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вялікі сняданак».
**09.40** «Такі лёс».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Кілеры». ЗША, 2010 г.
**15.45** «Дзіўная справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Інспектар-разява». Францыя, 1980 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Белыя ваўкі». Серыял.
**01.15** «Нам і не снілася»: «Старажытныя геніі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**11.05** Авертайм.
**11.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.40** Меладрама «Кальe для снежнай бабы» (Украіна).
**14.30** Камедыйны серыял «Дзяўчыны».
**15.30** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**22.35** Камедыйны серыял «Дзяўчыны» (Расія).
**23.35** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**00.05** Меладрама «Кальe для снежнай бабы» (Украіна).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Карункі».
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Вымяральнік розуму. IQ».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Тэлесерыял «Гарачы лёд».
**10.45** Праграма «Незорнае дзяцінства».
**11.15** Праграма «Агульны інтарэс».
**11.40** Праграма «Простая мова».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Тэлесерыял «Трое зверху».
**13.15** Мастацкі фільм «Ты ёсць.».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.50** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Дыяспары».
**21.55** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Цёмны інстынкт».
**01.15** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.05** Мастацкі фільм «Ты ёсць.».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Не прапусці! (парваднік гледача).
**09.40** Еўропа сёння.
**10.10** «Дзеці і рыбы», маст. фільм, 1997 г.
**11.45** Студыя «Белсат».
**13.25** Асабісты капітал.
**13.45** Аб'ектыў.
**14.10** Не прапусці! (парваднік гледача).
**14.30** Еўропа сёння.
**15.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.10** «Дзеці і рыбы», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**16.45** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 1 серыя.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** На колах.
**18.30** Без рэтушы: «Лёсавырашальная сустрэча», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Чорным па белым.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Доктар Марцін», серыял: 8 серыя.
**22.35** Назад у будучыню.
**22.50** Форум (ток-шоу).
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.05** Чорным па белым.
**01.30** Аб'ектыў.
**02.00** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.20** «Калыханка» ад Сашы і Сярожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 27 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.40** Заўтра - гэта мы!
**13.10** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.20** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.50** Зямельнае пытанне.
**17.15** Медычныя таямніцы.
**17.45** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Цырымонія ўрачыстага ўзнагароджання лаўрэатаў адкрытага публічнага конкурсу «Трыўмф. Героям спорту - 2012».
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**01.10** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ясенін».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Фільм «Дваранскае гняздо».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гадзіна суда».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Інспектар-разява». Францыя, 1980 г.
**15.45** «Жывая тэма».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Нявеста і забабоны». Вялікабрытанія-ЗША, 2004 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Белыя ваўкі». Серыял.
**01.15** «Нам і не снілася»: «Архітэктары старажытных планет».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 2-я серыя.
**10.50** Спартовая меладрама «Жалезныя гульні» («Беларусьфільм»).
**12.30** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.35** Камедыйны серыял «Дзяўчыны» (Расія). Заключныя серыі.
**15.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія) 16.45 Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлата 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Жураў» (Расія).
**22.40** Камедыйны серыял «Дзяўчыны» (Расія). Заключныя серыі.
**23.35** Спартовая меладрама «Жалезныя гульні» («Беларусьфільм»).
**00.50** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 2-я серыя.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Карункі».
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Салдат імперыі».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі...».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».

### Мир

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Тэлесерыял «Гарачы лёд».
**10.45** Праграма «Любімыя акцёры».
**11.15** Праграма «Даведнік».
**11.40** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Тэлесерыял «Трое зверху».
**13.15** Мастацкі фільм «Я буду чакаць».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.50** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55** Дак. фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Цёмны інстынкт».
**01.15** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**01.40** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.25** Мастацкі фільм «Я буду чакаць».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Чорным па белым.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах.
**10.10** «Доктар Марцін», серыял: 8 серыя.
**11.00** Вагон.
**11.10** Форум (ток-шоў).
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.25** Чорным па белым.
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.35** На колах.
**15.05** «Доктар Марцін», серыял.
**15.55** Вагон.
**16.00** Форум (ток-шоў).
**16.45** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 2 серыя.
**17.30** Асабісты капітал.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.00** Праект «Будучыня».
**18.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Ночы і дні», серыял: 2 серыя.
**22.50** Два на два (тэледыскусія).
**23.15** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**23.55** Студыя «Белсат».
**01.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.55** Аб'ектыў.
**02.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 28 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Таямніцы следства.
**13.15** Цырымонія ўрачыстага ўзнагароджання лаўрэатаў адкрытага публічнага конкурсу «Трыўмф. Героям спорту - 2012».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.30** Перазагрузка.
**16.20** Каробка перадач.
**16.55** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.25** Нашы.
**17.40** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**01.20** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ясенін».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** «Іронія лёсу Сяргея Бязрукава».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Нявеста і забабоны». Вялікабрытанія-ЗША, 2004 г.
**15.50** «Якія людзі!».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Марс». Расія, 2004 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Белыя ваўкі». Серыял.
**01.15** «Нам і не снілася».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Вышэй за дах.
**10.45** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 3-я серыя.
**11.25** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**13.30** Дэтэктыў «Жураў» (Расія). Закл. серыя.
**14.40** Беларуская часіна.
**15.50** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.15** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Камедыя «Няўлоўная чацвёрка».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Час футболу.
**22.15** Дэтэктыў «Жураў» (Расія). Закл. серыя.
**23.20** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**01.00** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 3-я серыя.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Карункі».
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».

### Мир

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Тэлесерыял «Гарачы лёд».
**10.45** Праграма «Зроблена ў СССР».
**11.15** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**11.40** Праграма «Простая мова».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Тэлесерыял «Трое зверху».
**13.15** Мастацкі фільм «Сустрэнемся ля фантана».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.50** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Па шчырасці».
**21.55** Дак. фільм «Зоркі на мяжы экстрыму».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Цёмны інстынкт».
**01.15** Праграма «Беларусь сёння».
**01.40** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.25** Мастацкі фільм «Сустрэнемся ля фантана».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Праект «Будучыня».
**10.10** «Ночы і дні», серыял: 2 серыя.
**11.15** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** Праект «Будучыня».
**15.10** «Ночы і дні», серыял: 2 серыя.
**16.15** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**16.55** «Час гонару», серыял: 9 серыя.
**17.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял.
**22.35** «Доўгае падарожжа цераз гісторыю Балканаў», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.00** Рэпартэр.
**01.30** Аб'ектыў.
**01.55** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №2 (78) (люты)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



**ПАМФЛЕТ**

# КАРОТКАЯ ЛЕКЦЫЯ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ

Віктар САЗОНАЎ

**Пасля развалу сацыялістычнага лагеру маладыя незалежныя рэспублікі сталі на радасцях хутка будаваць сваю нацыянальную ідэалогію. Паколькі кожны народ на свеце хоча быць не толькі сытым, але і вечным, то само існаванне яго без нацыянальнай ідэі падаецца вельмі нелагічным і супярэчлівым.**



Фота А. Каліновіча

Вось і пачалі яе шукаць у былых сацыялістычных краінах усе, хто не выкарыстаў смутны і мутны час для таго, каб узбагаціцца ў бізнэсе або зрабіць кар’еру ў палітыцы. А спрэчак было колькі, і кожны сваё хацеў. Але ўсе будавалі падмуркі на гістарычнай спадчыне.

Беларусы не былі выключэннем. Але пакуль яны займаліся пабудовай гістарычнай іерархіі, іншыя паразбіралі іхных і агульных нацыянальных герояў, як заўсёды спрытныя бабулькі разбіраюць соль, цукар і запалкі перад пачаткам вайны.

У нацыянальных колах тых часоў нават узнік такі анекдот. Нібыта паспрачаліся суседзі беларусаў пра тое, хто больш чалавецтву даў. Палякі кажуць: мы. Мы далі такога героя і воіна, як Касцюшка. І такога кампазітара, як Агінскі. Але тут руская з імі не пагаджаюцца. Кажуць, наш Чайкоўскі не менш вядомы ў свеце музыка, чым ваш Агінскі. А такі мысліцель, як Дастаеўскі, увогуле для чалавецтва мае надзвычай вялікае значэнне. Можа, нават большае, чым мысліцелі антычнасці. І нават большае, чым мысліцелі будучага. І нават большае, чым уменне чалавека гаварыць.

Тут ужо і літоўцы не пагаджаюцца. Заела іх так, што аж кулакі пасціскалі. Кажуць, гэта іх Вітаўт Грунвальдскую бітву выйграў, таму і ёсць найвялікшым ваярам. А без перамогі на Грунвальдскім полі гэтая спрэчка ўвогуле не мела б аніякага сэнсу. Бо ўсе прозвішчы вялікіх людзей былі б нямецкія.

Тут палякі кулакі пасціскалі. Як гэта ваш Вітаўт выйграў, калі гэта заслуга нашага Ягайлы. Гэта ён крыжакоў спыніў.

Так яны доўга спрачаліся, стаміліся, як сто дзён ішлі пад гару і супраць ветру і анічога не елі. А пасля крыху прыціхлі ды пытаюцца ў беларусаў:

— А вы што далі чалавецтву?

— Ды нічога мы не далі, — адказваюць беларусы.

— Як гэта, — дзівуюць суседзі. — Цэлы народ, і зусім анічога ды анікога не даў для чалавецтва!..

— Так, — пагаджаюцца беларусы. — Чалавецтву анікога не далі. А вось палякам далі Агінскага, рускім Дастаеўскага і Чайкоўскага ў прыдачу, літоўцам шмат чаго і каго, але і аднаго Вітаўта ўжо шмат. Бо ён сапраўды на Грунвальдзе ваяваў. Дарэчы, разам з Ягайлам, які Вітаўту братам быў, і таксама з зямлі беларускай. Так што мы шмат чаго і каго падарылі іншым народам. А вось чалавецтву неяк не атрымалася. Іншыя народы нас апярэдзілі, пакуль мы ад іх падзякі чакалі…

Ну гэта ўсяго толькі анекдот. Хаця, як вядома, у кожным жарце ёсць крыху жарту. Але спрэчкі наконт нацыянальных герояў разгараліся не на жарт. Гарэлі як вогнішчы інквізіцыі, як маякі на Балтыцы, як вочы ў ката ноччу.

Вось аднаго разу сабраліся хлопцы нацыянальнай арыентацыі і давай спрачацца.

— Наш Адам Міцкевіч, — кажа адзін. — Беларускага ён паходжання.

— Не, наш, — кажа другі. — Паляк ён ад крыві і косці.

— Ты яшчэ скажы, што і Булак-Булаховіч ваш, — ускіпеў першы.

— А табе дай волю, то ты і Пілсудскага сабе прыпішаш толькі з тае прычыны, што той меў няшчасце недзе ў вас нарадзіцца.

— А можа гэта яго шчасце?

І давай хлопцы спрачацца, ажно пена з роту пайшла. Як у шалёных сабак у перыяд спарвання. Ніхто саступіць не хоча, як бараны на мосце. Ды што там саступіць? Маўчаць ніхто не збіраецца.

Тут да спрэчкі і прыяцелі далучыліся. Раздымаць іх пачалі, супакойваць. Напачатку было ўсё добра. Нібыта і атрымлівалася памірыць. А пасля пачалося. Хацелі зрабіць як лепш, а атрымалася — як заўсёды.

Пачалі ўжо за грудзі хапаць цэлымі камандамі. Сценка на сценку. Невядома, чым бы гэты навуковы дыспут скончыўся б, калі б не адзін дзед. Сядзеў ён напачатку ціха, слухаў толькі, як разведчык, якога справа запамінаць, а не ўплываць на сітуацыю. Але як маладыя навукоўцы сталі свае навуковыя аргументы закасваць па локаць, выраўнуй часова змяніць амплуа разведчыка на больш цывільную прафесію.

— Можа, перш чым сваімі гістарычнымі аргументамі паб’еце морды адзін другому, — прапануўвае ён, — спачатку мяне паслухаеце?

— А што, можа, дзед гісторык? — пытаюцца тыя.

— Гісторык не гісторык, — спакойна працягвае дзед, — а і Пілсудскага і некаторую гісторыю на свае вочы бачыў.

— Ну то скажы, — крыху супакоіліся маладзёны.

— Ну то скажу, — усміхаецца дзед. — Мне здаецца, што не пра тое спрачаецеся і не пра тое размаўляеце вы. Лепш пагаварыце не аб тым, чый Міцкевіч, а пра тое, які ён. І што з яго не грэх і прыклад узяць і тым, і другім. Бо адны з вас кажуць: «Наш Міцкевіч», і другія: «Не, Міцкевіч наш». Усе сабе хочуць забраць. А падумайце, чаму кожны хоча яго прысвоіць? І лепш самі паспрабуйце такімі постацямі стаць, каб пра вас хоць нехта сказаў: «Наш». Бо вось, прыкладам, пра Дзяржынскага ўсе кажуць: «Ён не наш, ваш ён». А другія: «Не, ён ваш». Ніхто сабе яго не хоча. Усе адракаюцца. Адзін другому ўпіхнуць хочуць. А Міцкевіча кожны хоча забраць сабе… Вы, — працягвае дзед, — і можаце стаць той нацыянальнай ідэяй. Яна з вас і пачынаецца. А гістарычныя постаці пасля скажуць, хто з вас іхны. Вось тады і яны вырашаць, з кім з вас застацца.

▸ ПАЛІЦА

# ЭЛЕКТРОННЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Расійская кампанія ABBYY разам з інстытуцыяй СНД рыхтуе першы афіцыйны электронны слоўнік беларускай мовы.**

Электронны слоўнік — сумесны праект ABBYY і Міждзяржаўнага фонда гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД — ствараецца на базе ABBYY Lingvo. Праграма складаецца са слоўнікаў 12 дзяржаўных моў СНД і Грузіі. Усе мовы будуць мець два накірункі перакладу: з дзяржаўнай мовы краіны на расійскую і наадварот.

«Слоўнік прызначаны для папулярызацыі дзяржаўных моў краін Садружнасці і развіцця гуманітарнага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі-ўдзельніцамі СНД», — гаворыцца ў паведамленні на сайце кампаніі.

Меркаваны памер слоўніка і дата яго выхаду пакуль не агучаны.

**Generation.by**

▸ MEMORIA

# ПАМЯЦІ ІВАНА АНОШКІНА

**У ноч з 2 на 3 лютага ў сваёй кватэры, што на магілёўскім праспекце Міра, на 86 годзе жыцця спачыў у вечнасці аўтар шматлікіх зборнікаў прозы, вершаў, газетных публікацый пісьменнік, сябар СБП Іван Аношкін.**



Галоўным прынцыпам жыцця Івана Архіпавіча быў дэвіз «Зломіш, але не сагнеш». Да свайго апошняга дня ён заставаўся абаронцам беларускага слова.

Нарадзіўся Іван Архіпавіч Аношкін 21 студзеня 1928 года ў вёсцы Антонаўцы Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Пісаць па-беларуску пачаў яшчэ школьнікам. Першыя яго творы з'явіліся ў друку ў 1946 годзе. Першы ж зборнік апавяданняў і гумарэсак «Лішні мінус» выйшаў у 1959 годзе.

Развітацца з Іванам Архіпавічам прыйшлі калегі-літаратары, сябры ТБМ, партыі БНФ, партыі левых «Справядлівы свет», а таксама колішнія малалетнія вязні канцлагера «Азарычы», у якім ледзь выжыў будучы пісьменнік (і дзе памерлі два яго малодшыя браты — Яўген і Мікалай; старэйшы ж брат Дзмітры загінуў у партызанах).

Старшыня абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў адзначыў прынцыповасць, з якой Іван Аношкін адстойваў свае погляды: «Калі ўзнікла сітуацыя з тым другім Саюзам — Саюзам пісьменнікаў Беларусі, які адпачкаваўся ад старога Саюза беларускіх пісьменнікаў, і калі яму прапанавалі перайсці ў новы саюз, ён адказаў, што нікуды не пойдзе. Казаў: «Я хачу застацца ў Саюзе, дзе быў Якуб Колас, Янка Купала, дзе ўсе мае аўтарытэты, якіх я ведаю, якіх я памятаю». Мова ягоная заўжды была вострая і афарыстычная. Ягоныя фельетоны, як гаворыцца, заўжды білі ў вока».

Пахавалі Івана Аношкіна 4 лютага на паўднёва-ўсходніх могілках Магілёва.

Сакратарыят ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і Магілёўскае абласное аддзяленне СБП смуткуюць і выказваюць спачуванні родным і блізкім Івана Архіпавіча.

Вечная памяць!

**Прэсавая служба СБП**

## ▾ САКАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



01.03.1943 — Уладзімір Генрыхавіч Пецюкевіч
01.03.1948 — Анатоль Міхайлавіч Сідарэвіч
04.03.1958 — Леанід (Лявон) Пятровіч Баршчэўскі
08.03.1948 — Алесь Аляксандравіч Клышка
10.03.1933 — Серафім Антонавіч Андраюк
12.03.1943 — Вера Паўлаўна Пракаповіч
14.03.1953 — Наталля Дзмітрыеўна Марціновіч
20.03.1953 — Уладзімір Пятровіч Бутрамееў
24.03.1968 — Аляксандр Міхайлавіч Стрыгалёў
25.03.1928 — Уладзімір Львовіч Мехаў
27.03.1938 — Ілля Аляксандравіч Шахрай
30.03.1933 — Валянцін Пятровіч Грыцкевіч

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

▸ ЛІТПРАЦЭС

# «ВЕРШЫ НА АСФАЛЬЦЕ»

**14–16 лютага 2013 года адбыўся Другі міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова.**



Фота Алены Казловай

Арганізатары фестываля — Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр, Інстытут імя Гётэ ў Мінску, а таксама Шведскі саюз пісьменнікаў. Імпрэзы праходзілі пры падтрымцы кампаніі «Будзьма!».

14 лютага, у Дзень усіх закаханых і ў дзень нараджэння Міхася Стральцова, адбылося ўрачыстае адкрыццё фестывалю. Зала была перапоўненая — імпрэзу наведалі не меней за дзвесце чалавек.

— Хочацца верыць, што фестываль стане штогадовым, будзе праводзіцца пастаянна і што лепшыя беларускія аўтары незалежна ад узросту і эстэтычных прыхільнасцей будуць збірацца і слухаць адно аднога, што ўсё большая колькасць беларусаў з розных гарадоў будуць наведваць паэтычныя імпрэзы, — адзначыў вядоўца імпрэзы Андрэй Хадановіч.

Барыс Пятровіч пажадаў усім прысутным, каб натхненне, атрыманае на гэтым фестывалі, стала штуршком да творчасці, да напісання новых вершаў і самаразвіцця.

— Міхась Стральцоў — вялікі беларускі паэт, эсэіст, празаік, крытык, літаратурны рэдактар. Ужо гэтага дастаткова, каб назваць ягоным іменем фестываль. Але варта таксама адзначыць, што яго творчая постаць прывабная для аўтараў самых розных узростаў, маладзейшых і старэйшых. У 1960-х, калі Стральцоў пачынаў, яго сапраўды называлі наватарам, што, магчыма, для сённяшняй моладзі не зусім зразумела. Цікава, якімі будуць цяперашнія маладыя эксперыментатары праз 50 гадоў, як іх будуць успрымаць чытачы — традыцыяналістамі?.. Хацелася б, каб падобных мерапрыемстваў было як мага больш і розных. Як, напрыклад, свята паэзіі ў гонар Анатоля Сыса на Гомельшчыне або памяці Ніны Мацяш на Берасцейшчыне, ці фестываль Алеся Пісьмянкова на Магілёўшчыне. Але ў нас яшчэ дзясяткі слынных імёнаў, пра якія варта згадваць і ў гонар якіх ствараць і развіваць літаратуру, — адзначыў Барыс Пятровіч.

Алесь Разанаў паспрабаваў у сваёй прамове раскрыць загадку Міхася Стральцова, як некалі сам Міхась Лявонавіч пісаў пра «Загадку Максіма Багдановіча». Спадар Алесь агучыў і праінтэрпрэтаваў стральцоўскі верш, а напрыканцы выступу прачытаў свае новыя пункціры.

— Паэзія насамрэч вызваленне ад слоў, бо толькі тое, што не напісалася, тое, што нельга выказаць словамі, і ёсць самае істотнае. Вершы Стральцова якраз не даюць нам абмінуць самае важнае, — сказаў Алесь Разанаў.

Сваё адчуванне і разуменне творчасці Міхася Стральцова выказалі ў сваіх выступах Адам Глобус, Галіна Дубянецкая. З канцэптуальным эсэ выступіў Ігар Бабкоў, чытаў вершы паэт Ігар Коцюх (Эстонія) — спецыяльны госць Фестываля. Уладзімір Арлоў падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчы з Міхасём Стральцовым, які стаўся грамадскім рэдактарам яго першай кнігі.

Нечаканым і кранальным стала выступленне Галіны Сямёнаўны Стральцовай, першай жонкі паэта.

Урачыстую частку завяршыла музыка Андруся Такінданга і гурта «Рэха».

Калі быў абвешчаны паэтычны слэм, колькасць наведнікаў значна павялічылася. Пяць сябраў журы, якія выстаўлялі ацэнкі ад 1 да 5, па правілах слэму, былі абраныя адвольна, са звычайных гледачоў.

У слэме прынялі ўдзел 19 паэтаў, сярод якіх былі не толькі беларусы (Юля Цімафеева, якая выступіла мацней за ўсіх іншых паэтак, Вольга Гронская, Кацярына Зыкава, Віталь Рыжкоў, Андрэй Адамовіч, Алесь Плотка, Павал Свярдлоў і інш.), але і замежныя госці: Ігар Коцюх і Андра Тээдэ (Эстонія), Сяргей Бірукоў (Расія/Нямеччына), Інга-Ліна Ліндквіст (Швецыя), Аня Кампман (Нямеччына; з перакладчыцай Марыяй Мартысевіч).

У фінал патрапілі Віктар Жыбуль, Серж Мядзведзеў, Сяргей Прылуцкі і Дзмітрый Строцаў. Перамогу ў слэме здабыў Віктар Жыбуль.

15 лютага Інга-Ліна Ліндквіст (Швецыя) выступіла з лекцыяй «Лёс і апавяданне: аўтабіяграфічная проза». У паэтычных чытаннях узялі ўдзел Валянціна Аксак, Сяргей Бірукоў, Кацярына Глухоўская, Анатоль Івашчанка, Ігар Коцюх, Уладзімір Някляеў, Арцём Паляжака, Данатас Пятрошус, Віталь Рыжкоў, Павел Свярдлоў, Міхась Скобла, Дзмітрый Строцаў, Андра Тээдэ.

Завяршыўся фестывальны дзень прэзентацыяй паэтычнай серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» (кнігі Ірыны Багдановіч, Анатоля Брусевіча, Леаніда Галубовіча, Аксаны Данільчык, Леаніда Дранько-Майсюка).

16 лютага былі ўзнагароджванне пераможцаў конкурса маладых літаратараў імя Максіма Танка, прэзентацыя зборніка пераможцаў конкурса маладых літаратараў імя Чэслава Мілаша, канцэрт гурта Tonqixod (Тонкіход), прэзентацыя кніжнай серыі СБП «Пункт адліку» і паэтычныя чытанні.

**Прэсавая служба СБП**



# ПРЭМІЯ «ДЭБЮТ» ІМЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Вызначаны шорт-ліст прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча.**

Сярод намінантаў — аўтары з кнігамі, якія выйшлі ў серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня Пісьменніка» / «Пункт адліку»: Наста Манцэвіч з паэтычным зборнікам «Птушкі» і Андрэй Пакроўскі з празаічным выданнем «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза».

**Проза:**

Андрэй Пакроўскі. Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза. Мінск: Логвінаў, серыя «Кнігарня Пісьменніка» / «Пункт адліку»).

Юлія Шарова. Don Giovanni, або Памілаваны свавольнік. – Электроннае выданне.

Ксенія Шталянкова. Адваротны бок люстра. — Мінск: Логвінаў.

**Паэзія:**

Андрэй Адамовіч. Дзень паэзіі смерці дзень. Мінск: Логвінаў.

Кацярына Макарэвіч. Соль і неспакой. Мінск: Галіяфы.

Наста Манцэвіч. Птушкі. Мінск: Логвінаў, серыя «Кнігарня Пісьменніка» / «Пункт адліку»).

**Пераклад:**

Святлана Богуш / Рудольф Слобада. Розум. Мінск: Зміцер Колас.

Павел Рааго / Жо Лангерава. Калісьці ў Браціславе. Маё жыццё з Оскарам Л. Мінск: Зміцер Колас.

Ганна Янкута / Чарлз Дыкенс. Калядны харал. Мінск: Зміцер Колас (электронная кніга).

Журы шчыра віншуе намінантаў і паведамляе, што ўзнагароды, галоўныя і заахвочвальныя, будуць уручаны 21 сакавіка, у Сусветны дзень паэзіі.

ЗГАДКІ

# ЯЕ ВЫСОКАЯ ЛЮБОЎ: НЕАНІЛА ТУЛУПАВА

Янусь МАЛЕЦ

**1 лютага 2013 года ёй споўнілася б толькі 75 гадоў. Здавалася, такой жыццярадаснай і прыгожай, напоўненай светлым аптымізмам жанчыне жыць сабе ды жыць да сотні гадоў. І пісаць свае таленавітыя, арыгінальныя творы. Расціць унучку… Аднак лета 2001 года забрала яе ад нас...**



На пачатку сваіх разважанняў-успамінаў пра Анэлю Тулупаву не магу не прывесці самыя характэрныя, вядомыя ўсім, хто цікавіцца паэзіяй, радкі з далёкага 1958 года. Яны лічацца праграмнымі:

*Скажыце ўсім,*
*Што я люблю вас,*
*Людзі.*

І гэта не бравада, не вобраз дзеля дасягнення паэтычнага эфекту. Гэта яе сапраўдная сутнасць, дабрыня, прадвызначэнне, дадзеныя адтуль — з высокага неба, дзе эпіцэнтр Любові, дзе жыве Бог, да якога яна ў канцы зямнога быцця наблізілася максімальна. Не толькі таму, што прыняла сан манахіні і набыла варыянт свайго новага імя Неаніла, а таму што ўсёй сваёй істотай акунулася ў рэлігійны свет хрысціянства, у які падсвядома цягнулася ці не ўсё жыццё...

Эпагеем яе творчасці стала апошняя перадсмяротная публікацыя ў «ЛіМе» 6 красавіка 2001 года. Паэтка ўклала ў нізку ўвесь астатак моцы і эмоцый. Будучы вельмі хворай, папрасіла мяне перадрукаваць рукапіс на машынцы і аднесці ў рэдакцыю, што спешна і зрабіў. Помню, тады спагадліва прыняў творы Мікола Гіль, паўспамінаў прыязна пра талент аўтаркі, пра тое, што ў свой час і яе бацька быў творцам. Паабяцаў не зацягваць з публікацыяй — і слова стрымаў.

У той публікацыі ў вершы «Я памалюся за вас» ёсць прарочыя радкі:

*Ападаюць пялёсткі*
*Ненапісаных вершаў маіх.*
*Завіхурыў на ростанях*
*Вецер жнівеньскі іх.*

Не стала Неанілы 30 ліпеня перад самым-самым жнівенем, у якім закружыліся, апалі пялёсткі задуманых вершаў, абарваліся зямныя мары і надзеі Дабрадзеі, як яе часам называлі сябры суадносна з гераіняй аднайменнай паэмы. Адбылося развітанне назаўсёды з любімымі людзьмі, сваякамі, з крывінкамі: дачкой Алесяй і ўнучкай Лерай. У апошняй нядаўна з'явілася першая паэтычная кніжка «След дождя». Ёсць шэраг публікацый і на беларускай мове. Прычым на конкурсе ў «Звяздзе» яе апавяданне, калі не памыляюся, прызналі лепшым. І іншыя творы сведчаць пра талент маладой дзяўчыны. Хочацца верыць, Валерыя прыстойна прадоўжыць шлях знакамітай бабулі. Яна з цікавасцю і любоўю адшуквае яе нідзе не друкаваныя творы ў дамашнім архіве. Дзякуючы гэтай клапатлівасці з'явіліся цікавыя празаічныя рэчы Анэлі Тулупавай у «Маладосці» і ў «Полымі», якія не друкаваліся пры жыцці. Прачытанае адразу паўстае ва ўяўленні. Мова сакавітая, сціслая, ёсць свой адметны стыль з яркімі фарбамі і адценнямі.

Мне асабліва спадабалася апавяданне «Калі прачнецца чарапаха». Твор можна смела назваць маленькай аповесцю. У ім адчуваецца нямала аўтабіяграфічнага. Галоўная гераіня, Гэля (Нэля? — Я.М.) Пятроўна Вераб'ёва, маладая акушэрка, учарашняя студэнтка, максімалістка па характары, паэтычная натура, вясёлая і гарэзлівая, поўная аптымістычнай энергіі, уліваецца ў калектыў невялічкай пасялковай бальніцы і сутыкаецца з першымі цяжкасцямі і праблемамі.

Здзіўляе сюжэт апавядання вялікай колькасцю герояў і падзей. Трэба ж валодаць мастацкім дарам, каб усё складна і цікава ўладкаваць на няпоўных двух дзясятках старонак. Да таго ж яшчэ па-майстэрску разбавіць запамінальнымі, каларытнымі малюнкамі...

Не даў Бог раскрыліцца напоўніцу празаічнаму таленту Анэлі Іванаўны. Разам з паэтычнай плынню ўсё разбілася аб чорнавострыя жыццёвыя рыфы...

Чалавечы яе лёс, як і літаратурны, напачатку складваўся шчасліва. А потым трагічная страта бацькоў, мужа, блізкай сяброўкі Ганны Рыжковай...

Хаця боль несумненна апаноўваў і раней, як кожнага сапраўднага творцу, з-за недасканаласці зямнога жыцця, з-за сацыяльных праблем і несправядлівасці. Помніцца, упершыню прачытаў паэму «Быццам страла, быстрая ластаўка» на пачатку 80-х, калі ў грамадстве, пранізаным хлуснёй, хваласпевам уладзе і маразматычнасцю, прыхавана наспявала штосьці невядома-значнае. Рэвалюцыйны пафас і філасафічнасць твора ўразілі смеласцю думак. Сюжэт быў пра далёкіх па часе дзекабрыстаў, аднак грамадзянска-мужнае гучанне прарывалася ў сучаснасць, перамяжоўвалася з тутэйшай рэчаіснасцю, акрыляла вольналюбствам:

*Чытаю:*
*«13 ліпеня… цар*
*Расправіўся з дзекабрыстамі…»*
*Што такое?*
*Крык падсвядомасці?*
*У якой паслядоўнасці?*
*Верш пра Цётку я песціла.*
*Абарваўся ён Песцелем.*
……………………..
*Даганяю цябе,*
*Алаіза,*
*па ўзросту,*
*А паэткай*
*хаджу*
*ў маладых.*
……………
*Не апошняй табе,*
*Не першай*
*Абарванаю песняю стаць,*
*Бо ўзрывала няволі стан,*
*Як гранатаю — вершам*
……………………
*Свінцом зацяжарылі строфы,*
*Чорная ноч даўжэе.*
*Хвіліны яе адлічаны,*
*Ліпень яго Галгофы —*
*Ліпень*
*Твайго нараджэння*
*І — паўвека*
*Між лічбамі.*
*І ў табе яго ліпень прарос,*
*Як зерне скрываўленых рос.*
*Нескаронай душы рака*
*Б'ецца ў жылах твайго радка.*
………………………
*Ліпень.*
*Белая ноч.*
*«Фауст» Ференца Ліста.*
*Учорашні*
*дзень каля ног*
*Лёг каляндарным лістам.*

**(Зборнік «Сонца ў хату», 1986 г.)**

Дабрадзея ідзе да нас з адкрытай душой. Ды ці адчуваем мы яе прыход, калі памяць людская слабне, атручваецца з тэлеэкранаў і вокладак глянцавых выданняў іншымі «каштоўнасцямі» — не тымі, якімі жыла яна...

...Помніцца першая сустрэча і асабістае знаёмства, якое адбылося ў рэдакцыі часопіса «Вожык». Прывёў мяне ў кабінет Уладзімір Правасуд. За пісьмовым сталом сядзела прыгожая жанчына. Уразіў уважлівы, пранікілівы позірк. Здавалася, яна як бы зазірнула ў душу: «А што ж ты за чалавеча такі?»...

Гэта быў харошы і насычаны час. І ўсё дзякуючы яе запрашэнню папрацаваць у вядомым выданні.

Да Анэлі Іванаўны прыходзіла мноства яе сяброў і сяброўак. Яна прыцягвала магнітна сваёй чуласцю і дабрынёй. Да таго ж можна было атрымаць карысныя парады. Шмат хто называе яе настаўнікам у творчасці. Гэта і яе харошая сяброўка Галіна Сутула, журналіст і літаратар з Глыбокага, і Зінаіда Сузько, якую яна таксама завабіла папрацаваць у «Вожыку». Тулупава анікалі не навязвала свой стыль, не лезла са «скальпелем» у чужы тэкст, умела далікатна, тактоўна сказаць пра нейкія хібы, пагрэшнасці, даць магчымасць самому пашукаць лепшыя словы, сінтаксічныя канструкцыі, стылістычныя хады.

Аднойчы паказаў ёй новую літаратурную пародыю, якую лічыў удалай. Канцоўка здавалася смешнай і бездакорнай. Вялікім было маё здзіўленне, калі Анэля Іванаўна пачытала і звярнула ўвагу на заключныя радкі: «Тут нешта не тое...». Я збянтэжыўся і міжвольна пакрыўдзіўся: «Што ўжо можна лепей прыдумаць?» Выйшаў на калідор, пахадзіў, і тут раптам як азарэнне — знаходзіцца новы варыянт. І, адчуваю, значна лепшы!

Заходжу ў кабінет, чытаю перапрацаваную пародыю Анэлі Іванаўне. Яна імгненна рэагуе: «Тое, што й трэба!»...

Анэля Іванаўна вельмі сябравала з таленавітай артысткай размоўнага жанру, якая ў свой час аб'ездзіла з канцэртамі ўсю Беларусь і былы СССР, Ганнай Рыжковай, прапагандысткай беларускай паэзіі, мовы, гумару і сатыры. Удзячныя гледачы і слухачы называлі яе «каралевай смеху». І Анэлю Тулупаву можна таксама смела назваць «каралевай смеху» ў літаратурнай творчасці. З-пад яе пяра з'явілася нямала вясёлых, гарэзлівых твораў, у якіх бурліла выдумка і, як напісала аднойчы маладзейшая сяброўка Галіна Сутула, «сакавіта-смачны гумар».

Многія кампазітары з задавальненнем пісалі музыку да яе напеўных, вобразных вершаў. Гэта: Ю.Семяняка, Б.Фёдараў, І.Кузняцоў, І.Лучанок, Э.Ханок, Э.Зарыцкі, А.Канстанцінава, Н.Мікуліч, В.Сярых, Ул.Буднік, Ул.Прохараў, Ул.Кур'ян, В.Макеева, Л.Шурман, Г.Гарэлава, В.Кузняцоў. Як адзначана ў прадмове да зборніка песень на словы А.Тулупавай «Світальная сініца» (Мінск, 2003), сярод вядомых песень: «Ручаёчак-ручаіна», «Ліст да маці», «Чараўніца», «А я не верыла рабіне», «Прызнанне», «Доброта», «Салаўі Хатыні», «Як хацелі мяне сватаць», «Восем дзевак, адзін я», «Што за людзі», «Ксеня» і інш.

Некаторыя мелодыі шмат хто лічыць народнымі.

Выдадзены Анэляй Тулупавай у 1987 годзе ў бібліятэчцы «Вожык» зборнік «Як павезлі мяне сватаць» і сатырычны раздзел у кнізе «Скажыце ўсім» сведчылі пра рэдкі дар пісаць смешныя рэчы, што ў жанчын сустракаецца нячаста.

Пасля працы ў «Вожыку» мы працяглы час з Анэляй Тулупавай не сустракаліся. І вось аднойчы лёс звёў зноў. Дзверы кватэры адчыніліся, і я разгублена ўбачыў зусім іншую жанчыну: худзенькую, маленькую, сумную. Хвароба непазнавальна яе змяніла. Але — запамінальны, знаёмы, пранікліва-востры позірк — прама ў душу. І праз долю секунды — дабрыня, таямніча-лагоднае святло скрозь боль і сум. Нейкая нібы вінаватасць. І глыбока-глыбокая прага да жыцця.

Яна распытвала пра літаратурныя падзеі, пра мой асабісты лёс, пра лёсы агульных знаёмых. У час, калі нясцерпны боль крыху сціхвалі ўколы і таблеткі, ужо будучы манахіняй Неанілай, яна цягнулася да мінулага, як надламаная травінка цягнецца да сонца. Да схаладнелага сонца-чарапахі... Мужна яшчэ імкнулася рэалізоўваць дадзены ёй літаратурны талент, данесці да людзей трывогу за зямное.

У апошніх вершах радкі ахінула высокадухоўная філасофія, набытая мудрасць і вечная, простая ісціна жыцця, якую людзі не вельмі хочуць прыняць у штодзённым віравароце падзей і «неадкладных» спраў. За гэтай нашай мітуснёй, мне здаецца, і цяпер нястомная Нэля, Нэлі, Анэля, манахіня Неаніла з трывогай і заклапочанасцю сочыць з вышыні: «Людзі, супакойцеся, любіце іншых, шануйце тое, што вам дадзена ўсяго толькі на імгненне на маленькай планеце ў бясконцай вечнасці. І не забывайце пра маю шчырую любоў да вас!».

Любоў была сапраўды шчырая. Не магу не прывесці верш, у якім перадаецца паэтычны і чалавечы характар Тулупавай:

## Пакаянне

*Музе*

*Якое незваротнае жыццё!*
*Дзе я цяпер — не ведаю, не знаю.*
*Ды і нашто мне гэтае знаццё?*
*Я там, дзе вы. Вам крылы развіваю.*
*Шукаю, не знаходжу гойных слоў,*
*Тут чарнабыльнік неба раскалоў,*
*І набрынялі росамі бяды*
*І вашы крылы і мае сляды.*
*Я вас прасіла больш не прылятаць,*
*Вякі вякоў трымаць у схове крылы.*
*А вы свае: лілеі ў чаратах*
*На дыбачках стаяць, як балерыны.*
*А я кажу: пара мне на спачын,*
*Ці ж лірыка ўратуе ад навалы?*
*А вы — бяссоннем да мяне ўначы,*
*І я іду, бягу я ўслед за вамі.*
*Паслухаць, як настраіўся мой бор,*
*У поле — небакраю пакланіцца.*
*Мне б перавесці дых, ды не дае*
*дакор —*
*Павінен жа хоць хтосьці павініцца.*



ЭКСКУРС

# УСПЛЁСКІ СІНЯЙ ВАДЫ

Валеры СТРАЛКО

**Крыху здалёк… Мы, у большасці, усё ж схільныя ход жыцця свайго разглядаць як рух па нейкім, нам зададзеным, маршруце. А хто вызначае гэты маршрут?**

Чаму адзін чалавек усё жыццё пасняхова апрацоўвае зямлю, другі — будуе, а трэццяга і чацвёртага куды толькі не кідае? І з поспехамі глуха… Кажуць — лёс. Лёс вызначае твой асабісты жыццёвы шлях. І якім жа чынам? Пытанне… А ці не продкі (іх духоўна-інтэлектуальная энэргія) вядуць чалавека па жыцці? Канешне, мы ведаем і пра гены, і пра існаванне грахоў і добрых спраў — пра свае і продкаў. Дык, можа, унутры нас месціцца-такі своеасаблівы ўнутраны штурман, які бярэ да ўвагі ўзгодненую пазіцыю продкаў з улікам тваіх патрэб ці намераў і прымае канчатковае рашэнне ў той ці іншай сітуацыі. Магчыма, улічваюцца і інтарэсы грамадства. Ад таго, наколькі супадае твая асабістая патрэба з рашэннем «унутранага штурмана», ты адчуваеш сябе больш ці менш камфортна. Калі цалкам супадае, тады — рэзананс гармоніі, тады выбух пазітыву. А калі з намі здараюцца непрыемнасці ці няшчасці, гэта не варта драматызаваць, бо, мабыць, «унутраны штурман» зрабіў усё, што мог, прыняўшы аптымальнае рашэнне…

Гэтыя жартоўныя разважанні ў сталым узросце дапамагаюць глядзець на свет Божы неяк больш стрымана. А раней многія жыццёвыя павароты выклікалі ці добрае здзіўленне, ці абурэнне, ці жах… Вось нарадзіўся я, дапусцім, у цудоўным месцы: Кіеўская Русь, сем пагоркаў, Дняпро, прыгажосць; спадобіла ж тут радзіцца калісь Малушы, Антонію Пячэрскаму… Але віхор вайны наляцеў і адкінуў цябе чамусьці як бы і недалечка, усяго на дзясяткі вёрст на ўсход. Але — усё іншае: ні табе ўзгорачка, ні рэчкі путнай. Вядома, міла, але ж — не маё. А яшчэ акупацыя, галеча… І хоць гэта — радзіма маці з дзедам і атожылак царскі тут жыў, справы добрыя тварыў… Не… Пасля школы — у рамантыку, на поўдзень, на караблі. Будаваць, плаваць… Пайшло… Такая асалода! Хоць і цяжкавата… Ды раптам — стоп, машына! Трэба, хлопча, панастаўнічаць… Яно ж бы й нічога. Праўда, назва пункта трохі бянтэжыла. Ды не таму ж ты, пэўна, з часам коціш за чатыры тысячы км, у Сібір. І холад там не халадзіў, бо на душы хараство было: ядзерная фізіка, кібернетыка, лыжы, парашут… А людзі — эліта, раскоша! Жыві — не хачу. Пажыў, павучыўся, папрацаваў. Усё ж выдатна! Ды... Курс — вест! У Беларусь! Давай там пакібернець! Здароўе ляснула? — У маржы! Лепей? Во! Маржуй і працуй!.. Праляцелі гады, можа, і не найлепшыя, пенсія на носе… Раптам — прыбіваюся да літаратуры… Як, чаму?! Чаго так позна? Аднак, паехалі… Пад тузін кніжак… Што, зноўку аслаб? Экстрымні, памарафонь. Стаміўся? Развейся на Готландзе месячык. І гэта… Сінюю Ваду ж не закідвай…

А каб цябе… Яна ж мяне сапраўды даўно цікавіць, ды куды мне?.. Ні часу, ні ведаў. А ты, чую, хоць дакраніся, падыхай гэтым, слоўка напішы… Ну, нехта з продкаў, відаць, у паходы з Альгердам хадзіў. Можа, і на Сінюю Ваду…

А пра Сінюю Ваду — што?.. Гаворку пра Сіняводскую бітву, якая адбылася 650 гадоў назад, варта пачаць з таго, што з'явілася Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае (ВКЛ) у XIII стагоддзі. Будавалі дзяржаву Вялікія князі Міндоўг… Войшалак… Гедымін… Альгерд… Дзяржава разрасталася, мацнела. У склад ВКЛ паступова ўвайшлі ўсе беларускія землі і частка ўкраінскіх… Новыя валадары, якія «старыны не рушылі, навіны не ўводзілі, прымалі мясцовыя традыцыі, звычаі, рэлігію, мову, законы…», прыходзілі з дабром, і жыхары адчувалі сябе ўтульна і надзейна з такімі гаспадарамі. Вось ужо і да Валыні дапяліся, а Любарт з Карыятавічамі дык і аселі пакрысе… І на паўднёвы захад ад Віцебска ўсё болей прылучаліся землі. Бранск, Старадуб, Трубчэўск… Шмат северска-чарнігаўскіх тэрыторый увайшлі ў склад ВКЛ. А далей — усё, баста, далей — Арда, пад якой ужо больш сотні гадоў стогнуць браты-ўкраінцы. Арда ж і там, за Карыятавічамі, на частцы Валыні, на Падоллі, праз якое з усходу на захад і з поўначы на поўдзень — гандлёвыя шляхі, добрыя землі, цудоўныя людзі. Колькі б карысці было для Княства і людзей, каб усё гэта далучыць! Ой, як трэба вызваляць люд і землі! Ажыло б усё!.. Ды злыя прыхадні яшчэ нікому нічога не саступалі. Думай, Альгердзе!..



Рэчка Снівада на ўкраінскім Падоллі

Думаць Альгерд умеў і любіў. Абмудрыць-абхітрыць супраціўніка заўсёды гатоў быў. Таму і бітвы ніводнай не прайграў… Што на гэты раз вымудрыў Вялікі князь, неяк даведаемся. Але ж улічваў: вораг хітры, вопытны, бязлітасны. Налятае з хуткасцю маланкі. Паразаў не меў…

А вось тут… — за-гры-меў! Такога знішчальнага ўдару ардынцы не ведалі. Для Альгерда гэта была чарговая перамога над супраціўнікам і першая — над Ардой! І якая велічная перамога! Ачысціліся ад гнёту чужынцаў Валынь, Падолле і ўсе землі былой Кіеўскай Русі, што заставаліся да гэтага пад ярмом. Страты мангола-татарскіх ордаў былі настолькі значныя, што надалей не змаглі яны кантраляваць страчаныя землі. А пра тое, каб пагражаць нападамі Еўропе, не могло быць і мовы…

Так што Кулікоўскай бітве час бы, нарэшце, сцішыць звон ды годненька, спакойненька павініцца і саступіць Сіняводскай бітве статус першай пераможніцы ардынцаў, бо Кулікоўская адбылася на 18 гадоў пазней, і пасля яе стагоддзе яшчэ цярпелі маскавіты ардынскі гнёт…

Па-ранейшаму, аднак, чакаюць адказу пытанні: дзе тая Сіняя Вада, на якой адбылася бітва, і якімі маршрутамі рухаліся супраціўнікі да месца бітвы?

Адносна Сіняй Вады і маршрута войск ВКЛ дамінуюць дзве версіі дзвюх групаў даследчыкаў. Адны, назавём іх «заходнімі», лічаць, што войскі Альгерда, распачаўшы паход з Вільні ці Наваградка, падышлі на Валынь, адкуль плаўна павярнулі і да месца бітвы на р. Снівадзе (яны лічаць яе Сіняй Вадой) ішлі з заходняга (ці з паўночна-заходняга) накірунку. Другія, «усходнія», збольшага прымаюць версію храніста XVI стагоддзя Мацея Стрыйкоўскага, паводле якога да месца бітвы войскі Альгерда павярнулі з усходняга накірунку, мінуўшы Канеў і Чаркасы (на Дняпры). Сіняй Вадой яны лічаць р. Сінюху, левы прыток (як і Снівада) р. Паўднёвы Буг. Майма на ўвазе, што ад р. Сінюха на Кіраваградчыне да р. Снівада, што на Вінніччыне, не меней за 300 км.

15-гадовыя археалагічныя раскопкі на Сінюсе не сцвердзілі яе як месца бітвы на Сіняй Вадзе. На Снівадзе ж ёсць маштабныя пахаванні, якія ў мясцовых жыхароў здавён фігуруюць як «літоўскія» і «татарскія» магілы. Але чамусь дагэтуль раскопкі не праведзены…

Што датычыць версій маршрута руху войск да месца бітвы, то ніводная з іх паасобку не працуе, бо ні на адным накірунку немагчыма было засярodзіць усе наяўныя сілы, а гэта абавязкова трэба было зрабіць, каб гарантавана адолець дзёрзскага і небяспечнага ворага. Таму на захадзе, лічу, скрытна канцэнтравалася галоўным чынам цяжкая і лёгкая, па-еўрапейску ўзброеная, пяхота, ачольваная Карыятавічамі; усходні накірунак, болей з конніцы, адкрыта фарміраваў сам Альгерд, збіраючы сілы з Віцебска-Магілёўскага рэгіёна і з зямель былое Кіеўскай Русі, жыхары якой зведалі «смак» ардынскай тыраніі…

Каб беспрашкодна давесці войскі з двух накірункаў да сустрэчы і аб'яднання ў зоне бітвы, Альгерд у якасці ваеннай хітрасці ў патрэбны час умела запусціў чутку, што мае намер паваяваць Крым, разлічваючы, што аслабленыя міжусобіцамі ды іншымі неладамі ардынцы сцягнуць усе свае сілы хутчэй за ўсё пад Перакоп, каб там чакаць войскі Альгерда, бо згубіць Крым для іх было раўназначна катастрофе. Пад такой «дымавой завесай» Альгерд лёгка авалодвае Кіевам, садзіць там на сталец сына Уладзіміра, папаўняе рэсурсы і выпраўляецца правым берагам Дняпра ўніз па цячэнні. Рухаецца ён, знарок дэманструючы невысокі тэмп, папаўняючыся па дарозе апалчэнцамі, харчам, коньмі. Мінуўшы Канеў і Чаркасы, нечакана для праціўніка павяртае на захад і, павялічыўшы хуткасць, утаропліваецца ў зону сустрэчы. У абумоўлены час рушаць насустрач Альгерду і Карыятавічы.

Калі да Арды, якая і на адлегласці адсочвала сітуацыю, дайшло пра дзве калоны, пыхнула істэрыка накшталт: «Па конях! Туды! Калоны біць па адной! Пакуль не стрэліся! Інакш…». Ды Альгерд усё пралічыў. Не выключана, што і пяхоту сваю праз некаторы час пасля павароту на захад ён пасадзіў на каня. Карыятавічы таксама дабротным маршам шыбавалі наперад. І вось «карціна маслам»: дзве магутныя калоны сходзяцца (верагодней усяго, ля Снівады, бо гэта ў зоне Падолля, якое трэба адваяваць)… А ў гэты час разлютаваныя падманам, змучаныя бясконцым выпаленым стэпам ардынцы чорнапыльнай хмарай набліжаюцца да падрыхтаваных, цалкам гатовых да бойкі беларуска-літоўска-ўкраінскіх падраздзяленняў… І вось ужо — бліскучая перамога аб'яднаных войскаў ВКЛ!..

Расквецілася пасля перамогі жыццё на вызваленых землях. Хутка ўзнікаюць, умацоўваюцца новыя гарады і паселішчы: Бакота, Брацлаў, Вінніца, Каменец, Смотрыч, Хмельнік… Зноўку на поўныя грудзі задыхала былая Кіеўская Русь. Палыхнуў магутны ўсплёск вытворчасці, гандлю, культуры, аднавіўся дух вольнасці, нязломнасці народа. І калі пачалі распальвацца захопніцкія апетыты заходніх, усходніх і паўднёвых суседзяў, змаглі ўзняць крылы казаччына, хмяльніччына, каліўшчына і іншыя вызвольныя ўкраінскія рухі. Гаючыя ўсплёскі геннай памяці пра Сіняводскую перамогу дадавалі сілы народам ВКЛ (а затым — былога ВКЛ) выстойваць у далейшых войнах ды іншых драматычных выпрабаваннях…

Маршруты руху войск супраціўнікаў да месца бітвы, зона бітвы і іншае — гэта мая версія падзей. Доказаў прамых няма. Толькі логіка. Аднак не больш аргументаваныя, на жаль, версіі і ў т.з. «заходніх» ці «ўсходніх» даследчыкаў. Пытанні лакалізацыі месца Сіняводскай бітвы і маршруты руху войск супернікаў да месца сутыкнення — не дробязныя. Іх вырашэнне дазволіла б вызначыць ісціну, аддаць належнае праху, памяці вояў, аднавіць заслужаную славу мінуўшчыны нашых народаў. Варта было б прафінансаваць праекты, якія дадуць магчымасць адшукаць у архівах Еўропы (у першую чаргу Ватыкана) і іншых рэгіёнаў свету сведчанні пра Сіняводскую бітву, што знарок былі ў свой час знішчаны, сфальсіфікаваны ці надзейна захаваны бліжэйшымі, зацікаўленымі ў гэтым, суседзямі, падключыць да даследавання гэтай лёсавызначальнай гістарычнай падзеі аўтарытэтныя навуковыя сілы, правесці неабходныя археалагічныя раскопкі, паставіць помнікі, адкрыць музеі, сфарміраваць комплексную інфраструктуру гістарычнага месца бітвы, якое можа стаць адным з прывабнейшых цэнтраў міжнароднага турызму. І магутным сродкам патрыятычнага выхавання…




Схема бітвы

ВЕРШЫ

# АБЯРЭГ АД БЯЗЛІТАСНЫХ

**Віка ТРЭНАС**



***

*Час вялікіх слёз прайшоў.*
*Сезон дажджоў прайшоў.*
*Выцеклі рэкі з расколіны ў сэрцы.*

*Смага, спёка і чорны пыл.*
*Выеў вочы дарожны пыл.*
*Шляхам гэтым ішлі іншаверцы.*

*Стала пеклам твая зямля.*
*Патрэсканая зямля.*
*Нельга жыць і нельга памерці.*

***

*Час плаціць па рахунках.*
*Час ашчадна збіраць цеплыню*
*У далонях па кроплі, нібыта жывую ваду,*
*Што скрозь пальцы сыходзіць хутка.*

*Час пазбавіцца згадак мулкіх,*
*Час таго да сябе прыхінуць,*
*Хто гартуе і цела, і дух*
*І не лічыць гадзіны ў сутках.*

*Час манетаў, пяшчотаў час,*
*Можна жыцці наноў пачаць.*
*Гэта самы звычайны шанц.*

### Вайна. Абярэг ад бязлітасных

*Пахне яблыкамі ды апалым лісцем.*
*Голаў не схіляеш — шукаеш выйсця*
*У цемры за спінай, у пекле наперадзе.*
*Дзе тваё каханне і вера дзе?*
*Верасень. Замнога пражыта жыццяў.*
*Стань валошкаю ды схавайся ў жыце,*
*Каб той, хто без гонару і без літасці,*
*Цябе не выцікаваў, не змог знайсці.*
*Каб не ведалі ні сцяна і ні сцяна,*
*Дзе твая ісціна.*

***

*пакуль не спазнаеш, што бог ёсць любоў,*
*не спраўдзіш на ўласнай скуры,*
*не выйдзе душа, як рака з берагоў,*
*у вусцішны свет, не ўратуе яго*
*ад злой непазбежнае буры*

*пакуль не дазнаешся, хто ты такі,*
*датуль не адолець імклівай ракі*
*дзесь там, у глыбінях, на заціШным дне,*
*нязробленых спраў, неагучаных словаў*
*і думак даволі, адно выйсця — не*
*віна тоне ў сэрцы, а праўда ў віне,*
*ды болю маўклівая мова*

*той толькі не згіне ў нястрымных вірах,*
*хто ў вырай свой знае наўпроставы шлях*

***

*няма патрэбы дыхаць*
*бо сам ты ёсць паветрам*
*ты сам дабро і ліха*

*квіток у адзін бок*
*скалечаная вера*
*замураваны выхад*

*ды толькі бачыць бог*
*ланцуг не спыніць звера*
*хоць перад бурай ціха*

*той хто цікуе знік*
*паспее твой цягнік*
*з маўчання вырваць крык*

### Бабулі

*апошняя жыхарка напаўзакінутай вёскі*
*адышла на Вадохрышча*
*адно ў маім сне ты застанешся*
*між маладосцю і старасцю*
*між радасцю і пакутай*

*шлях тваіх продкаў занесены снегам*
*але для цябе яго праклалі нанова*
*маўчаць застылыя схаладнелыя дрэвы*

*і калі сякера ўгрызаецца ў прамерзлую глебу*
*калі абрываецца танюткая нітка лёсу*
*якою ты аберагала мяне ад сурокаў*
*я разумею — нас нішто больш не звязвае*
*з гэтай зямлёй*

***

*усе нашы форс-мажоры і форс-міноры*
*рубцамі на сэрцы, пячаткаю на ілбе*
*скупою дзявочай слязою ці кропляю ў моры*
*становяцца мною — а значыць,*
*працягам цябе*

***

*мы не біліся галавой аб мур*
*не імкнуліся яго абысці*
*быць замкнёным ва ўласнай сутнасці*
*значна лепей, бо выйсце ўнутры, таму*

*час спыніцца, каб карані пусціць*
*у прамерзлую глебу пад мурам*
*час адно ў аднаго пусціць карані*
*і яны гэты мур разбураць*

***

*Не губляй раўнавагі. Не страчвай сябе самога,*
*Адшуканага ў выклятым пекле між*
*тысяч дарог,*
*Ашуканага, ды не забытага ўважлівым*
*Богам.*
*Бачыць ён. Кожны ўздых. Кожны жэст.*
*Кожны крок*

*Будзе ўлічаны. Нават калі не хапае паветра,*
*Б'еццa чыстае сэрца часцей — адно на дваіх,*
*Ды разумным — табу, калі іншым —*
*права на вета.*
*Ведай, вартым і верным даецца па веры іх.*

*Прачытай і адчуй — прарываецца плач*
*праз радкі.*
*Лёс ад нас — на адлегласці выцягнутай рукі.*

СУСТРЭЧА

# Ніколь Любіч: «ПРАЦЭС НАПІСАННЯ — ЗМАГАННЕ З САМІМ САБОЙ»

**7 лютага ў Інстытуце імя Гётэ для навучэнцаў Школы маладых літаратараў пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў прайшла лекцыя нямецкага пісьменніка Ніколя Любіча.**



Прадставіў госця Дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску спадар Франк Бауман. Перакладчыкам сустрэчы была Вера Дзядок.

Спадар Франк павітаў прысутных і распавёў пра тое, што ўпершыню пазнаёміўся з творчасцю Ніколя Любіча дзесяць гадоў таму, калі прачытаў яго першы твор «Раман пра радзіму, ці Як мой бацька стаў немцам».

Ніколь Любіч, пісьменнік з Германіі харвацкага паходжання, нарадзіўся ў 1971 годзе ў Заграбе ў сям'і інжынера-авіятэхніка, дзіцячыя гады правёў у розных краінах: Швецыі, Грэцыі, Расіі і Нямеччыне. Пасля атрымання адукацыі па спецыяльнасці паталогія працуе журналістам у Берліне. У якасці пазаштатнага карэспандэнта супрацоўнічае з выданнямі «Die Zeit», «Süddeutsche Zeitung» і часопісам «Geo». За свае рэпартажы Ніколь Любіч неаднаразова атрымліваў прафесійныя ўзнагароды і прэміі.

Ніколь Любіч прызнаўся, што журналістыка — прафесія яго мары, праўда, ёсць і пэўныя складанасці: па-першае, лічыць Ніколь, журналіст абавязаны заўсёды казаць праўду, нават калі яна яму самому не падабаецца; па-другое, ён мае адказнасць перад тым чалавекам, перад той медыйнай асобай, пра якую піша і партрэт якой стварае для шырокага кола чытачоў.

### Кнігі ў Нямеччыне: займальная статыстыка

У першай частцы сустрэчы пісьменнік прачытаў лекцыю пра выдавецкую справу ў Нямеччыне, пра асаблівасці прафесійнай рэалізацыі нямецкіх пісьменнікаў і спосабы «раскруткі» кніг.

У Нямеччыне на 82 мільёны насельніцтва — 10 тысячаў выдавецтваў. У 2010 годзе выйшла 95 тысяч кніг, сярод якіх трэціна належыць белетрыстычным раманам. Суадносна, і аўтараў, якія пішуць раманы, вельмі шмат. Канкурэнцыя настолькі вялікая, што толькі адзінкі дасягаюць поспеху, як, напрыклад, малады пісьменнік Даніэль Кельмэн і яго бэстсэлер «Вымярэнне свету». У Нямеччыне прадалося 2 млн асобнікаў гэтай кнігі, а ў свеце 6 млн. Гэта шчаслівы вынятак. Сярэднестатыстычна нармальным лічыцца наклад кнігі ў 1000-1500 асобнікаў.

Сам Ніколь Любіч пачаў працаваць журналістам на радыё «Брэмен», калі яму было 18, а свой першы раман выдаў у 28 гадоў. Дарэчы, сярэдні ўзрост, калі нямецкія літаратары выдаюць першую кнігу, — 20-25 гадоў, адзначыў Ніколь.

З тысячаў нямецкіх пісьменнікаў толькі паўтара дзясяткі сапраўды багатых, каля сотні забяспечваюць сябе выключна літаратурай, а астатнія, якіх большасць, — зарабляюць на жыццё, прыкладам, журналістыкай, а пісьменніцтвам займаюцца «паралельна». Гэта тлумачыцца, як адзначыў спадар Любіч, «эканамічнай цэнзурай». І калі твая першая кніга добра прадавалася, не факт, што так будзе прадавацца і другая.

Спосаб існавання нямецкага пісьменніка — ганарары ад выдавецтваў, розныя літаратурныя фонды і стыпендыі, на якія можна падаць заяўку, а таксама выступленні (якія аплочваюцца). Важна для маладога аўтара атрымаць літаратурную прэмію — іх у Нямеччыне ажно 1200! Вельмі прэстыжным лічыцца патрапіць, напрыклад, у лонгліст Нямецкай кніжнай прэміі, заснаванай у 2005 годзе, бо гэта выклікае шырокі грамадскі рэзананс. Намінаваныя кнігі пачынаюць актыўна прадавацца, са свайго досведу маркуе Ніколь Любіч.

Нямецкія выдавецтвы маюць практыку выплочваць за прынятых рукапіс гарантаваны ганарар, аванс, які вагаецца ў межах ад 2 да 20–30 тысяч еўра. Праўда, калі кніга не будзе прадавацца, то наступны раз выдаўцы могуць ужо і не прыняць новы твор...

### Законы шоў-бізнесу працуюць і ў кнігавыдавецкай справе

Літаратурная крытыка, нават самая станоўчая і надрукаваная ў масавых выданнях, больш не дапамагае прасоўванню кніг. Нашмат больш эфектыўным з'яўляецца тэлебачанне, удзел у ток-шоу. Ёсць і яшчэ адзін спосаб прыцягнуць да сябе ўвагу — «стварыць» скандал, як Крысціян Крахт, якога называюць прадстаўніком неафашызму. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца кнігі, напісаныя знакамітасцямі — музыкамі, акцёрамі. Ніколь Любіч распавёў, што выдавецтва, з якім ён супрацоўнічае, выкупіла ліцэнзію на аўтабіяграфію Арнольда Шварцнэгера. Кніжную выставу, дзе прэзентавалася гэтая кніга, давялося абараняць ад натоўпу фанатаў.

Тэмы, якія патрапляюць у мэйнстрым сучаснай нямецкай літаратуры, на погляд Ніколя Любіча, наступныя:

- раманы пра падзел Нямеччыны, якія пішуць збольшага немцы-ўсходнікі;
- раманы на гістарычную тэматыку, аповеды пра яркіх гістарычных постацей;
- кнігі аўтараў ненямецкага паходжання (да якіх, дарэчы, адносіць і самога Ніколя), тэма культурнай ідэнтычнасці і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

### Якасць — гэта ад пакутаў

Менавіта такім быў дэвіз у Школе журналістаў у Гамбургу, дзе вучыўся спадар Любіч.

«Навошта вы пішаце? — запытаўся пісьменнік у наведнікаў беларускай Школы маладых літаратараў. — Мне гэта ніколі не прыносіла задавальнення. Працэс напісання насамрэч — змаганне з самім сабой, вельмі пакутлівае».

У другой частцы вечара пісьменнік распавёў пра свае кнігі, пра тое, як у яго адбываецца працэс напісання рамана. Падрабязна вялася гаворка пра твор «Марская ціша» (2010), у якім Ніколь апісаў судовы працэс над сербскім ваенным злачынцам Златкам Шымічам. Апраўдаць ці абвінаваціць злачынцу — вырашаюць суддзі. Аднак што такое віна і адказнасць? Хто з'яўляецца злачынцам, а хто ахвярай? Ці можа злачынца таксама быць ахвярай альбо ахвяра пераватварыцца ў злачынцу? Адказ на гэтыя пытанні спрабуе знайсці ў рамане Роберт, якога лёс звязаў з дачкой Шыміча.

Сакрэты творчага майстэрства лагічныя і сведчаць пра сур'ёзнае стаўленне пісьменніка да сваёй справы. Найперш — выбар тэмы, якая магла б высвечвацца ў агульнасацыяльным сэнсе праз лёсы асобных персанажаў. Пасля — збор матэрыялаў, падрыхтоўка фактуры, пошук неабходных дэталяў — таго, што будзе выказана ў мастацкай форме. Напісанне першага сказа найбольш пакутлівае для Ніколя Любіча, а першая старонка з'яўляецца ў 50-60 (!) варыянтах. Галоўны крытэр для кнігі — чытэльнасць і... адкрытая развязка. Чытач мусіць застацца заінтрыгаваным.

Напрыканцы сустрэчы Ніколь Любіч расказаў пра свой новы твор.

**Віка Трэнас**

АСОБА

# РЭДАКТАР

Данута БІЧЭЛЬ

**Хто ўсё ведае, той маўчыць, а хто шмат гаворыць, той нічога не ведае.**

Былі ў мяне сябры, — нехта захварэў і памёр, а нехта паехаў у далёкі свет.

Рэдактар Валодзя жыве ў сталіцы. У нас з Валодзем была адна сяброўка Ірына, яна павандравала завеяй у ціхую Моўчадзь, а Валодзя мне не тэлефануе. Не прывык тэлефанаваць у правінцыю. Калі працаваў рэдактарам у часопісах, правінцыйныя аўтары самі знаходзілі яго.

Набіраю яго нумар тэлефона ў Менску, спадзяюся, што паразмаўляем — і я супакоюся. Доўга не бярэ слухаўку, ён жыве, не спяшаючыся. Ведаю, што ён дома. Бо так бывае заўсёды. Раней слухаўку брала яго жонка Галя — яго першае і апошняе каханне…

Чую голас:

— Ну, я тут крыху заняты, чытаю кнігу майго суседа.

— Выданую кнігу?

— Не, кніга рыхтуецца да друку…

— Колькі гадоў твайму суседу?

— Ён старэйшы за мяне на два гады, у яго няма кнігі на беларускай мове. А я хачу, каб ён застаўся ў кантэксце нашай літаратуры.

— Ты тлумачыш яго кнігу на беларускую мову?

— Не, я дрэнна сябе адчуваю, а гэта даволі ёмкая работа. Згадзіўся перакласці хлопец, які добра ведае беларускую мову.

— Аб чым кніга твайго суседа?

— Яго герой — ён сам. Усё, што напісаў ён у гэтай кнізе, як і ў папярэдніх, адбывалася з ім. З сямнаццаці гадоў быў у партызанах, быў паранены. Трапіў на фронт. Трапіў туды, дзе на людзях рабілі выпрабаванні вадароднай бомбачкі, апраменены — спісвалі дахаты паміраць. Яго маці была народнай лекаркай, вылечыла сына зёлкамі. Стаў пісаць. Мой сусед з 1926 года нараджэння, гэты год ваяваў. А 1927 год быў у рэзерве, многія таксама трапілі на вайну, толькі чамусьці пасля не лічыліся ўдзельнікамі вайны. А я — з 1928-га, нас на вайну не бралі.

Цытую Валодзю ўрывак з кнігі «Гарадзенскі архіў Васіля Быкава» (Гародня — Вроцлаў, 2012), бо гэта пра яго: «Я здаўна нашу ў душы вялікую ўдзячнасць гэтаму чалавеку, які з поўным разуменнем, тактам і чуласцю аднёсся да першай і другой і трэцяй маіх аповесцяў, захаваўшы аўтарскую канцэпцыю і некрануты ўсю сістэму вобразаў…»

— Ну, я аўтарскую канцэпцыю сапраўды не чапаў, думаю, рэдактар не мае права гэта рабіць. Я папраўляў стылёвыя недакладнасці, цьмяныя месцы, моўныя хібы маладога аўтара.

— Гэта не рэдактарская, а карэктарская работа, — прыдзіраюся я да сябра.

— Я паважаў правы аўтара на яго самастойны падыход да кампазіцыі і сюжэта. А як тады ствараюцца наватарскія творы?

— Калі я выдавала зборнік вершаў, каб зрабіць заўвагі ад імя цэнзара, са мной размаўляў не рэдактар, а маладая паненка, яна рабіла заўвагі па змесце, не ведала, у чым справа, але рэдактар быў у суседнім кабінеце, ён падказваў. Цэнзараў я ніколі ў вочы не бачыла. Якія ў рэдактара прозы былі адносіны з цэнзурай?

— Рэдактар меў непасрэднае дачыненне да цэнзараў. Рэдактар, які вёў кнігу, ішоў у камітэт па цэнзуры, «ваяваў» за аўтара, спрабаваў здымаць прыдзіркі цэнзараў. Напрыклад, калі выдавалі кнігу Васіля Быкава «Жураўліны крык», у камітэт выклікалі мяне, загадчыка рэдакцыі Міколу Татура, загадчыка літаддзела Аляксея Зарыцкага. За сталом сядзела некалькі цэнзараў. Па кнізе былі дробныя заўвагі, якія я адвёў, растлумачыўшы ім, а з іхняга боку было выказана папярэджанне, што калі аўтар далей будзе пісаць у тым жа духу, у яго пачнуцца вялікія непрыемнасці… Ты ж павінна памятаць, што ў тыя часы выдавецкі лёс кожнай кнігі вырашаўся ўнутранай рэцэнзіяй. «Жураўліны крык» «зарэзалі» рэцэнзіяй Васіля Бурносава, але штатныя супрацоўнікі рэдакцыі не згадзіліся з гэткім прысудам і аддалі кнігу на паўторную рэцэнзію Янку Брылю, ён і выратаваў кніжку.

— Што ў літаратуры важней: мова ці тэкст?

— Тэкст важнейшы, мова — гэта як рамачка для карціны.

— Былі ў цябе, як у рэдактара, бездакорныя аўтары?

— Былі: Янка Брыль, Барыс Сачанка, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Уладзімір Караткевіч…

— Ты быў рэдактарам у Караткевіча?

— Я быў рэдактарам яго першай кнігі. Я гэтым не хвалюся, але падказаў яму назву кнігі «Блакіт і золата дня». Гэтую фразу вычытаў у яго тэксце, пачаткова кніга называлася, як адно апавяданне — «Каўчэг»... Быў рэдактарам яго аповесці «Зброя». Спачатку гэта пісалася як частка рамана «Каласы пад сярпом тваім», але потым прыйшлося аўтару шмат скараціць і пакінуць асобным творам.

— Памятаеш, калі наша сяброўка Ірына Крэнь працавала ў выдавецтве «Народная асвета», яна брала рэдактарскую работу дахаты, дапісвала за аўтара так, што кніга павялічвалася, прыкладна, на дзве трэціны. Здаецца, гэта была манаграфія пра Андрэя Макаёнка. Ірына хацела, каб твор атрымаўся паўнавартасным. Ты таксама рабіў падобную работу?

— Усе рэдактары так рабілі. Шліфавалі тэксты пісьменнікаў, якія не дацягвалі, якіх трэба было зусім бракаваць. Іх ставілі ў план, а рэдактар павінен быў падрыхтаваць кнігу, каб не зрываўся выдавецкі план…

— Ці прачытаў ты кнігу Венанцы Бутрыма «Маўклівыя сумныя птушкі»?

— Прачытаў. Гэта добрая кніга. Некалі я чытаў апавяданне «Ліпеньскім днём», яно было надрукавана ў часопісе. Аповесць «Апошні эшалон» я рыхтаваў у друк у часопісе «Маладосць», зрабіў заўвагі па невыразных месцах, паслаў аўтару на дапрацоўку. Але ён аповесць паўторна ў часопіс не прыслаў…

— У кнізе аповесць дапрацавана?



— Так, дапрацавана, вельмі добрая аповесць. Шкада, што аўтар у свой час так легкадумна адносіўся да свайго таленту.

— Не легкадумна. Ён ведаў, у якой краіне жыве, з кім мае справу. Не хацеў з камуністамі супрацоўнічаць — гэткі заходні шляхціц… Ды ў той час у літаратуры было надта шмат добрых пісьменнікаў, якія пісалі пра вайну, на якой самі ваявалі. А Венанцы «не дарос», запозна нарадзіўся, як і ты…

Падзякавала яму за размову, а ён падзякаваў мне, што ўцягнула яго ў прыемныя роздумы пра літаратурнае жыццё. У гэты дзень ён адчуваў сябе дрэнна. Гэта было шостага красавіка ранкам, у Пятніцу перад Вялікаднем.

…Неяк ён мне тлумачыў, што рэдактару на адным месцы нельга заседжвацца. Да ўсяго прывыкаеш, выдавецтва пачынаеш лічыць сваім уласным. Адносіны з супрацоўнікамі ператвараюцца ў сваяцкія адносіны.

— Як толькі з'яўлялася магчымасць перайсці з выдавецтва ў рэдакцыю часопіса «Маладосць», я пераходзіў, пасля вяртаўся зноў у выдавецтва…

Вычытала ў пісьменніцкім даведніку дату нараджэння, віншую яго, адказвае:

— Дзякуй. Я не ведаю, калі я нарадзіўся. Магчыма, у маі. Адвольна напісалі ў дакументах гэтую дату.

— Але ж гады лічыш па ёй?

— Маіх равеснікаў у літаратуры амаль не засталося...

Першым у пераліку называе Алега Лойку. Кажу:

— Яго былыя студэнткі мне скардзіліся, што жанчына, якая даглядала ў Слоніме яго да смерці, у яго на вачах збывала калекцыю старых прадметаў, якія ён збіраў усё жыццё, і ён перажываў…

— Студэнткі давалі табе няправільную інфармацыю. Я ведаю гэту жанчыну. Яна якраз і цяпер змагаецца за тое, каб там усё засталося так, як было пры ім…

На Вялікдзень тэлефануе мне Святлана Воронік, расказвае, як яна адважылася паехаць першы раз на ўласным аўтамабілі з Берасця ў Слонім і ў Баранавічы. Яна ў дарозе была не адна, сын яе сястры Галіны сядзеў побач, падказваў ёй, як кіраваць аўтамабілем. Яе сястра Галіна жыве ў Альберціне, а будуе сабе хату ў Слоніме на вуліцы Алега Лойкі. Гэта новая вуліца, дзе на чыстым полі людзі пачынаюць будаваць новыя хаты, і гэта недалёка ад могілкаў, на якіх пахаваны Алег Лойка. Вуліца гэта ў Слоніме з'явілася праз два гады пасля яго смерці.

Цяпер у незалежных часопісах шмат супрацоўнікаў няма. Часамі адзін рэдактар цягне ўсю працу па стварэнні і ўкладанні часопіса, падбірае, запрашае, вылузвае з розных крыніц новых аўтараў. Рэдактар, як мантажнік, робіць мантаж чужых тэкстаў, гэтым надае ім новую якасць. Маламоўны, флегматычны, працуе дзень і ноч. Літаратурны вытворца, прадпрымальнік.

Сябра маёй сяброўкі спісаны ў пенсіянеры разам з усім маім і яго пакаленнем. Ніякай рамантыкі, узнёслых прамоваў, ніякай пашаны… Навачэсныя модныя аўтары самі сябе хваляць, вылучаюць і выдзяляюць прэміі, сродкі на выданні сваіх эксперыментаў бяруць у фондах памерлых дзеячаў суседняй краіны, якія, пражыўшы пасля вайны ў выгнанні, адмовіліся, каб па смерці іх перавозілі на радзіму, але пакінулі сродкі на пакрыўджаную беларускую літаратуру.

Сябра маёй сяброўкі, рэдактар, які ратаваў роднае слова ў маўчанні, ананімна, нябачна, непрысутна, быў вызначальнікам эстэтычных мерак мастацтва, якое заўжды патрабуе духоўнага парасона, быў апекуном вытрымкі, паслядоўнасці, адвагі, што ўпрыгожвае кожны літаратурны твор.

Але навачэсная літаратура вырвалася з няволі, ёй не трэба такі рэдактар ачышчальных навальніц і грыбных дажджоў… Кажа мне з лёгкай крыўдай:

— Я больш як 12 гадоў не трымаў у руках уласнай кнігі. Некалі выдавецкія планы зацвярджалі ў Маскве. Я напісаў заяўку на трохтомнік. Паставілі ў планы двухтомнік. А Масква пакінула аднатомнік… І я маю толькі гэты адзін том выбраных твораў.

— Ты не выдаў шмат сваіх кніжак, затое выдаў шмат добрых кніг. Гэтыя кнігі таксама частка тваёй душы. Часам намі кіруе Нехта, падсвядома адбываюцца з намі розныя рэчы, не зразумелыя простай логіцы.

Ёсць такія дзеячы, што згаджаюцца, каб іх прозвішча стаяла ў рубрыцы «рэдактар» дзеля дробных камбінацый. У змрочныя часы нашай культуры беларускія віленскія выданні мелі мужных людзей зіцрэдактараў, якія бралі на сябе палітычную адказнасць за аўтараў, і калі трэба было, ішлі за краты за тых рэдактараў, якія выдавалі наступны нумар газеты ці наступную кнігу. Кажа:

— Мяне запрашаюць у незалежныя часопісы, але я туды не іду. Няхай там застаецца месца маладым. Я магу надрукавацца ў тых часопісах, да назвы якіх прывык, дзе некалі працаваў, а цяпер там працуюць мае вучні.

— Здраднікі! — удакладняю я.

— Так склалася, што і ў незалежных, і ў дзяржаўных часопісах працуюць мае вучні… — Валодзя здраднікамі сваіх вучняў не называе.

Жыву ў правінцыі, ёсць тут спакойныя, стрыманыя, цярплівыя аўтары, якія выдаюць плёны сваёй творчасці за сродкі, што збіраюць са сціплых пенсій. Без рэдактараў, карэктараў, вярстальшчыкаў. На гэта трэба яшчэ стольні ж грошай, колькі на друк. Мастакі па-сяброўску дапамагаюць зрабіць вокладку. Ян Збажына так выдаў адзіную постмадэрновую кнігу вершаў «Пыл саркафагаў». І я лаўлю сябе на грэшнай думцы — калі б з неба святы Францішак скінуў мне жмут дармовых грошай, я выдала б сваю кнігу, якая напісана не па літаратурных нормах стомленай галавой да сямідзесяціпяцігоддзя жыцця…

У краіне слоўных выдаткаў, дзе начальнікі растуць па службе толькі таму, што збыткоўцы з Божага слова… Калі ўсё зменіцца ў найлепшы бок, нашчадкі паставяць помнік Рэдактару, чалавеку сціплага таленту, у якога за скурай паміж целам і душой баліць роднае слова.

Рэдактар прысланы Богам споўніць Божую волю духовых плёнаў аўтараў. Бывае, што рэдактар і выдавец — гэта адна асоба. Да таго ж ён лекар ад зоркавай хваробы. Увідочнівае невідочных, збірае, укладае, рэдагуе і выдае кнігі тых, хто па другі бок моху… І засланяе зыркае святло крыклівых аўтараў, каб не сляпілі вочы чытачоў, бо чытачы — галоўныя ў кніжных справах, выданне кнігі залежыць ад таго, як кнігу чытаюць.

Паміраючы, аўтар ведае, што застаецца рэдактар, таму духовая спадчына аўтара знаходзіцца ў надзейных руках да таго часу, пакуль прачнецца чытач.

Калі ж народ не прачнецца, рэдактар ушчэпіць любімага аўтара ў суседнюю культуру, дзе знойдзе месца.

Некалі Валодзя выступаў на пісьменніцкіх з'ездах з прамовамі ў абарону беларускага слова. Цяпер на пісьменніцкія з'езды ён ходзіць, каб паслухаць маладых. Мне нельга ездзіць у сталіцу, у мяне развіваецца комплекс непатрэбнасці і непрыдатнасці, боль і кружэнне галавы, я ведаю, што ўсе, хто мяне любілі, знайшлі сабе ціхае месца на могілках. А калі яшчэ нехта жыве, то зрабіўся слабым і залежным ад жонкі. А можа і гэта я выдумляю ад слабасці? Вось Валодзя па-ранейшаму нічога не баіцца…

На тым з'ездзе, які быў маім апошнім, Валодзя з трыбуны рабіў заяву:

— Калі за беларускае слова будуць запісваць у чаргу на расстрэл ці ў турму, запішыце мяне першым!

Але маладыя і тут яго апярэдзілі.

ВЕРШЫ

# ШТО ПЯЮЦЬ КАПЯЖЫ?

**Фелікс БАТОРЫН**

***

*Чалавек стаў падобны саве*
*І імпэтнаму подыху ветру.*
*Чалавек углядаўся ў сябе*
*І ўрываўся ў нязрушныя нетры.*

*Ды не мог прызвычаіцца зрок,*
*Непахіснейшы неруш рабіўся,—*
*І, зрабіўшы адчайны рывок,*
*Аб сябе чалавек той разбіўся.*

*Але долу ніхто не капаў*
*І труны не прыладжваў па мерцы.*
*Раўнадушна натоўп наступаў*
*На асколкі крывавыя сэрца.*

***

*— Дзе брат твой Авель? — Я яму*
*не вартаўнік! —*
*І засталіся ў свеце Каінавы дзеці.*
*І хто адкажа, дзе нам ген*
*праклятыя дзеці:*
*Хай рэцэсіўны, а з геному ж ён не знік...*

***

*Вайна— не тузін жарцікаў блазноты.*
*Усё адно ёй: пан ты альбо кмець.*
*Яна спявае па свінцовых нотах,*
*А кантрапунктам гэтых спеваў —*
*смерць.*



## Угару

*Угару! паламаўшы пазногці і костачкі сцершы*
*Аб каменную строму і вострыя лёду краі,*
*Аж пакуль не пазбавіцца лішніх прыкрас*
*тваё вершы*
*І не бліснуць рубінавай чырванню*
*чыстай крыві.*

*Угару! аж пакуль не зачэпіцца пальцы*
*за зоркі*
*І душа не парве прыцягнення зямнога цяжы,*
*Аж пакуль закаханай па скон у цябе*
*фантазёркі*
*Не набудуць трывалыя формы*
*і плоць міражы.*

*Угару! аж пакуль не паверыш ты сам*
*у вядзьмарства*
*І хоць тузін бяскрылых не ўздымецца*
*роўна з табой —*
*А інакш паэзія ўся — балбатня,*
*пустамарства*
*І псаванне паперы падробнай чарнільнай*
*крывёй.*

***

*Хмялела неба, возера п'ючы*
*Вялікімі гарачымі глыткамі.*
*На дне каменне, нібыта лычы,*
*Ільсняна ружавела пятакамі.*

*І, па лычах падводных парсюкоў*
*Ступаючы буслінымі нагамі,*
*Мы на найлепшы ў свеце з берагоў*
*Выходзілі антычнымі багамі.*

*І кропелькі сцякалі на пясок*
*Па паўдзіцячых торсах збранзавелых.*
*І пачынаў брадзіць бунтоўны сок*
*У поўных некрананай цноты целах.*

***

*У летуценныя часы*
*Пазнання і асэнсавання*
*Шапталі гоні і лясы*
*Мне старадаўнія паданні.*

*Чароўны дух таемных сфер*
*Наскрозь пранізваў звыкласць будня,*
*І мезазойскі звер асвер*
*Ныраў у вечнасць, а не ў студню...*

*У люстры постаць ці ж мая?*
*Там штосьць маршчыніста-сівое.*
*І сумна мне, што сёння я*
*І сам як прывід мезазою.*

***

*Развіталіся сумныя кроны*
*Мовай жэстаў — выразнейшай з моў.*
*Толькі рушыў цягнік ад перона,*
*А ўжо сэрца ірвецца дамоў.*

*А калі ж я дадому вярнуся,*
*Штосьць шчымліва душу казытне.*
*Я на досвітку шэрым прачнуся —*
*І дарога пакліча мяне.*

***

*Што пяюць капяжы? — Не тужы!*
*Памажы свайму сэрцу ўваскрэснуць.*
*Хутка крыгі на возеры трэснуць*
*І размножацца тэрэшчын вужы.*

*І насыціцца небам вада,*
*Стынь у сініх глыбінях патоне,*
*І лілея прачнецца ў бутоне,*
*І растане ў праменні нуда.*

*Зразумей, што пяюць капяжы*
*На мяжы між зімой і вясною,*
*Адгадай у нябесным зямное —*
*І сусвету пра ўсё раскажы.*

***

*Доўгі шэраг шэрых дзён*
*У пустэльных шырах шарых.*
*У аблажыстых абшарах*
*Сумны шум дажджу чуцён.*

*Ды вясна — не восень, і*
*Радасць сэрцу зычаць слёзы.*
*У галінах вербалозу*
*Ладзяць гнёзды салаўі.*

# ЗЯМНЫ ІЛЮЗІЁН

**Янусь МАЛЕЦ**

## Яе высокая любоў

*Скажыце ўсім,*
*Што я люблю вас,*
*Людзі!*
*Анэля Тулупава*

*Яна шукала Бога,*
*Малілася за нас,*
*Вяла яе дарога*
*Вышэй, чым на Парнас.*
*У іншым вымярэнні*
*Працягваецца лёс,*
*І чуецца ў трымценні*
*Задумлівых бяроз,*
*У ветры сіратлівым*
*І ў цягніковым гудзе*
*Прызнанне Неанілы*:*
*«Я так люблю вас,*
*Людзі!»*

*Жыву. Іду задумна,*
*Гляджу на неба просінь,*
*Мінула лета сумна,*
*Скідае ціха восень*
*Лісцёвы шоўк пад ногі,*
*Пажоўклы, ледзяны.*
*Настойліва і строга*
*Звіняць дзесьці званы,*
*Трывожна хтосьці звоніць,*
*Нібы сумленне будзіць,*
*І чутна ў перазвоне:*
*«Я вас любіла,*
*Людзі…»*

***Незадоўга да смерці А. Тулупава прыняла сан манахіні і набыла імя Неаніла.**
**2011 г.**

## Асабістае

*Жонцы Вользе на доўгі век*

*Было — калі быў сумны час*
*Са смакам горкасці для нас.*
*Не адмаўляю — не святы,*
*Аднак прабач грахі мне ты!*

*І ўсё ж было, было, было,*
*Калі вакол усё цвіло,*
*І дзякуй Богу, што жылі*
*І жыць яшчэ нам на зямлі!*

*Гады-гады… Бягуць, бягуць…*
*І не вярнуць іх, не вярнуць,*
*Ды неба ёсць і вечнасць ёсць,*
*І сонца ёсць, як светлы госць.*

*Дык яркіх дзён, прыгожых дзён*
*У наш зямны ілюзіён;*
*Шчаслівым будзь, мой чалавек,*
*Сягоння, заўтра і ўвесь век!*

**13. 01. 2010**

## Ваяўнічаму амапаўцу

*О, як пагрозліва глядзіць:*
*«Я буду біць вас, біць і біць!»*
*Ну што ж, шаноўны, бі і бі,*
*Але канцы— два!— мае кій.*
*Глядзі, бо па тваёй жа спінцы*
*Прыемна будзе біць дубінцы.*

## Халяўнае гора

*Я закахаўся ў паварыху*
*І гора горкае займеў:*
*Праз нейкі месяц ледзьве дыхаў,*
*Бо на халяву — еў і еў!*

## Няўжо?

*Хрыста да крыжа прыбівалі*
*І сотні людзей анямелі:*
*Хітрэйшыя перамаўчалі,*
*Нясмелыя перадрыжэлі,*
*Плаклівыя слёзы пусцілі,*
*Паэты экспромты ствaралі,*
*А смелыя — што рабілі?*
*Хоць хто хоць кулак ці ўзнялі?*

*І сёння, калі так ганебна*
*Людзьмі напаўняюцца турмы,*
*Хтось шэпча: «Так Богу патрэбна,*
*Такая ўжо з неба задума.*
*Не рвіцеся сэрцам на плошчы,*
*У цэрквы, касцёлы ідзіце».*
*…Няўжо сапраўды так Бог хоча*
*І просіць: «Маўчыце! Маўчыце»?..*



Фота www.tut.by

## Дагадзілі

*У скрынку з поштай хтось паклаў*
*Адну вядомую газету,*
*Каб з захапленнем прачытаў,*
*Які я сыты і адзеты.*

*Што ж, дзякуй, дзякуй за прэзент,*
*Як дагадзілі ж мне, халера:*
*Схаджу я з ёй у туалет,*
*Бо ўсё ж бясплатная папера!*

***

*Я ў д'яблавы путы нахабна запхнуты,*
*Я ў д'яблавых путах замкнуты, закуты!*
*На волю б мне вырвацца — волі няма!*
*Турма…*

## Беларускім тэлевізіёншчыкам

*Мода ў нас цяпер з Еўропы:*
*Джынсы рваныя на попе.*
*Дык ствары ж, БТ, праграму,*
*Як там цяжка жыць таксама!*

АПАВЯДАННЕ

# ЛАЎЦЫ ВЕРХАВОДАК

Юры СТАНКЕВІЧ



**Плывучы самаходны рэстаран з гучнай назвай «Здань» — перароблены з невялікай баржы і ўкамплектаваны маторам штучны рачны карабель — рыхтавалі да заплыву. Экіпаж у складзе двух чалавек: уладальніка («капітана») і кухара («матроса»), прымаў партыю чарговых кліентаў. Гэта былі: тройка так званых «сорнераў» — хутчэй за ўсё дробных гандляроў з гарадскога базару — з тых, хто прыехаў сюды здалёк і пасяліўся адносна нядаўна, не паспеў запрасіць сваіх жонак, альбо ўвогуле не меў іх, пары мясцовых маладых хлопцаў з пустымі тварамі, што напярэганкі завіхаліся побач іх, і некалькіх дзяўчат з лялечнымі, вясёлымі тварыкамі пэтэвушніц і ў міні-спадніцах. Усе былі на лёгкім падпітку, а адна з дзяўчат бесперапынна павісквала і гучна рагатала тонкім голасам:**

— Ха-ха-ха-ха-хі-хі-хі-хі!

Урэшце «капітан» малога і няўклюднага судна падцягнуў сходні, адвязаў канат, і рачная плынь паціху падхапіла плывучы карабель-рэстаран і марудна панесла ўздоўж берага, далей ад прыбярэжнай вуліцы, засмечанай абыяк раскіданымі лодачнымі і аўтамабільнымі гаражамі ды цаглянымі будынкамі прыватных аднапавярховых дамоў.

«Капітан» — сярэдняга веку, мажны апуцак, у шортах і бейсболцы, рызыкоўна распісаны «тату», з чырвоным пульхным тварам, а яго «матрос» — ён жа кухар, які пачаў распальваць за бляшанай перагародкай мангал і рыхтаваць шашлыкі — яшчэ даволі малады, нягеглы, блатнаватага выгляду хлопец, мітуслівы, з істэрычным, у дробных скулах хітраватым тварам.

Вадаём быў вялікі, некалькі квадратных кіламетраў, эліпсападобны, і з вышыні птушынага палёту, пэўна, нагадваў літару «Ф», дзе прамой рысай была невялікая рака, якая перасякала яго, каб адразу ўліцца ў іншую, нашмат большую. Утвораны штучна, амаль як два дзесяцігоддзі таму на месцы былой поймы побач з горадам, ён і панішчыў малую раку. Тая адразу змізарнела, зарасла па берагах непраходным вербалозам і пустазеллем.

Ад шашы да вады вялі дзве калюжыстыя дарогі, па якіх раз-пораз пад'язджалі на легкавіках аматары рыбнай лоўлі, альбо к ночы хлопцы прывозілі дзевак. Прыязджалі і на матацыклах, скутарах ці роварах, сядзелі па берагах з вудамі-закідухамі, хадзілі са спінінгамі. Нягледзячы на пару-тройку адчувальных забруджванняў (прарывала гарадскую каналізацыю, сцякалі прамысловыя адыходы з заводаў), малая рака зноў і зноў прамывала вадаём сваёй, хоць і слабеючай, але няспыннай плынню, і рыба ў ім вадзілася.

Чалавек на прозвішча Мазур прыехаў на вадаём з прыгараду на ровары, каб у чарговы раз палавіць тут верхаводак. Гэта быў малады мужчына гадоў трыццаці на выгляд, у камуфляжных нагавіцах, красоўках і клятчастай баваўнянай кашулі. Кароткая стрыжка амаль што прыхоўвала раннюю сівізну на скронях, выцвілыя ад сонца вочы глыбока хаваліся пад надброўямі, а нос увогуле быў амаль ружовага колеру, бо скура з яго пасля раптоўнага загару, пэўна, паціху злязала.

Мужчына выцягнуў з-за спіны вузкі цёмна-сіні чахол, а з яго — дзве лёгкія пластыкавыя вуды. Адну з іх — запасную і даўжэйшую — ён пакінуў у аеры каля вады, а другую разматаў, паціскаў у далоні кавалак цеста, нажывіў крыху на гачок, закінуў жылку з плаўком на некалькі метраў ад берага і — азірнуўся навокал.

Сонца ўжо прайшло зеніт і незаўважна рухалася на захад. Ветру амаль не адчувалася, людзей паблізу ў такі час не было, толькі далёка, на супрацьлеглым беразе, сядзелі з вудамі некалькі нерухомых постацяў.

Плавок раптам пацягнула ўбок, мужчына падсёк, і ладную верхаводку, якая супраціўлялася з усіх сіл, а сіл у гэтай невялікай рыбіны хапала, выкінула з вады. Бліснуўшы ў паветры, рыбіна сарвалася з гачка, але ўжо на беразе, і ўпала ў траву. Мужчына незадаволена хмыкнуў і пайшоў па яе, але раптам спыніўся і заўсміхаўся, нібы пабачыў нешта вельмі для сябе прыемнае.

Гэтым «нешта» быў дзікі кот, а калі больш дакладна, то здзічэлы, бо на выгляд нагадваў звычайнага, можа з дамескам ад «нарвежскага лясного»: шэры, з трохкутнай галавой і раскосымі зялёнымі вачыма ды пухнатым хвастом, што нагадваў апахала. Кот касавурыўся на рыбіну, аж трымцеў, але чакаў рэакцыі чалавека.

— Ну, прывет! — сказаў яму Мазур і дадаў ласкава: — Забірай, ласуйся, чаго там. Не шкада.

Кот зразумеў, маланкава схапіў рыбіну, далікатна адцягнуў на які метр і, насцярожана пачаў есці з галавы.

Верхаводкі, між тым, актыўна атакавалі нажыўку, час ішоў, сонца ўсё больш адхілялася на захад. На берагах вадаёма палюдняла: аматары рыбнай лоўлі пакрысе сцякаліся на вячэрні клёў.

Мазур скарміў кату яшчэ некалькі рыбін, дзясяткі з два іх кінуў сабе ў сумку і прылёг на траву. Мятлік, віхляючыся, пакружыў над ім і адляцеў да ярка расфарбаваных зарасцяў дзядоўніку, высока ў небе лунаў птушыны драпежнік — выглядаў нешта сваё, ледзь чутна звінела жамяра.

— Ну, вось, — напаўголаса звярнуўся да жывёліны Мазур, — цяпер ты не галодны, сонца грэе табе бакі, але ў гэтым свеце ўсё адносна, мой меншы брат. Прыйдзе неўзабаве восень, потым зіма, і ўлюбёныя табой верхаводкі сплывуць на глыбіню, а потым увогуле схаваюцца пад лёд, пачнуцца маразы, і — што тады? У якую нару ты схаваеш свой шыкоўны хвост? То-та і яно. Невядома, адкуль ты тут з'явіўся і невядома, куды ты сыйдзеш у цяжкі час. Можа, у які падвал пад шматпавярховікамі, што грувасцяцца там — за бальшаком? У курыны хлеўчык якога жлаба-прыватніка? У каналізацыйны люк? А чым будзеш харчавацца? Душыць пацукоў? Але ж грызці іх пасля смачных, сакавітых верхаводак — хіба тое будзе, як кажуць, не «ў падлу»? Маўчыш? А ў мяне для цябе ёсць цікавая прапанова. Хочаш — прымеш яе, хочаш — не. Мой адпачынак заканчваецца. Хутка — на працу. Прыеду я сюды праз некалькі дзён, пазней, альбо нават наступным разам з якой сумкай пабольш, пасаджу цябе туды і адвязу дамоў, у цёплую хату, бо ночы ўжо становяцца халоднымі, і спіш ты тут недзе, хутчэй за ўсё, у якой земляной нары. Што скажаш, меншы брат?

Кот выслухаў, нечакана ўзняўся на ногі, пасунуўся да твара мужчыны і ўдзячна баднуў таго галавой.

— Ну, ты, разумнік, — расчулена сказаў мужчына і працягваў: — Калі так, то нам трэба пазнаёміцца, так бы мовіць. Афіцыйна. Мяне завуць Алег, а прозвішча — Мазур. Ну, а цябе — як? Урэшце, прыдумаем табе штосьці вартае такога прыгажуна і шчырага братана, як ты. Пра сябе раскажу няшмат, але, каб ты ведаў. Нарадзіўся я тут, на гэтай зямлі, і, як зрэдку кажуць, нікому не пажадаю сваёй радзімы — толькі сабе. Але, тое ўжо другаснае, ха-ха. Найперш табе, можа, цікава, чаму я тут апошнім часам ашываюся. І сапраўды — чаму? Паспрабую, мой меншы брат, адказаць коратка. Інакш, калі хто-небудзь пабачыць і тым больш прыслухаецца, як я тут з табой размаўляю, то справядліва падумае, ці не выклікаць мне сюды «брыгаду». Справа ж, магчыма, у тым, што на маю думку «брыгаду» ўжо даўно варта выклікаць усяму свету. Калі-небудзь тое і адбудзецца, і не важна, хто гэта зробіць — Гасподзь Бог ці які іншы Начальнік Сусвету, альбо якая таямнічая Праграма. А пакуль перазагрузка не ў мяне аднаго. Сунуцеся, шаноўныя, у так званае Сеціва, і пабачце на сваё вочы гэты кішачы, нібы лічынкамі мух, гноеадстойнік. І кожная з іх лічыць сябе вартай сусветнай увагі, не менш. Што ж імі рушыць — усімі тымі юзерамі, блогерамі, хакерамі, браўзерамі, аськамі, чатамі? Людзьмі, якія штодня торкаюць пальцамі ў «клаву» і ядуць вачыма дысплей? Я зразумеў і — нават не паверыў адразу. Страх. Так, мой меншы брат. Яны ўсе трымцяць ад страху, што праз нейкі час прыйдзе старасць і яны згінуць бясследна ў Сусвеце, у Космасе. Ім трэба неяк сцвердзіць сябе ў Вечнасці. Вось я ем адной рукой смачную падсмажаную рыбіну ў якой-небудзь кавярні, п'ю каву, а другой тыцкаю ў ноўтбук і тут жа занатоўваю ў блозе: «я ем рыбіну, зірніце, як я гэта раблю», і здымаю ўсё і, не марудзячы, выкладаю ў Сеціва. Ха-ха. Вось я які — вялікі і значны…

А істэрычная прага да ўсялякіх успамінаў, мемуараў, дзённікаў, зацемак… Хто толькі іх не піша, не заганяе ў Сеціва: генералісімусы, маршалы, генералы, прастытуткі, асенізатары, поп-зоркі, ахмістрыні з атэляў, шпіёны, бандосы, хатнія гаспадыні, сантэхнікі, маньякі, забойцы, спарцмены, дзялкі і чорт ведае хто яшчэ. А ўсялякія спевакі, блазны, прытворшчыкі, вычварэнцы і дураплясы… Ад святла да святла іх жыццярадасныя да ідыятызму тварыкі мільгаюць на экранах. Яны ўсё спяваюць і танчаць, танчаць і спяваюць, і канца гэтаму нябачна…

Кот завурчэў. Зноў баднуў мужчыну ў твар, і ўсцешаны і задаволены, задрамаў.

Запанавала працяглая паўза. Мужчына думаў нешта сваё.

— Вось, — урэшце сказаў ён і, як і раней, услых, — хутка і сонца зойдзе, а па захадзе сонца чалавеку заўсёды самотна. Асабліва, калі ён адзін. Не вельмі мне ахвота табе пра гэта гаварыць, варушыць набалелае, але ж — больш асабліва і няма каму. Як таму чэхаўскаму дзядзьку, што спавядаўся каню. Ты, мой меншы брат, вядома, не конь, але ж разумееш мяне не горш. Дык вось — чаму я тут ашываюся і палюю разам з табой на нейкіх няшчасных верхаводак? А таму, што я меў дурасць адпусціць раней жонку з нейкай турграпай, але, па сутнасці, адну па грашовай пуцёўцы. У Эміраты. Сяброўкі з'ездзілі, і ёй захацелася. Цяпер яна там. Але, як паведаміла днямі па «скайпе» — назаўсёды. Гэта па-навуковаму называецца селебрыфілія: жаданне сэксу і ўсяго там іншага з багатай знакамітасцю, альбо ўвогуле з якім чужынцам. А я толькі звычайны інжынер, праграміст. Здараецца, з раніцы да вечара — за кампутарам. Таксама дзяўбу «клаву». Няўдачнік. Ну, а яна ў мяне — варта прызнаць — прыгожая, пэўна, адна з тамтэйшых знакамітасцяў на яе і запала. А можа і проста які жыгала, ці сутэнёр. Д'ябал бы іх там пабраў: што ім — сваіх баб не хапае? Паехаць самому туды ды заваліць яго? А грошы, а ствол? Не палезеш жа ў самалёт з дзедавым драбавіком пяцьдзясят шостага года мінулага стагоддзя, які цяпер валяецца на антрэсолях? А бабу — валіць таксама? Яна ж, па сутнасці, усяму віной.

Мужчына замаўчаў і задумаўся. Ён успомніў, як пабачыў першы раз сваю будучую жонку ў мясцовым універсаме, як пачаў часцей хадзіць туды, часам без патрэбы, як урэшце пазнаёміўся з маладой прадавачкай, даўганогай і самаўпэўненай. Яе ўпэўненасць у сабе, як аказалася, мела падставы: на конкурсе прыгажунь гадам раней яе прызналі «Міс-горад». Ён і не ведаў. І як гэта ён адразу павёўся на той лялечны твар, вялікія чорныя вочы, белазубую ўсмешку пажадлівых вуснаў і ўсё такое? Прыгожая жонка — не твая жонка, як кажуць у народзе. А была ж у яго і нявеста, дзяўчына, з якой сустракаўся дагэтуль, якая чакала, пакуль ён адслужыць у арміі, і… — вось атрымалася, што ён таксама здраднік. Так — здраднік нумар адзін. Тут, зусім недарэчы, мужчына раптам прыгадаў, як па сваёй маладой дурасці, сустрэўшы на вуліцы ці то кінутага, ці то збеглага сабаку — чыстапароднага ратвейлера, прывёў таго дадому, а свайго дварнягу аддаў знаёмаму. І як той, аддалены яму дварняжка, у яго адсутнасць — быў на працы — вярнуўся, прыбег здалёк са шворкай на шыі, а ратвейлер загрыз яго на падворку.

Доўгі час яму было ад таго непамысна, і нябыты сабака стаў нібы дакорам, пакуль аднойчы не збег ад яго на гарадскія вуліцы следам за сучкай, дзе і быў застрэлены міліцыянтамі.

Мужчына на прозвішча Мазур узняў галаў і ўгледзеўся ў далечыню. Гук матора прыцягнуў яго ўвагу. З вялікай ракі ў пратоцы з'явілася нязграбнае плывучае ўтварэнне, якое ён ужо бачыў тут аднойчы. Карабель-рэстаран. Як быццам нельга адпачыць дзе-небудзь у кавярні ці ў нармальнай рэстарацыі — з сучасным туалетам, ціхай скрыпачкай у куце? Тым больш, калі ў цябе завяліся грошы, — падумаў ён. — Але ж, як цяпер кажуць, прыгожа жыць нікому не забароніш.

Мужчына адчуў раздражненне. Ён жа хацеў палавіць рыбу і на захадзе сонца, адвячоркам. Менавіта тады, перад цемрай, у галаву яму лезуць усякія змрочныя

думкі. А як пачынае сутонець, дык з глыбіні можна падняць буйную плотку, падлешчыка ці нават якога не зусім адэкватнага язя ці галаўля. Адхіліцца ад пакутлівых думак… Вялікая рыба з берага, як ён ведаў, бралася тут рэдка, бо вадаём штучна закармілі самі рыбакі. Хоць што яму тая рыба? У хаце ж пуста, і рыбіну няма каму нават пачысціць. Жонка. Яна проста не мела права так зрабіць. Сука. Лярва. А было ж у іх і каханне, і мары, і спадзяванні…

Мужчына аж скрыгатнуў зубамі і застагнаў. Кот адразу спружыніста ўскочыў на лапы і няўцямна зірнуў на яго.

— Спі, братан, спі, — супакоіў яго інжынер Алег Мазур. — Вы, нашыя меншыя браты, адзіныя, хто не здольныя на падлянку. Пачынаючы ад маленькай руплівай пчалы і заканчваючы вялізным кітом. Так-та…

Карабель-рэстаран «Здань» між тым наблізіўся амаль да сярэдзіны вадаёма. Рухавік на ім заглушылі, і адразу па вадзе разнесліся разняволеныя, узбуджаныя галасы, рогат і жаночы віск з непазбежнымі мацюкамі.

— Хі-хі-хі-ха-ха-ха-ха-ха!

На «Здані» пачалося баляванне. Ляснуў корак з бутэлькі шампанскага, над вадой паплыў пах смажанага мяса. «Сорнеры» паціралі далоні, пажадліва елі вачыма дзевак, роблена ўсміхаліся, перакідваліся словам-другім па-свойму.

«Капітан» сядзеў у міні-рубцы за перагародкай, выпіў на дармаўшчыну шклянку віна і з'еў першы, спробны шашлык, які перадаў яму на шампуры кухар. Твар апошняга раз-пораз перакошвала нярвовая сутарга.

— Музыку! — закрычала раптам адна з дзевак. — З Філіпчыкам! Абажаю Філю.

— Так, так! — падтрымалі яе іншыя.

Праз нейкі час (перакручвалі то адно, то другое) знайшлося і «з Філіпчыкам».

— «Ты не слышишь меня!» — паплыў над вадой саладкаваты голас расейскага поп-спевака.

— «Я не слышу тебя!» — адказваў яму жаночы, не менш саладкаваты.

Дзяўчына, што замаўляла музыку, ускочыла з пластыкавага, прыкручанага да драўлянай палубы крэсла і пачала таньчыць, падпяваючы і карцінна ўздымаючы аголеныя рукі. Ёй няшчыра запляскалі ў далоні.

— Тост! — закрычаў нехта. — За дзяўчат!

Выпілі за дзяўчат, за «капітана». Той-сёй наведаў прыбіральню, цесную, аднамесную будку, якая знаходзілася на карме. Потым зноў пілі, чакалі шашлыкоў. У ваду паляцелі першыя пустыя пляшкі. Іх, а таксама непрыкметна ссунуты ўбок мабільнік аднаго з кліентаў, з прыхаванай асалодай, выкінуў за борт кухар. Урэшце «сорнеры», нібы змовіўшыся, запатрабавалі плыць да берага. Адпачыць крыху на зямлі, пачаставаца шашлыкамі, ну а потым, потым зноў назад, — казалі яны.

— Ну, ведаю, што вам трэба, — неўпрыкмет з'едліва пасміхнуўся кухару «капітан», але запусціў рухавік.

Сутонела. Ярка чырвонага колеру сонечны дыск схіліўся над далягладам. Ад кармы «Здані» пабеглі хвалі, і судна марудна рушыла да берага.

Мужчына на прозвішча Мазур, які ўжо даўно ўзняўся на ногі і закінуў большую вуду на глыбіню, з трывожнай незадаволенасцю сачыў за тым, як шумлівая кампанія на невялікім прагулачным караблі плыве да яго. Была спадзяванка, што гэтыя, як ён лічыў, занадта жыццелюбівыя дурыкі скіруюць куды-небудзь у іншым напрамку, але вясёлы плывун упарта набліжаўся, і ён вырашыў, што на сёння, пэўна, хопіць, прыедзе сюды заўтра альбо пазней, і варта змотваць вуды.

Але з вудай, якую ён закінуў на глыбіню, неспадзявана здарыўся раптоўны зачэп — пэўна які корч апынуўся ля самага берагу, хоць ён і меціў кідаць недалёка, за траву. Шкада было новай жылкі і плаўка, і мужчына, яшчэ больш раздражняючыся, пачаў торгаць вудзільна ўверх і ўбакі, каб вызваліць гачок. Але той уеўся ў нябачнага тапельца намертва.

На «Здані» між тым заглушылі матор, узнялі яго ўгору, і судна паволі ўткнулася носам у плёс. Выкінулі сходнікі, і першымі на бераг з рогатам выскачылі дзяўчаты, за імі «сорнеры» і двое мясцовых — «капітан» застаўся на борце. Тое, што непажаданыя «турысты» быццам ва ўпор не заўважалі яго, яшчэ больш узвар'явала Мазура.

Вядома, у душы ён разумеў, што гэтыя нахабнаватыя прыхадні, якія быццам знарок з'явіліся на яго вочы — не вінаватыя ў тым, што здарылася з ім у апошні час. Ён нічога не мае да людзей іншых нацыянальнасцяў, толькі няхай паводзяць сябе прыстойна. Дый і што такога незвычайнага ў тым, што яго цяпер ужо былая жонка нагледзелася нейкіх саладжавых кіношных гісторый ды тэлеспавядзяў шматлікіх поп-зорок і захацела прыгожага жыцця? Не яна першая і не яна апошняя. Галоўны вінаваты ён сам. Так. Дзе былі яго вочы, яго галава, калі ён, былы дэсантнік, біўся за яе з нейкімі прыблатнёнымі дзялкамі, а потым браўся шлюбам? А дойдзе ўсё да суседзяў? Да супрацоўнікаў з іх бюро? І дойдзе ж, дойдзе абавязкова. Цьфу! Вось і цяпер: нейкім дурнаватым і распусным малалеткам захацелася, як кажуць, «адтапырыцца», няхай бы і так, але — нахабная беспакаранасць… Ім тут што — прахадны двор?

— Вам у гэтым месцы — мёдам намазана? — урэшце ў кароткай паўзе паміж надакучлівым хіхіканнем дзяўчат і разняволеным гергетаннем чужынцаў гучна спытаў ён. — Дык я вас сюды не выклікаў!

Яго не толькі ва ўпор не бачылі. Яго не чулі. Затое быццам убачылі ката. Нехта з гіканнем шпульнуў у таго знятым з нагі пантофлем. Жывёла адбегла метры на два і спынілася, насцярожана ўзняўшы вострыя, з кутасікамі, вушы.

— Ды вы што, тупалобцы, зусім з разьбы з'ехалі? — закрычаў інжынер Алег Мазур, які ўжо губляў над сабой кантроль. — Вы што творыце? Так, так, я да вас звяртаюся, і да вас таксама, «вэнджаныя»! Вы што, хамуйлы, набрыдзь — прыехалі тут свае законы ўсталёўваць? Падціраць смэркі аб нашы абрусы? Гадзіць у нашыя рэчкі?

Яго нарэшце пачулі. Усе сціхлі, нават дзяўчаты.

— Гэта што за «перац»?

Адрэагаваў першым чамусьці не хто-небудзь з так званых «сорнераў», а кухар. Твар яго перасмыкнула.

— Ты нам, гэта, адпачываць не перашкаджай, — чамусьці з радаснай усмешкай сказаў ён. — Бачыш, як іх усіх разбірае! — І кіўнуў на кліентаў і іх дзевак.

— Эйш, заспяваў, — падробліваючыся пад блатнога здзекліва засіпеў адзін з «мясцовых», набліжаючыся да мужчыны ды няўмела наганяючы страху. — Ты хто такі? Што за панты? Глохні, сука! А то адкажаш за базар: жалязяку на шыю і — на глыбіню.

— Стоп! Стоп! — умяшаўся з борта «капітан». — Навошта гнабіць мужыка? Ён, бачу, с непалахлівых. Пляшку яму, і няхай дадому кіруе! Будзем шчодрымі, ха-ха…

— Сунь сабе тую пляшку ведаеш куды?

— Ну, дык пакуль тое, спакуйце яго, няхай сціхне і падумае, калі ён думаць не ўмее, — спахмурнеў і выказаў прапанову «капітан».

Але ён мог і не працягваць, бо на інжынера Мазура ўжо мусілі накінуцца двое «мясцовых», але той ужо і сам напаў на іх, збіў адразу аднаго з ног трапным «лаукікам», другому пацэліў у сківіцу — той узвыў, і тут на яго самога напалі ўсе, акрамя «капітана» і, вядома, дзевак (якія бесперапынна вішчэлі), павалілі на зямлю, пакачалі і нават прыкладаліся нагамі: «Стоп! — зноў закрычаў «капітан», — пасля чаго ўсе ўрэшце спыніліся.

— Шашлыкі! — запатрабаваў нехта с «сорнераў». — Кухар! Дзе кухар? Халдэй!

— Так, так! — падтрымала адна з дзяўчат. — І музыку сюды!

— А вось сядзіць коцік! Ты — адкуль? — віскнула другая. — Ды вы зірніце — ён і не думае ўцякаць. Ты чый, коця? Які пухнаты!

Яна прысела на кукішкі і пацягнулася да ката рукой. Той зашыпеў і таргануў лапай.

— Ай, ён мяне падрапаў! — закрычала дзяўчына. — Вось і кроў, глядзіце! А калі ён шалёны?

Мужчына на прозвішча Мазур сядзеў на зямлі, раз-пораз імкнучыся падняцца на ногі, але яго ўсё яшчэ насцярожана прыціскалі за плечы двое «мясцовых». Але неўзабаве пакінулі ў спакоі. Як ён адчуваў, на большае яны не рызыкнуць, не той расклад, але…

Між тым нецярплівыя «сорнеры» пацягнулі дзяўчат, што вяла ім супраціўляліся, за кустоўе, у траву. Адтуль пачуўся віск, рогат, а потым наступіла цішыня, але цягнулася гэта не надта доўга; пакамечаныя — адны за другімі яны зноў з'явіліся ля вады.

Кухар, які сышоў было на бераг, зноў падняўся па сходніках на палубу, засланіўся спінай, зняў з мангала некалькі шашлыкоў на шампурах, старанна апляваў кожны з іх і панёс на бераг.

— Гэта вам за «халдэя». — І ўжо на беразе закрычаў: — Дарагім гасцям — самыя смачныя!

— Мне хто-небудзь палечыць руку? — зноў заенчыла дзяўчына, якая раней няўдала зачапілася катом. Шаленствам можна заразіцца. Дзе гэты кацяра? А-а, вунь ён, гад, сядзіць, не адыходзіць…

— Не баіся, кветачка ты наша, зараз гарэлкай прадэзенфікуем, — няшчыра пачаў супакойваць адзін з «сорнераў» — той, хто «апекаваў» яе. — Дзе гарэлка? Халдэй!

Сонца, між тым, зайшло, і цені над зямлёй згусціліся і папаўзлі па вадзе.

«Капітан» спусціўся на бераг, падышоў да мужчыны, які, сціснуўшы сківіцы, скамянела глядзеў у далечыню, і спытаў:

— Ну, што засумаваў? Дамоў — не пара? Ды ты не садзіся на крыўду, сам вінаваты.

— Бадай што і праўда паеду, — раптам пасля непрацяглага роздуму згадзіўся мужчына на прозвішча Мазур.

— Ну дык і правільнае рашэнне, — з палёгкай уздыхнуў «капітан» і дадаў «мясцовым»:

— Вуды яму вярніце, каб усё пачаснаку! Ды налейце шклянку.

Прынеслі вуды. Інжынер Алег Мазур сунуў іх у чахол, перакінуў яго за спіну, грэбліва адхіліў гарэлку, сеў на ровар, затрымаўся раптам, убачыўшы ката, які па-ранейшаму нярвова бегаў побач, і — націснуў на педалі.

Праз якую гадзіну мужчына на прозвішча Мазур ужо вяртаўся назад. Ён спяшаўся, і таму штосілы націскаў на педалі. Перасёк бальшак з бясконцым патокам машын і збочыў, урэшце, на дарогу да вадаёма. На шматлікіх калюжынах яго трэсла, і тады ён адчуваў боль у грудзях. Трапілі, пэўна, і па рэбрах, — змрочна думаў ён.

Амаль сцямнела, але прамень святла ад фары, якую ён абачліва ўсталяваў з месяц раней на руль, добра асвятляў вузкую сцяжынку. Урэшце ён наблізіўся да месца, дзе лавіў верхаводак, а пасля пакінуў баляваць плавучую кампанію прыхадняў, і цяпер, яшчэ не даехаўшы, пабачыў, што «Здань» ужо зноў адплыў амаль на сярэдзіну вялікай вады. На асветленай вісячым ліхтаром палубе, пэўна, па-ранейшаму святкавалі, бо адтуль гучала музыка, даносілася гергетанне «сорнераў», вясёлыя галасы дзяўчат ды знаёмы пранізлівы рогат адной з іх.

— Ха-ха-ха-хі-хі-хі-хі!

Мужчына саскочыў з ровара, і раптам у святле яшчэ не згаслай фары ўбачыў на пяску шэры камяк. На якую секунду ў яго перахапіла дыханне, і ён падумаў: «Не можа быць», але, укленчыўшы, ужо зразумеў, што благое прадчуванне не падманула.

Цельца ката з перасечанай шыяй скурчылася перад ім на зямлі. Яго «меншы брат», лавец верхаводак, быў мёртвы.

— Ну, дык тым больш… Ад шроту не памрэце…

Мужчына на які міг знерухомеў, а потым быццам зусім супакоіўся, рыўком узняўся на ногі, перакінуў з-за спіны цяжкаваты скрутак, выцягнуў адтуль двухствольны курковы драбавік, пераламіў ствалы, вытрас з сумкі некалькі патронаў і зарадзіў адразу два. Ён падышоў усутыч да вады, ускінуў рулю, прыцэліўся і націснуў на курок, потым на другі.

Стрэлы заглушылі ўсе іншыя гукі і рэхам пракаціліся над вадаёмам. Адразу за імі з борта прагулачнага судна пачуўся істэрычны віск і няўцямныя, спанікаваныя галасы.

Мужчына выкінуў пад ногі гільзы, зноў зарадзіў драбавік і зноў націснуў на абодва куркі разам. Прыклад аддачай таргануў яму ў плячо.

Чарговы зарад пэўна трапіў у ліхтар на палубе, бо той з трэскам лопнуў і рассыпаўся. На «Здані» стала цёмна.

— Ратуйце! — завішчэў адтуль жаночы голас, — забіваюць!

— Міліцыю! Мабілу сюды! Хутчэй!

— Ай, ай, у мяне трапіла!

— Не страляй! Хто там страляе?

— Хавайцеся!

— Мабіла! Дзе мая мабіла?!

Чалавек на прозвішча Мазур выкінуў на пясок чарговыя дзве гільзы, зноў зарадзіў драбавік. Ускінуў рулю на цёмнага плывучага сілуэта і зноў націснуў на куркі.

На судне зароў матор.

Мужчына памацаў у сумцы. Патронаў больш не было. Пасля чаго размахнуўся і закінуў драбавік у ваду, сабраў з-пад ног гільзы і кінуў следам.

Нейкі час ён маўкліва пастаяў на беразе, а потым знайшоў нерухомае цельца, расшпіліў кашулю і запіхнуў ката, яшчэ цёплага, за пазуху.

Усю дарогу, пакуль ехаў, ён адчуваў гэту паволі знікаючую цеплыню і думаў пра жывёлу і сябе: «Ну вось, хутка і будзем з табой дома. Як абяцаў».



Фота М.Вазерзіча

ВЕРШЫ

# НАЗАЎТРА БЫЛА ЗІМА

Алесь ПЛОТКА

## Paranoja.by

*лінія*
*высакавольтная*
*уздоўж ідзе*
*моўчкі еду я*

*лінія*
*мой цягнік нясе*
*хто я ёсць?*
*і ці гэта я?*

*лінія*
*па далонях прэч*
*кожны дзень*
*маю рацыю*

*лінія*
*метамфетамін*
*модны дзэн*
*канспірацыя*

*лінія*
*гарызонтам ёсць*
*твой канал*
*тэлевізія*

*лінія*
*і вакол вачэй*
*марны час*
*межы лініі*

*лінія*
*ты заўсёды сам*
*кожны дзень*
*маеш рацыю*

*лінія*
*метамфетамін*
*модны дзэн*
*канспірацыя*

## Лічылка XXI стагоддзя

*хмаркі шпарка ходзяць хеўрай*
*маем долары і еўра*
*мужнасць, годнасць, хваляванне*
*і цярпенне. за юані.*
*вільнюс, прага і варшава*
*чарка злева шкварка справа*
*вашынгтон брусэль і масква*
*сяброў — кола, сяброў мноства*
*нафта з газам — ланцужочак*
*малако і тваражочак*
*для смаленска й беластока*
*у аан стаім вытоках!*
*фулі толку, братка родны?*
*ад хлусні паміжнародны?*
*вось такая вось такая*
*табе гулька ралявая*

*то ягадна-пладовая*
*раля твая бядовая*

*вай вай вай вай вай вай*
*еш нуклідны каравай*
*вай вай вай вай вай вай*
*каго хочаш выбірай*

*трафік таннай наркаты*
*выхадзі-ка з кругу ты!*

*ам-ап*
*ам-ап*
*стэнд ап*
*стэнд ап*

*вось баланда вось мандат*
*хто наступны кандыдат?*

*…і г.д.*

**8 студзеня 2010 г.**

## Апошні цвік

*Труны маёй апошні цвік*
*Заб'е апошні бальшавік,*



*Чырвоным плюне ў белы сцяг.*
*Я буду дома. Ён — ў гасцях.*
*І хоць не ўбачыць ён таго,*
*Я памалюся за яго*

*Лапату возьме, каб сагрэцца —*
*І раптам схопіцца за сэрца.*

*І ў сонечны вясновы дзень*
*Сам у магілу упадзе.*
*Я буду ціхенька на дне,*
*А ён нязграбна на труне.*
*Анёлы пузы надарвуць,*
*Пакуль на суд нас прывядуць.*

*Прысудзяць ехаць вечна побач:*
*На поўдзень — я, а ён — на поўнач.*

## Вільня

*Вільня. Восень.*
*Каштую «Варнюкас».*
*Лунае той час*
*І мінае той час.*

*— Добрай Раніцы!*
*— Labas rytas!*
*Ёсць адна ты ў нас,*
*Покуль розум не згас.*

## Побач

*учора*
*вачыма*
*ранішнімі*

*заўжды*
*выглядае*
*інакш*

*побач*
*з сябрамі*
*калішнімі*

*шчыра*
*вірую*
*свой марш*

## свабода

*свабода…*
*7 літар, якія*
*як ода,*
*яны маняць нас*

*баладай,*
*яскравай багіняй,*
*якая*
*выплясвае вальс,*

*жанчынай,*
*прыгожай жанчынай*
*Венерай,*
*якой сніцца Марс*

*і одум*
*маўклівa знясіліць —*
*яна ёсць*
*у кожнага з нас!*

*і потым*
*мы станем цнатлівей,*
*можа быць,*
*зменіцца час*

*і подых, —*
*ці стаў ты шчаслівы?*
*таксама*
*пацішыцца ўраз*

*…свабода…*
*сем літар, якія,*
*якія*
*ёсць*
*у кожнага з нас….*

## Кроплі лістападу (памяці Олдзі)

*Калюжай агромністай*
*Пры канцы лістапада*
*Ляжу на падлозе*
*Лье неба бальзам*

*Гэтыя кроплі — як голас Камоцкай,*
*Гэтыя кроплі — шалёны Высоцкі,*
*Гэтыя кроплі — слязьмі Essentials Кактэбелю*
*…і Камітэтам Аховы Цяпла*



Фота А.Каліновіча

*Гэтыя кроплі — як люты Патоцкі*
*Гэтыя кроплі — памежнік літоўскі*
*Гэтыя кроплі — як водар ялею*
*Гэтыя кроплі — я сам…*

## Даруй мне, мама

*Даруй мне, мама, што не стаў*
*інжынерам*
*Даруй мне, мама, што не стаў афіцэрам*
*Бо інжынераў і афіцэраў*
*Тут да халеры заўжды*

*Як хаваюць паэтаў — не чутно стрэлаў*
*Як хаваюць паэтаў — не чутно гімнаў*
*І толькі ціха, з зямлёю побач*
*Пачуеш: звіняць званы…*

## …назаўтра была зіма

*Ці ўсё мы сказаць паспелі?*
*…назаўтра была зіма…*
*Хісталі жыцця арэлі.*
*…хісталі кагосьці дарма…*

*Хісталі жыцця дарогі*
*Шырока, на ўсе бакі.*
*Маўкліва ведалі ногі,*
*Што трэба ісці напрасткі.*

*Паснулі Купала і Колас,*
*Над светам сапе вайна.*
*Гукайма ж вясну — уголас!*
*…назаўтра была зіма…*

## Анёлы

*Гублялі*
*Анёлы*
*Крылы.*

*— Кахаю!*
*— Дашлі*
*На мыла…*

## Кожны сам

*Кожны сам, кожны сам,*
*Кожны сам сабе сонца.*
*Кожны сам сабе сцяг,*
*Нават сам сабе смерць.*

*Нашы словы — бальзам,*
*Нашы думкі — як стронцый.*
*Жыццё — белы абсяг,*
*Нам на ім чырванець.*

*Кожны сам, кожны сам,*
*Кожны сам сабе неба.*
*Кожны сам сабе лёс,*
*Сам сабе некралог.*

*Не ўратуе падман,*
*Рыбаку не патрэбны*
*Самаўлюблёны плёс…*
*Рыбы — мы, рыбак — Бог…*

## шлю паштоўку арыштанту

*шлю паштоўку арыштанту*
*пішу шэптам і з пашанай*
*штандар шэры над кляштарам*
*шлю паштоўку арыштанту*

*шлю паштоўку арыштанту*
*на паштамце шалясценне*
*аркушоў і шапаценне*
*шлю паштоўку арыштанту*

*шлю паштоўку арыштанту*
*шэльмы шэльмаў шкваркай лашчаць*
*штольні душаў нібы пашчы*
*шлю паштоўку арыштанту*

*шлю паштоўку арыштанту*
*плошчы нашы нібы прошчы*
*па шчаках на шчасце хвошчуць*
*шлю паштоўку арыштанту*

**23 снежня 2010 г.**

АПОВЕД

# ЯЙКА

Шэрвуд АНДЭРСАН (1876–1941)



Мой бацька, я ў гэтым упэўнены, па сваёй прыродзе мусіў быць вясёлым і добрым чалавекам. Да трыццаці чатырох гадоў ён працаваў парабкам на ферме ў чалавека па імені Томас Батэрўорт. Яго гаспадарка была ля мястэчка Бідўэл, штат Агая. У той час бацька меў свайго каня і суботнімі вечарамі выпраўляўся на ім у горад, каб правесці колькі гадзінаў у кампаніі такіх жа парабкаў, як і ён сам. У горадзе ён выпіваў некалькі кухляў піва ды бавіў час у салуне Бэна Хэда, дзе зазвычай па суботах і збіраліся мясцовыя парубкі. Там пелі песні і грукалі кухлямі аб стол. А дзясятай бацька вяртаўся дахаты па адзінокай палявой дарозе, заводзіў каня ў стайню і клаўся спаць, цалкам задаволены сваім жыццём. Тады яшчэ ён не меў патрэбы дамагчыся поспеху.

На трыццаць пятым годзе свайго жыцця, вясною, ён пабраўся шлюбам з маёй маці, у той час вясковаю настаўніцай. Наступнай вясною, ёрзаючы і лямантуючы, на свет з'явіўся я. І тут з імі нешта здарылася — у абодвух з'явіліся амбіцыі. Амерыканская прага прабіцца ў жыцці завалодала імі.

Мабыць, ва ўсім вінаватая маці. Як школьная настаўніца, яна без сумневу чытала кнігі і часопісы. Я нават магу сабе ўявіць, як яна чытала пра Гарфілда, Лінкальна ды іншых амерыканцаў, што прайшлі шлях ад жабрацтва і беднасці да славы і велічы. А потым, лежачы пасля родаў і гледзячы на мяне, яна марыла, як аднойчы я буду кіраваць людзьмі і гарадамі. У любым разе, яна настояла, каб бацька кінуў працу на ферме, прадаў свайго каня і распачаў уласную справу. Яна была высокаю маўклівую жанчынай з даўгім носам і трывожнымі шэрымі вачыма. Для сябе яна не хацела нічога. А для мяне і бацькі яна рабілася безнадзейна амбітнай.

Першая ж справа, якою яны заняліся, скончылася кепска. Яны арандавалі каля чатырох гектараў беднай камяністай зямлі каля Грыгс Роўд, у дванаццаці кіламетрах ад Бідўэла, і пачалі вырошчваць куранят. Тут я правёў гады свайго маленства, і першыя свае ўражанні ад жыцця таксама атрымаў тут. З самага пачатку гэта былі ўражанні катастрафічныя. І калі цяпер па жыцці я чалавек пануры і імкнуся бачыць адно яго цёмны бок, то гэта таму, што заміж радасці і шчасця ў тыя гады я бачыў адно птушкаферму.

Людзі, далёкія ад жыцця на ферме, і ўявіць не могуць, колькі трагічнага можа здарыцца з куранём. Яно нараджаецца з яйка, жыве некалькі тыдняў у выглядзе маленькага пухнатага камячка, як малююць на Велікодных паштоўках, потым страшэнна аблазіць, паклёўвае кукурузную муку, якую бацька зарабіў у поце чала свайго, падхоплівае хваробы, што завуцца ціпун, ці халера, ці іншая трасца, прастойвае, упірыўшы тупыя вочы ў сонца, а пасля слабее і здыхае. Некалькі курак і зрэдку які пеўнік, народжаныя паслужыць Божаму наканаванню, усё-ткі патрапляюць вырасці. Гэтыя куры адкладваюць яйкі, з якіх нараджаюцца новыя куранята, і такім чынам жахлівае кола замыкаецца. Усё гэта неверагодна складана. Большасць філосафаў былі мусіць народжаныя на птушкафермах. Так шмат спадзеваў ускладаецца на кураня, і так груба яны разбураюцца. Маленькія куранята, што толькі пачынаюць свой шлях у жыцці, выглядаюць жвавымі і кемнымі, але насамрэч страшэнна дурныя. Яны так падобныя да людзей, могуць вось так узяць і збляытаць табе ўсе жыццёвыя арыентыры. Калі іх не забівае хвароба, яны счакаюць, пакуль ты не ўсклядзеш на іх усе свае надзеі, а пасля ляцяць пад колы фургона і крывавай жыжай вяртаюцца да свайго творцы. У юнацтве іх апаноўваюць паразіты, і толькі на лекавых парашках можна разарыцца. Пасталеўшы, я пабачыў, колькі кніг напісана пра тое, як лёгка разбагацець на гадоўлі курэй. Мабыць, такія кнігі — для багоў, якія толькі што з'елі пладоў ад дрэва пазнання дабра і зла. Гэтая жыццесцвярджальная літаратура заяўляе, быццам звычайныя энтузіясты, маючы ўсяго некалькі птушак, могуць дасягнуць многага. Але не давайце ім веры. Такія кнігі пісаліся не для вас. Лепш ідзіце шукайце золата на ледзяных узгорках Аляскі, спадзявайцеся на сумленнасць палітыкаў, верце, калі можаце, што свет з кожным днём робіцца ўсё лепшым і дабро ўрэшце пераможа зло, але не чытайце і не давайце веры кнігам пра гадоўлю курэй. Такія кнігі пісаліся не для вас.

Але я, здаецца, адхіліўся ад тэмы, бо мой аповед, па сутнасці, не пра курэй. Па сутнасці, ён тычыцца яйка. Дзесяць гадоў мае бацькі змагаліся за прыбытак ад птушкагадоўлі, а потым кінулі тыя змаганні і ўзяліся за іншыя. Яны пераехалі ў мястэчка Бідўэл у штаце Агая і распачалі рэстаранны бізнэс. Праз дзесяць гадоў пастаянных перажыванняў за інкубатары, якія не хацелі выводзіць курaнят, за тых маленькіх і па-свойму мілых пухнатых камячкоў, штоператвараліся ў напаўголых падлеткаў, а потым у дохлых курыц, мы адрынулі ўсё старое, спакаваўшы свае пажыткі на драбіны, што павезлі нас па Грыг Роад да мястэчка Бідўэл. У тым маленькім абозе надзеі мы выправіліся на пошукі новага месца, адкуль можна было б зноў пачаць наш пераможны шлях па жыцці.

Мабыць, мы ўяўлялі сабой сумнае відовішча, і мне падаецца, нечым нагадвалі ўцекачоў, што бягуць з месца баявых дзеянняў. Мы з маці ішлі па дарозе. Воз з усімі нашымі пажыткамі мы на дзень пазычылі ў суседа, містэра Альберта Грыга. Ножкі танных крэслаў тырчэлі па баках, а за ўсім гэтым гармідарам ложкаў, сталоў, скрынак, запоўненых кухонным начыннем, стаяла клетка з жывымі куранятамі, а зверху грувасцілася дзіцячая каляска, у якой мяне вазілі ў маленстве. Чаго мы прычапіліся да гэтай каляскі, я не ведаю. Наўрад ці ў сям'і з'явіліся б новыя дзеці, ды і колы ў ёй былі зламаныя. Але людзі, у якіх мала рэчаў, прыкіпаюць да таго, што маюць. Гэта адна з ісцінаў, што робяць жыццё такім маркотным.

Бацька кіраваў возам. У той час ён быў лысым саракапяцігадовым мужчынам, крыху таўставатым — і ад доўгіх стасункаў з маці і курамі зрабіўся зазвычай маўклівым і маркотным. Цягам тых дзесяці гадоў ён працаваў рабочым на суседніх фермах і бальшыню грошай, якія зарабляў, траціў на лекі ад курыных хваробаў, на «Белыя Цуда-лекі Ўілмера», ці на мікстуры «Прафесара Тандэта, Птушынага Лекара», ці на іншыя медыкаменты, рэкламы якіх маці знаходзіла ў газетах пра курэй. На бацькавай галаве засталіся ўсяго дзве пасмы валасоў над вушамі. Я памятаю, як дзіцём любіў глядзець на яго, калі ён засынаў на крэсле перад печчу зімовымі нядзельнымі вечарамі. Тады я ўжо пачаў чытаць кнігі і займеў свае погляды, і дарога залысіны, што цягнулася праз яго галаву, уяўлялася мне нечым накшталт гасцінца, якім, мабыць, Цэзар вёў свае легіёны з Рыму ў цудоўныя нязведаныя краіны. А пасмачкі валасоў, што раслі над бацькавымі вушамі, здаваліся мне лясамі. І я апынаўся ў стане паўсну і паўявы, бачачы сябе маленькай істотай, якая крочыць той дарогай у прыгожыя далёкія краіны, дзе няма курыных фермаў і дзе жыццё — шчаслівая прыгода без аніякіх яек.

Пра наш пераезд з птушынай фермы ў горад можна было напісаць кнігу. Мы з маці цалкам прайшлі пехатою тыя восем міляў: маці сачыла, каб нічога не звалілася з возу, а я глядзеў на дзівосы свету. А на сядзенні ля бацькі стаяў яго найвялікшы скарб. Пра яго я і раскажу.

На птушыных фермах, дзе з яек вылупліваюцца сотні ці нават тысячы куранят, часам здараюцца дзіўныя рэчы. Вычварэнні бываюць сярод куранят гэтаксама, як і сярод людзей. Здараецца такое не часта, мабыць, раз на тысячу яек. Кураня можа мець чатыры нагі, дзве пары крылаў, дзве галавы ці яшчэ што-небудзь. Яны не жывуць. Яны адразу выпраўляюцца да Творцы, чыя рука здрыганулася на імгненне. І тое, што маленькія небаракі не маглі выжыць, было адной з трагедый жыцця для майго бацькі. Ён думаў, што калі яму ўдасца некаж дацягнуць пяціногую курыцу ці двухгаловага пеўня да даросласці, то вось тады ён і разжывецца. Ён марыў пра тое, як прывязе свой цуд на мясцовы кірмаш і разбагацее, паказваючы яго іншым.

Бацька захоўваў усіх пачвараў, што нараджаліся на птушынай ферме. Кожная з іх, заспіртаваная, зберагалася ў асобным шкляным слоіку. Бацька асцярожна паставіў іх у скрынку і падчас пераезду вёз яе на сядзенні побач з сабой. Адной рукою ён кіраваў коньмі, а другой прытрымліваў скрынку. Калі мы прыехалі на месца, скрынку знялі з воза першай і выцягнулі шклянкі. Увесь час, пакуль мы валодалі рэстаранам у мястэчку Бідўэл, штат Агая, пачвары ў сваіх маленькіх шкляных слоіках стаялі на паліцы за прылаўкам. Маці часам абуралася, але бацька гарой стаяў за свой скарб. Вычварэнні, заяўляў ён, былі каштоўнымі. Людзям, казаў ён, падабаецца глядзець на нешта дзіўнае і незвычайнае.

Я сказаў, што мы распачалі рэстаранны бізнэс у мястэчку Бідўэл, штат Агая? Я крыху перабольшыў. Сам горад знаходзіўся ля падножжа нізкай гары і на беразе маленькай ракі. У горадзе не было чыгункі, а чыгуначная станцыя была за паўтары кіламетры на поўнач у мястэчку Піквіль. На станцыі былі толькі кансервавы завод ды яблычны прэс, але калі мы туды прыехалі, яны ўжо абодва не працавалі. Раніцою і ўвечары аўтобусы прыходзілі ад гатэля на галоўнай вуліцы Бідўэла да чыгуначнай станцыі па вуліцы Турнэр'с Пайк. Кінуць усё і распачаць рэстаранны бізнэс у глухім гарадку было ідэяй маці. Яна цвердзіла пра гэта цягам года, а потым узяла і арандавала пусты будынак насупраць чыгуначнай станцыі. Гэта было яе ідэяй, што рэстаран прынясе прыбытак. Падарожнікі, казала яна, заўжды будуць чакаць сваіх цягнікоў, а гараджане будуць прыходзіць на станцыю, каб сустрэць цягнікі. Яны зойдуць у рэстаран з'есці кавалак пірага ды выпіць кубак кавы. Цяпер, у дарослым узросце, я ведаю, што ў яе былі іншыя матывы для пераезду. Яна была такою амбітнай дзеля мяне. Яна хацела, каб я прабіўся ў жыцці: скончыў гарадскую школу, стаў гарадскім.

У Піквілі бацька з маці працавалі так шмат, як і заўжды. Спачатку трэба было ператварыць памяшканне ў рэстаран. Гэта заняло месяц. Бацька змайстраваў паліцу, на якую паставіў слоікі з гароднінай. Ён зрабіў шыльду, дзе вялікімі чырвонымі літарамі напісаў сваё імя. Пад імем быў строгі загад «Ешце тут!», але выконвалі загад рэдка. Бацькі купілі вітрыну, на якую паклалі цыгарэты і табаку. Маці адскрэбла падлогу і сцены памяшкання. Я пайшоў у гарадскую школу і быў шчаслівы адкараскацца ад фермы і ад нудлівых, маркотных куранят. Але ўсё роўна я радаваўся не моцна. Вечарам, вяртаючыся са школы па вуліцы Турнэр'с Пайк, я ўспамінаў дзяцей, што гулялі на дворы гарадской школы. Маленькія дзяўчаты тады бегалі чародкай, скакалі і спявалі. Я спрабаваў гэтак сама: самотна скакаў на адной назе па замёрзлай дарозе і гучна спяваў: «Раз, два, тры, чатыры, пяць. Выйшаў зайчык пагуляць». Пасля я спыняўся і няпэўна азіраўся. Я баяўся, што нехта пабачыць мяне ў такім добрым настроі. Мабыць, мне падавалася, што я рабіў нешта такое, што не мусіць рабіць чалавек, які, як я, вырас на птушынай ферме, дзе смерць была звычайнай з'явай.

Маці вырашыла, каб наша рэстарацыя была адчынена і ўначы. А дзясятай вечара паўз нашу рэстарацыю праносіўся пасажырскі цягнік, што кіраваўся на поўнач, а за ім мясцовы таварняк. Чыгуначнікі з таварняка мусілі былі пераводзіць стрэлкі ў Піквілі і, скончыўшы працу, заходзілі да нас у рэстаран выпіць кубак гарачай кавы і паесці. Часам нехта з іх замаўляў яешню. А чацвёртай раніцы чыгуначнікі вярталіся з паўночнага кірунку і зноўку заходзілі сюды. Наша невялічкае прадпрыемства пачало разрастацца. Маці спала ўначы, а ўдзень кіравала рэстарацыяй і абслугоўвала наведвальнікаў, пакуль спаў бацька. Ён спаў у тым жа ложку, дзе ноччу спала маці, а я хадзіў у Бідўэлскую школу. Цягам доўгіх начэй, пакуль маці і я спалі, бацька гатаваў мяса для гамбургераў нашым кліентам. Затым яму ў галаву прыйшла думка, як дабіцца поспеху ў гэтым свеце. Амерыканскі дух ім завалодаў цалкам. Ён таксама зрабіўся амбітным.

Ноччу, калі працы было няшмат, у бацькі было даволі часу падумаць — усё праз лайдацтва. Ён вырашыў, што прычынай усіх няўдач быў яго невясёлы нораў і што надалей яму трэба больш весела ўспрымаць жыццё. Рана раніцай ён падняўся да нас і лёг у ложак з маці. Яна прачнулася, і абодва загаварылі. А я слухаў са свайго ложка ў куце.

Паспрабаваць разам з маці забавіць тых, хто прыйшоў паесці ў наш рэстаран, было бацькавай ідэяй. Я цяпер не ўспомню, што ён казаў дакладна, але падаецца, нейкім дзіўным чынам ён хацеў зрабіцца мясцовым артыстам. Калі б жыхары Бідўэла, асабліва маладыя людзі, наведваліся да нас, што хоць і вельмі рэдка, але здаралася, то для іх была б нагатове дасціпная артыстычная прамова.

Працяг на стар. 20 (12) ▸

▸ АПОВЕД

# ЯЙКА

◂ Працяг.
Пачатак на стар. 19 (11).

З бацькавых слоў я зразумеў, што ён мусіў быць такім сабе вясёлым карчмаром. Маці, мабыць, спачатку засумнявалася, але нічога супраць не сказала. Бацьку ў галаву прыйшла думка, што сэрцы Бідўэлскай моладзі запалаюць да яго і маці любоўю. Надвячоркам вясёлыя і шчаслівыя гурткі моладзі пойдуць, распяваючы песні, па Турнэр'с Пайк. З жартамі і смехам яны завітаюць у нашу карчму, дзе іх сустрэнуць спевамі і забавамі. Я не хачу давесці, што бацька распісваў усё так узнёсла. Як я казаў, ён быў чалавекам нешматслоўным. «Ім трэба месца, куды пайсці. Кажу табе, ім трэба месца, куды пайсці», — усё паўтараў і паўтараў ён. Вось так ён казаў. Маё ўяўленне дамалявала астатняе.

На два ці тры тыдні гэта бацькава думка заняла наш дом. Мы шмат не размаўлялі, але сумленна спрабавалі нацягнуць усмешкі замест сваёй былой панурасці. Маці ўсміхалася наведнікам, а я, таксама падхапіўшы заразу, усміхаўся кату. Ад палкага жадання падабацца бацьку пачала крыху біць ліхаманка. У бацьку без сумневу паміраў артыст. Але ён не расходаваў свой запал на чыгуначнікаў, што заходзілі ўначы, а, падавалася, толькі й чакаў бідўэлскага хлопца ці дзяўчыну, каб перад імі паказаць усё, на што ён быў здатны. На прылаўку заўжды стаяў плецены кошык з яйкамі. І, напэўна, калі гэтая бліскучая ідэя нараджалася ў бацькавай галаве, ён глядзеў менавіта на іх. Нешта першароднае было ў тым, як яйкі былі звязаныя з развіццём бацькавай задумы.

Менавіта яйка і загубіла яго новы стымул да жыцця. Аднойчы позна ноччу мяне пабудзіў гнеўны роў, што рваўся з бацькавай глоткі. Мы з маці абодва проста падскочылі ў ложку. Дрыжачымі рукамі яна запаліла лямпу на стале ля ложка. Унізе ўваходныя дзверы нашай карчмы з грукатам зачыніліся, і праз некалькі хвілін бацька датупаў па сходах наверх. У руцэ ён трымаў яйка, рука трэслася, быццам у ліхаманцы. А ў яго вачах блішчэлі агеньчыкі вар'яцтва. Калі ён гэтак стаяў, гледзячы на нас, я быў упэўнены, што ён збіраецца шпурнуць тое яйка ці ў маці, ці ў мяне. Пасля ён асцярожна паклаў яйка на стол каля лямпы і ўкленчыў перад маткіным ложкам. Бацька пачаў румзаць, як хлапчук, і я, прасякнуты яго болем, таксама заплакаў. Мы абодва напоўнілі маленькі пакойчык сваім працяжным плачам. Гэта абсурдна, але з той нашай сцэны я памятаю толькі, як маці ўсё пагладжвала лысы гасцінец на бацькавай галаве. Я забыўся, што яна сказала яму, як угаварыла расказаць пра тое, што здарылася там унізе. Яго тлумачэнні таксама вылецелі з галавы. Я толькі памятаю сваю горыч і страх, і бліскучую дарогу праз усю бацькаву галаву, што зіхацела ў святле лямпы, калі ён укленчыў перад ложкам.

Зараз пра тое, што здарылася ўнізе. Нейкім невытлумачальным чынам я ведаю гэту гісторыю так добра, нібыта сам быў сведкам бацькавага краху. Часам бывае даведваешся шмат невытлумачальнага. Таго вечару малады Джон Кейн, сын бідўэлскага гандляра, прыйшоў у Піквэл сустрэць свайго бацьку, што меўся прыехаць з поўдня цягніком а дзясятай вечара. Цягнік спазняўся на тры гадзіны, і Джо зайшоў у наш рэстаран, каб прабавіць час і пачакаць. Прыйшоў таварняк, і бацька накарміў чыгуначнікаў. Джон застаўся ў рэстаране адзін на адзін з бацькам.

Як толькі хлопец да нас прыйшоў, ён, мусіць, збянтэжыўся бацькавымі паводзінамі. Яму падавалася, што бацьку раздражняе яго прысутнасць. Хлопец заўважыў, што нечым непакоіць карчмара, і падумваў сыйсці. Але тут пачаўся дождж, а яму зусім не хацелася цягнуцца ў такое надвор'е ў горад, а потым назад. Ён купіў пяціцэнтавую сігару і замовіў кубак кавы. З кішэні ён дастаў газету і пачаў чытаць. «Я чакаю начны цягнік. Ён спазняецца», — выбачаючыся, патлумачыў ён.

Доўгі час бацька, якога Джон Кейн бачыў упершыню, моўчкі глядзеў на наведніка. Натуральна, яго ахапіў страх перад публікай. Як часта бывае ў жыцці, бацька так шмат і часта абдумваў гэтую сітуацыю, што цяпер, сутыкнуўшыся з ёй, пачаў моцна нервавацца.

Напачатку ён не ведаў, што рабіць з рукамі, таму працягнуў адну руку праз увесь прылавак і павітаўся з Джонам Кейнам. «Здрасьце», — сказаў ён. Джон Кейн адклаў сваю газету і пільна паглядзеў на бацьку. Той зыркнуў вачыма на кошык з яйкамі, што стаяў на прылаўку, і распачаў гутарку. «Гэта… — сказаў бацька вагаючыся, — ну, ты ж чуў пра Хрыстафора Калумба?» Ён падаваўся раззлаваным. «Гэты Хрыстафор Калумб быў хлусам, — заявіў бацька шматзначна. — Ён казаў, што паставіць яйка старчком. Ён так насамрэч казаў, а потым узяў і адбіў у яйка бок».

Наведніку падалося, што бацька быў не ў сабе ад хлуслівасці Хрыстафора Калумба. Ён бурчаў і лаяўся. Ён заяўляў, што нельга вучыць дзяцей, быццам Хрыстафор Калумб быў вялікім чалавекам, бо ў адказны момант ён усіх ашукаў: абвясціў, што паставіць яйка старчком, а яго ашуканства назвалі фокусам.

Усё яшчэ наракаючы на Калумба, бацька ўзяў яйка з кошыка на прылаўку і пачаў хадзіць тудысюды. Ён вярцеў яйка ў далонях. Ён прыязна ўсміхаўся. Ён пачаў мармытаць нешта пра эфект, які робіць электрычнасць чалавечага цела на яйка. Ён заявіў, што не разбіўшы скарлупіну, толькі сілаю рук і вярчэння ён паставіць яйка старчком. Бацька тлумачыў, што цяпло ў руках і мяккае пакотванне яйка ствараць новы цэнтар цяжару. Гэта крыху зацікавіла Джона Кейна. «Я трымаў тысячы яек, — сказаў бацька. — Ніхто не ведае больш пра яйкі, чым я».

Ён паставіў яйка на прылавак, а яно завалілася на бок. Ён паўтараў фокус зноў і зноў, увесь час верцячы яйка паміж далонямі і мармычучы пра цуды электрычнасці і законы гравітацыі. Праз паўгадзіны марных практыкаванняў бацьку ўдалося на імгненне паставіць яйка. Ён зірнуў на наведніка, але той ужо не глядзеў. Калі ж бацька прыцягнуў увагу да плёну сваіх намаганняў, яйка зноў пакацілася і легла на бок.

У артыстычным запале і ў той жа час моцна засмучаны першымі няўдалымі спробамі, бацька дастаў з паліцы бутэлькі з курынымі пачварамі і пачаў паказваць іх наведніку. «А табе хацелася б мець сем ног і дзве галавы, як у гэтай небаракі?», — запытаўся ён, дэманструючы свой самы незвычайны скарб. Добрая ўсмешка асвяціла яго твар. Бацька перагнуўся праз прылавак і памкнуўся ляпнуць Джо Кейна па плячы, як ён памятаў, рабілі мужыкі ў салуне Бэн Хэда, калі ён быў маладым парубкам і наведваўся ў горад суботнімі вечарамі. Ад выгляду жахліва дэфармаванага цела заспіртаванай у бутэльцы птушкі яго наведніку зрабілася блага, і ён падняўся, каб сыйсці. Бацька выйшаў з-за прылаўка, схапіў хлопца за руку і зноў пасадзіў за стол. Ён крыху раззлаваўся і таму на момант адвярнуўся і выціснуў з сябе ўсмешку. Пасля вярнуў бутэлькі на паліцу. У парыве шчодрасці ён сілком пачаставаў Джо Кейна яшчэ адным кубкам кавы і сігарай за кошт установы. Потым дастаў патэльню і, наліўшы ў яе воцат са збанка пад прылаўкам, абвясціў, што зробіць яшчэ адзін фокус. «Я разагрэю гэта яйка на патэльні з воцатам, а потым праціснулю яго праз гарлавіну бутэлькі, не разбіўшы скарлупіну. Калі яйка апынецца ўнутры бутэлькі, яно прыме сваю звычайную форму, і шкарлупіна зноў зробіцца цьвёрдай. А затым я падару бутэльку з яйкам табе. Ты зможаш насіць яе паўсюды. Людзі будуць пытацца, як ты засунуў яйка ў бутэльку. А ты не кажы. Няхай здагадаюцца. Вось такі смешны фокус».

Бацька шчэрыўся і падміргваў свайму наведніку. Джон Кейн вырашыў, што чалавек насупраць крыху вар'ят, але цалкам бяспечны. Ён дапіў дармовую каву і занурыўся ў газету. Калі яйка ў воцаце нагрэлася, бацька паднёс яго ў лыжцы да прылаўка, а з кладоўкі дастаў пустую бутэльку. Ён быў злы, бо наведнік не глядзеў, як робіцца фокус, але тым не менш, бацька з радасцю ўзяўся за справу. Доўгі час ён намагаўся праціснуць яйка праз гарлавіну бутэлькі. Ён зноў паставіў патэльню на пліту, спрабуючы нагрэць яйка другі раз, пасля ўхапіў яго, абпаліўшы пальцы. Гарачы воцат крыху размякчыў шкарлупіне, але недастаткова. Ён усё спрабаваў і спрабаваў, але адчуванне прадвызначанасці паступова авалодала ім. А калі бацьку падалося, што фокус вось-вось атрымаецца, цягнік, які спазняўся, прыйшоў на станцыю, і Джон Кейн зусім няветліва накіраваўся да выхаду. У роспачы бацька рабіў апошнія спробы перамагчы яйка, якое мусіла надаць яму рэпутацыю чалавека, які ўмее забаўляць сваіх наведнікаў. Ён сціскаў яйка. Ён спрабаваў быць з ім суровым. Ён лаяўся, пот выступаў на лбе. І яйка разбілася ў яго руках. Калі вадкасць расплёскалася па бацькавай кашулі, Джон Кейн, што які ўжо каля дзвярэй, павярнуўся і засмяяўся.

Гнеўны роў вырваўся з бацькавай глоткі. Ён раптам заскакаў, выкрыкваючы нейкія незразумелыя словы. Схапіўшы другое яйка з кошыка на прылаўку, ён шпурнуў яго, ледзь не трапіўшы хлопцу па галаве, але той ухіліўся і выскачыў за дзверы.

Бацька падняўся з яйкам у руках да нас з маці. Не ведаю, што ён збіраўся зрабіць. Мабыць, ён задумаў знішчыць тое яйка, усе яйкі, і нам ён хацеў прадэманстраваць самы пачатак гэтага дзейства. Але, мабыць, калі ён пабачыў маці, нешта здарылася. Ён асцярожна паклаў яйка на стол і, як я ўжо сказаў, укленчыў ля ложка. Крыху пазней ён вырашыў зачыніць рэстарацыю на ноч, падняўся да нас і лёг спаць, патушыўшы святло, і пасля шаптання з маці яны заснулі. Думаю, я таксама заснуў, але сон мой быў неспакойны. Я прачнуўся на світанні і доўгі час глядзеў на яйка, што ляжала на стале. Я пытаўся ў сябе, чаму павінны існаваць яйкі і чаму з іх вылупліваюцца куры, якія потым зноў адкладваюць яйкі. Гэта пытанне засела ў маёй галаве.

Мяркую, усё таму, што я сын свайго бацькі. Тым не менш, я дагэтуль не магу на яго адказаць. І таму я раблю выснову: гэта яшчэ адзін доказ поўнай і бясспрэчнай перамогі яйка — прынамсі, у маёй сям'і.

**Пераклад з ангельскай**
**Юлі ЦІМАФЕЕВАЙ**



► АПОВЕД

# БАЦЬКА

**Уладзімір МІХНО**



Пазваніў мой лепшы сябар Валера:

— Слухай, твой бацька «ўсплыў» нарэшце ў інтэрнэце.

У галаве неяк адразу закружыла, прымружыла белай халоднай завеяй. Халадок папоўз і па спіне. А затым наадварот — як варам акацiла церпкая гарачыня. Так гарэзнічае мой ціск.

Ведаў, Валера даўно «палюе» на майго бацьку ў інтэрнэце. Неяк паказаў яму старую фотку з альбома. Там мой родны Фёдар Цімафеевіч зусім яшчэ не Цімафеевіч, проста Фёдар — прыгожы, чарнявы, амаль юны — у чорным фрэнчы і з медалямі. Гэта напэўна першае пасляваеннае фота бацькі. Помню, ён расказваў, што былі два медалі — не юбілейныя, якіх у кожнага ветэрана поўна, аж мундзіры адвісаюць, а баявыя…

Мы, дзеці, любілі пачапляць бацькавы ўзнагароды і пакрасавацца. Ну, акурат генералы, хадзілі! Новенькія, бліскучыя, ззяюць. Праўда, сярод гэтага бліскучага багацця былі два іншага роду медалі: «За абарону Масквы» і «За перамогу над Германіяй». З часам яны пажоўклі, пабляклі, сукно на планачках знасілася, а пасля і зусім парвалася. Добра, Валера неўзабаве ўзяўся-такі за тыя «непрыгожыя» медалі. Дзесьці знайшоў новыя планкі з георгіеўскай стужкаю. І вось табе — другое жыццё. А што пабляклі — не бяда. Я, малы, браў пасту Гоя — такі зялёненькі камочак, падобны да пластылінавага, толькі нашмат цвярдзейшы, адшароўваў медалі да першароднага бляску. Праўда, праз дзень-два яны ўсё роўна крыху пацямнеюць, але ўжо не так…

Я шмат чаго бацькавага не захаваў… Хіба што медалі яго дагэтуль ляжаць у запаведнай шкатулачцы. І — даведка, арыгінальная.

«Справка о ранении.

В боях за Советскую Родину кр-ц 7 отд. св. бат. связи тов. Михно Фёдор Тимофеевич был тяжело ранен 19/IV-42г.

DS: Дефектность и отёк правой стопы после сквозного пулевого ранения с дефектами II-III-IV-V плюсневых костей.

Начальник части 708. Подпись.»

Подпіс, вядома ж, неразборлівы. І круглая пячатка ледзьве-ледзьве праглядвае. У тым, зрэшты, і я сам вінаваты. Склаў паперку ў чатыры разы ды затусаваў у шкатульку пад медалі. Добра, што хоць здагадаўся падклеіць на новы свежы лісточак.

Валера, калі ўбачыў. Ледзьве не ўеў мяне:

— Як ты захоўваеш бацькавы ваенныя рэліквіі!

Ну, а як іх захоўваць, у музей хіба аддаць, пад шкло? Дык туды кожнага разу не дабяжыш. А тут захацеў — дастаў тую шкатулачку і паглядзеў. Сябар даўно з рукамі адарваў бы і гэту даведку, і той фотаздымак маладога бацькі з медалямі, з якога ён ужо зрабіў для свайго архіву фотакопію. Але ж ад арыгінала, вядома, не адмовіўся б. Ды я не аддаю, шкадую. Валера малайчына. Ён настаўнік, гісторык, краязнаўца. Ён — апантаны. У раёне другога такога я не ведаю. Поўзае з дзецьмі па вёсках, распытвае людзей, збірае арыгінальныя матэрыялы, даведкі ваеннага часу. Людзі паўмiралі — засталіся дакументы на ўзнагароды. Хто яшчэ жывы — найкаштоўныя сведкі, «апошнія з Магікан» той вайны. Сябар кажа: потым хопімся, а — позна, сыдуць у магілу і сведкі, і звесткі, і дакументы — згніюць, зваляюцца. І то праўда — стануць бязмоўнымі, як вунь шмат якія фоткі ў маім альбоме. Цікавыя, арыгінальныя, праява сваёй эпохі — а толку, калі для мяне яны ўжо назаўсёды замоўклыя людзі. Маглі б загаварыць вуснамі мамы, бацькі, маглі багата чаго распавесці, але ж бацькоў даўно няма ўжо…

Вось і поўзае мой апантаны сябар, збіраючы па каліву парэшткі… Далібог, яму трэба было нарадзіцца ў тую эпоху. Увесь — у партызаншчыне, у архівах, у ліставаннях, у інтэрнэце. Ён нават з таго свету, бывае, дастае і вяртае небаракаў, якіх дзе толькі не пахавала, не раскідвала вайна. Інфіцыраваў той пошукавай бацылай усю сям'ю. Сына Ярыка па вандроўках цягаць пачаў. Малому гадоў восем, а ён туды ж — прыглядваецца, дзе які курганок у лесе — раптам забытая магілка, дзе якая яміна і правал — раптам былі зямлянкі. Жонка Таццяна доўга не здавалася. Яна чалавек прагматычны, гаспадарлівы, прыземлены, да спірытызму не схільная. На мужа-валацугу часта бурчэла нездаволена. А то раптам сніцца Таццяне сон, што пятнаццаць чалавек ляжыць у чыстым полі, а душы іх пакутуюць. Прысніліся яны Таццяне — прыйшлі дый просяць: нам тут няздомна, мы хочам быць пахаванымі. Скажы свайму мужу, каб ён нас знайшоў. Назвалі і месца, дзе ляжаць.

Далібог, калі б сам не чуў, нізашто не паверыў бы, я таксама не аматар містыкі. Прыехалі да мяне сябар з жонкаю на дзяды. Падзедавалі мы, сядзім, свечка на стале дагарае. Вось-вось агеньчык у шклянку запаўзе і ў ячмені, які свечку трымае, схаваецца, патухне. Таццяна давай расказваць той сон. Распавяла і кажа: «Ці ўжо ў мяне дах паехаў, ці што якое, цьфу-цьфу, здарыцца, калі з нябожчыкамі размаўляю».

Здарылася — месяцы праз два, як мы ўжо забыліся пра той сон. Валера разнюхаў па бабульках пра партызанскае пахаванне акурат у тых мясцінах. Падняў на ногі ўлады — ён іх спакойна спаць не дае. Прыехаў пошукавы батальён. Капалі. Знайшлі пятнаццаць чарапоў. Урачыста перазахавалі. Я, праўда, думаю, а ці варта было кранаць? Хай бы ляжалі, дзе ляжалі. Паставіць у чыстым полі крыж вялікі — зрабіць усё па-хрысціянску…

Вось і не вер пасля містыцы…

— Адкрывай, — дыхае Валера ў трубку, — «Подзвиг народа». Гэта сайт расійскага міністэрства абароны. Там будзе «пошук па прозвішчы». Уводзь прозвішча бацькі і год нараджэння. Выскачуць дадзеныя, агульныя, націснеш на зорачку — паявіцца даведка: апісанне подзвігу. Прыблізіш яе. А потым пашчоўкай яшчэ па архіве. Сам ведаеш, не мне цябе вучыць…

Валера даведаўся пра расійскі сайт на канферэнцыі па краязнаўству. Адразу ж запоўз і знайшоў свайго дзеда, які быў узнагароджаны ў вайну. Знайшоў яшчэ аднаго сваяка. А бацьку майго «пасвіў» доўга. Той сайт толькі нядаўна зрабілі, адкрываюць архіў ваенны і спаквала вывешваюць звесткі пра ўзнагароджаных. Што ў бацькі майго медаль «За баявыя заслугі», сябар выгледзеў на тым пасляваенным здымку. Я б нізашто не здагадаўся, там і сам здымачак невялікі, не кажучы пра медалі, якія ледзьве блішчаць, а ён спец — сабаку на гэтым з'еў.

Колькі разоў бываў Валера на сайце — і ўсё безвынікова. І вось яна — удача! Плыве ў вачах, ці то ад хвалявання, ці ад радасці, разгуляўся мой ціск. А што — у горы людзі выжываюць, а ад радасці, бывае, паміраюць. Але як тут не радавацца! Не ў кожнага бацька пад Масквой ваяваў і — выжыў! Некаторыя ў паліцыі жыццё ратавалі, іншыя вунь зараз сіротамі пры жывых бацьках туляюцца. А ў мяне быў Бацька, за якога мне не сорамна…

* * *

Ён выжыў у сорак першым пад Масквой, каб роўна праз сорак гадоў так недарэчна памерці дома.

Пад Каляды чакаем бацьку дадому з сельсавета. Ён сакратаром працаваў, а тут акурат перапіс быў. Бацька ездзіў па вёсках, па хатах хадзіў з гаспадарчаю кнігаю. Усё падлічвалі — кожную курачку, кароўку. І людзей таксама. Кожнага трэба па дзесяці раздзелах расфасаваць-разнесці — калі нарадзіўся, кім і дзе працуе, калі жаніўся-хрысціўся. Пра хрышчэнне, вядома, жартую. Паспрабаваў бы ў той час хто прызнацца, што дзяцей хрысціў — так бы пераксцілі! А вось Каляды ўсё роўна святкавалі не надта хаваючыся, гэтага з народа вытруціць камуністы не здолелі. Вечарам прывязе бацька гаспадарчыя кнігі і перапісныя лісты, і я сяду за працу. Я дапамагаў бацьку, а ён мне даваў. Чаму б і не — мне ўжо было амаль шаснаццаць гадоў. Падабалася тая цікавая бухгалтэрыя, гартаў гаспадарчыя кнігі, лічыў народ. Як чалавек — то палачка ў патрэбную графу. Потым разносіў па розных раздзелах, зноў падлічваў, параўноўваў, колькі летась было ў вёсках людзей, колькі нарадзілася, памерла. Цікава! Бацька не спраўляўся з усёй работай сакратара перарабіць на працы. Падоўгу вечарамі заседжваўся то ў сельсавеце, а то і дома. Было, што і чарку браў апошнім часам. Прывучылі. Ідуць дзіця запісваць — замочку нясуць. Шлюб рэгістрыруеш — як па такой нагодзе не праставіцца?! Выпіваў бацька, але п'янтосам не быў ніколі. Ён бы і сёння жыў напэўна, каб не адзін выпадак…

Чакаем бацьку. Мама ў печы горача напаліла. Я сяджу ля тэлевізара. І спакойна мне, і не трывожна зусім. Яшчэ не ведаў у той час, што такое трывожыцца. Аб усім гатовым жыў. Адзін ужо дома застаўся, сёстры — Вера з Ларысай — у Мінску вучыліся, я ездзіў у дзясяты ў Лепель. Прыеду з цёмным — мама ўжо чакае. На стале ўсё цёпленькае. Эх! Успамінаць тыя часіны і плакаць, ды слёзы мае ўжо даўно высахлі. Прайшло больш як трыццаць гадоў…

…Чакаем. Няма бацькі позна. Нешта ж сёння занадта позна. І раптам — грукаюць у дзверы. Ну, нарэшце! Толькі ж — чаму грукаюць? Бацька ніколі не грукнуў нават кулаком аб стол. Ціхенька зойдзе і дзверы за сабою па-гаспадарску прычыніць. На маму ніводнага разу рукі не падняў, хаця сабе і выпіўшы. Хіба што языком крыху пачэша.

…Расчыніліся дзверы шырока. І двое незнаёмых мужыкоў тату майго ў хату як не волакам зацягнулі, на куханьцы пакінулі і, пакуль мы з мамай, страшэнна напалоханыя, кідаліся над бацькам, які бездапаможна ляжаў, закінуўшы галаву, і хрыпеў, незнаёмцы паціху зніклі пад шумок. Толькі след ад саней застаўся на снезе ля хаты. І мы з мамай удвух каля паміраючага бацькі — бадай, такія ж бездапаможныя, як і ён — у роспачы, у няведанні, паралізаваныя нечаканасцю і вусцішным страхам, які знячэўку абрынуўся на нас. Мы не ведаем, што робім, выклікаем хуткую, кідаемся па суседзях, а бацька памірае.

Праз колькі хвілін яго не стала. Хуткая спазнілася, мо праз гадзіну ці болей прыехала. Фельчарка падышла да бацькі, памацала пульс, паглядзела на зрэнкі, асуджана прамовіла: «Труп».

Што мы з мамай перажылі за тыя кароткія хвіліны! Што мы з сёстрамі перажылі потым на пахаванні бацькі, калі нават паплакаць ля яго труны не маглі — трэба было ўвесь час трымацца маці і ратаваць яе! Мама абмірала над нябожчыкам. Мама ў тыя страшныя чорныя дні ледзьве не памерла. Мы маглі б застацца сіротамі ў адначассі. Бог злітаваўся тады над намі — мама засталася жыць і пражыла яшчэ роўна адзінаццаць гадоў. А не стала яе… у дзень бацькавай смерці, перад Калядамі. Містыка!

На Каляды я пахаваў бацькоў і неаднойчы пасля дакараў Бога за тое, што ён забраў іх абодвух на свой дзень нараджэння. З таго часу, калі людзі вітаюць светлае Хрыстова нараджэнне, я памінаю бацькоў. Хіба я вінаваты, што Бог забраў у мяне Каляды?..

Пасля бацькавай трагічнай смерці я доўга хварэў, мяне лячылі ад пуду, пырскалі нейкай вадзіцай, запэўнівалі, што яна святая. А я ўсё марнеў і чарнеў, знясілены, схуднелы. У чароўную сілу той вады я не верыў, бацькава смерць адабрала ў мяне веру ў казку і ў чары. Дзяцінства ў адначассі скончылася. Па знахарках мяне не вазілі, — не было каму. Мама таксама не верыла гэтаму. Дый сама яна, зрэшты, ледзьве валачыла ногі. Раптам ссівела, счарнела, разам ператварылася ў сямідзесяцігадовую лядачую бабулю, а ёй жа ў той час не было і шасцідзесяці…

…Хадзіў Фёдар ў той ракавы дзень па суседняй вёсцы па перапісу. Лічы, ва ўсіх хатах пабываў. Калі пачало ўжо змяркацца, падышоў да хаты знаёмага настаўніка — на ўскрайку вёскі. Вось, мабыць, і ўсё, тут перапіша — можна і дадому вяртацца. Але на чым? Кепская доля ў сельсавецкага сакратара — ні машыны ў цябе, ні каня. Цягайся пешшу, як дурань. Сюды ўдалося пад'ехаць са знаёмымі. А назад хоць ты на дыване-самалёце! Дарога недалёкая — кіламетраў пяць, калі напрасткі, будзе, але ж праз лес. Снегу небагата, ды ў лесе яго заўсёды болей. Віхуры надоечы. Можа, і дарогу дзе перамяло, і ваўка сустрэць нядоўга. На дварэ ў настаўніка ўбачыў запрэжанага ў сані каня. Узрадаваўся. Папросіць гаспадара, мо падкіне. Не чужыя ж людзі, знаёмыя. І неаднойчы яшчэ ў сельсавеце пакажуцца.

За сталом сядзелі госці. Стаяла амаль пустая бутэлька «Экстры», змесціва якой ужо было разлітае па чарках, яечня са шкваркамі, салёненькія грыбочкі і гурочкі, нават мёд (гаспадар займаўся бортніцтвам).

— О, Цімафеевіч, — лісліва забегалі вочы ў гаспадара, — якім ветрам занесла?

— Ды падарожным. Па перапісу. Я, гляджу, не ў час, госці ў вас.

— Якое там не ў час. Ты для мяне заўсёды першы госць у хаце. Сядай во пакуль, чарку возьмеш, сагрэешся.

— Позна ўжо, дадому трэба, мо на кані, хлопцы, падкінеце?

— Падкінем-падкінем, Цімафеевіч, не хвалюйся.

Гаспадар выслізнуў у бакоўчку, дзе была схаваная ў яго самагонка. Гнаў ён для розных патрэбаў, ці мала хто ў хату прыпрэцца. На кожнага маскоўскай не назапасішся, а каб крапчэй брала, дабаўляў дынатурату. Нічога — глоткі луджаныя, страўнікі праспіртаваныя, вытрымаюць, а не хочуць, хай не п'юць. Нікому сілком у горла ён не налівае.

— Вось, халодненькая, свежанькая, медавуха. Ты пакаштуй, Цімафеевіч, не пашкадуеш, — напоўніў настаўнік прынесеную пустую чарку, у астатніх жа чарках яшчэ заставалася «Экстры».

— Ну, хіба па сто грамаў, як на фронце перад боем. Будзьма, мальцы! За паслязаўтрашнія Каляды. За Новы 1981 год.

Выпілі.

— Ну і пякучая яна ў цябе! Горла як агнём апаліла, — Фёдар зморшчыўся, пацягнуўся да агурка.

— Затое моцная. Хіба на фронце была слабейшая? — усміхнуўся гаспадар.

— Ат! Што ты пра фронт ведаеш! Ты ж тады яшчэ пад стол пешшу бегаў… Грашым, мальцы, хто ж гэта перад Калядамі гарэлкай пост адбывае?

— Авоечкі, Цімафеевіч, якім ты набожным зрабіўся. Ці ж мы не камуністы з табою?

**Працяг на стар. 22 (14)** ►

АПОВЕД

# БАЦЬКА

◂ Працяг.
Пачатак на стар. 21 (13).

— Сапраўдных камуністаў няма ўжо. Тыя на вайне галовы склалі, іншыя ад ран паўміралі. Думаеце, лёгка там было? І зараз во баліць нага параненая, добра што хоць не аднялі, зусім калекам быў бы. А Бог — ніхто яго не бачыў, і касманаўты лётаюць — не бачылі. Але нешта ўсё роўна ёсць, сіла нейкая, што адна намі кіруе. І не трэба Бога гнявіць.

— Ты, Цімафеевіч, не аратарствуй, не на мітынгу. Возьмем лепей яшчэ па адной.

Гаспадар разліў самагонку гасцям, а сябе непрыкметна «пакрыўдзіў».

Фёдар выпіў першы, астатнія на хвіліну зацягнулі прыемнае задавальненне, як раптам убачылі, што госцю зрабілася блага — ён адкінуўся на стул, пачаў хрыпець і спаўзаць долу.

— Ты што яму наліў, кум? — спалохана адставілі мужчыны свае чаркі ўбок. — Чым ты нас паіць сабраўся? Зноў нешта хімічыш-дамешваеш. Праўду пра цябе кажуць… Людзей жа труціць — навошта…

— Што… я — нічога, — спалатнеў гаспадар. — Слабак, вось бачыце. Разнесла адразу ж.

А ў самога думка, як бліскавіца, мільганула: чорт! Няўжо перабаршчыў!

— Хуткую трэба. Каб не памёр чалавек.

— Вы што, мальцы. Не, не трэба мне, хуткай тут не хапала. Ведаеце, вязіце вы яго дадому лепей, сам прасіў. Праспіцца…

І павезлі…

…Я — у інтэрнэце. Правільна прыдумалі. А то пішы, шукай па архівах. Шчоўкнуў мышкай, і — ты на вайне… Вялікая перамога цывілізацыі — сусветнае сеціва…

Мама ледзьве прычакала каляровага тэлевізара. У дзевяностыя мы тыя рублі на тэлевізар збіралі ўдвух. Я ўжо працаваў у Мінску, і мама са сваёй невялікай пенсіі адкладвала капейкі. У нас доўга быў старэнькі «Рэкордзік», ён верою-праўдаю служыў нам шаснаццаць гадоў. Помню, як шчаслівы бацька цягнуў гэты цуд з горада, як мы яго распакоўвалі, як прыладжвалі на гарышчы несамавітую самаробную антэнку. Сняжыла, але ішло. Як глядзелі, помню, усёй сям'ёй першы па тэлевізары фільм «Свінарка і пастух». Гэта было сапраўднае свята! Мо і сёння служыў бы той «Рэкордзік», каб не здалі яго, купіўшы ўзамен вялікі чорна-белы «Гарызонт». Гэта была ўжо другая прыступка на лесвіцы да цывілізацыі. Але ж дабрабыту ніколі не бывае занадта. Хацелася каляровага тэлевізара. Выстаялі ў чарзе. Эпоха суцэльных дэфіцытаў. Дачакаліся, пакуль у вясковую краму прывязуць наш каляровы «Віцязь». Сам я, тэхнік-недавярак, успацеўшы, яго настройваў. І ніколі не забуду маміных здзіўленых вачэй, калі ўпершыню ўбачыла яна на экране каларытную каляровую выяву. Уздыхнула: «Бацька не дачакаўся».

Бацька не прычакаў шмат чаго — унукаў, перабудовы, знікнення партыі, у якой быў ён шараговым, але сапраўдным камуністам, якіх нямнога. Не прычакаў ён скону краіны, пра якую ніхто не падумаў бы, што сканае. Не дачакаўся бацька і нашай незалежнай Беларусі.

Сядзіць мама і фантазіруе: «Каб падняліся мае дзяды, не ведалі б, чаму дзівіцца. Керанкі зноў вярнуліся. (Гэта яна калі грошы пачалі лічыць мільёнамі). У царкву пабеглі. Хіба мо гэдак награшылі, што цясцерп стала — а ўжо ж і награшылі, няма куды далей. Цьфу на цябе, лярва, куды ж ты на сцэну голая дзярэшся. Каб ты на корч дралася! (Зазірнула б мама ў сённяшні інтэрнэт.) Каб дзяды пабачылі гэту скрынку (тэлевізар), уцякалі б куды вочы глядзяць ды ксціліся — нячыстая сілачка! І як яны ў тую скрыню забіраюцца? — гэта яна спрабуе ўявіць, як бы дзяды сказалі. Сама ж мама была дастаткова сучасная, каб не палохацца розных балбатлівых скрыняў. Глядзела «Рабыню Ізаўру», пасля — «Багатыя таксама плачуць» і плакала разам з Марыянай. Так і памерла, не прычакаўшы фіналу.

А бацьку каля тэлевізара адразу ж на сон цягнула — калі захрапе! Мы з мамай тыкаем на яго пальцам, смяемся і злуем жартаўліва — за бацькавым храпам тэлевізара не пачуеш. Дахрапеўся аднаго разу, што я, малы, выстрыг яму чуб нажніцамі. Незласліва, незнарок. Проста гуляў у цырульніка, хацеў зрабіць бацьку прычоску. А кудзеркі сівымі зрабіліся пад старасць — пасерабрыла бацьку жыццё.

А быў жа малады, прыгожы, чарнявы, да працы спрытны, на пад'ём лёгкі. І ўсё ўмеў — касіў, не пакідаючы бровак між пракосамі. Каваць жалеза ўмеў. Ён жа пасля таго, як паранілі, як стаў інвалідам і ўступіўся на мыліцы, жыў дзесьці на поўдні. Не ведаю, мусіць, у Казахстане. І кім толькі ні працаваў. Кавалём таксама. Рубіў бацька спрытна. І мяне вучыў. Як правільна шнур напяць, калі бервяно чэшаш, як драку выбраць, як вугал зарэзаць. Мы з ім і істопку зрубілі, і лазеньку. «Мы» — толькі тое слова. Бацька зрубіў адзін. Які я яшчэ быў тады — падшыванец. Але ж за бервяно ўдвух браліся, падняць, пасунуць — я ўжо мог быць памочнікам.

Лазеньку вельмі бацька сваю хацеў. Мыліся па суседзях. Зімою лютаю завяжа мне бацька шалік цёплы, каб адно вочы тырчэлі, пасадзіць на санкі, і паехалі мы да суседкі ў лазеньку. Зоркі халодныя і бліскучыя бурштынавымі пацеркамі на небе рассыпаліся, цемра — хоць вока выкалі, і сцяжынка ўся белымі снежнымі дзюнамі перамецена, але я не адзін у гэтым Сусвеце, не збочу са сцежкі, не згублюся, бо са мною мой бацька.

Лазні хацеў, а памыцца паспеў у ёй мо раз ці два, трэці раз — ужо мылі іншыя…



Фота У.Клімовіча

…Свядомасць то пакідала Фёдара, то зноў вярталася. Шпарка бег конь. Мерна калываўся вазок. Грудзі то сціскала, накаціўшыся, церпкая пякучая хваля, як нажом рэзала жывот, брала за сэрца, душыла за горла, то адпускала, даўшы часовую палёгку. І тады станавілася лягчэй дыхаць, прыемная цеплыня агортвала цела, спакайней станавілася на душы. У тыя хвіліны Фёдар адганяў самыя змрочныя думкі, цешыў сябе, што хутка будзе дома, у цёплым ложку, у клопаце родных — і ўсё міне, забудзецца, як сон кашмарны. І навошта ён паддаўся на ўгаворы тога гнюснага ліслівага чалавека, які, зрэшты, ніколі яму не падабаўся — надта ж коўзкі, агідны, двурушны. З такімі надта не насябруеш — падставяць, прададуць. Такія трапляліся і на фронце… Навошта паддаўся імгненнай спакусе, за якую так пакутліва цяпер расплачваецца?

У хвіліны прасвятлення Фёдар адчайна дакараў сябе, што гэтак неабачліва даў сябе завабіць у спакуслівую пастку здрады. Хацелася крычаць пра гэта ўголас, але вусны сцяліся, як склеіліся, і ён толькі слаба, невыразна мычэў. А пасля ізноўку, як у яму, правальваўся ў забыццё…

Цок-цок-цок-цок — танцуе конь капытамі па абледзянелай дарозе. Шурх-шурх-шурх-шурх — свішчуць па снезе палазы саней… Шурх-шурх… ды не, гэта шуршыць плашч-палатка, каўзаючы па пашэрхлай леташняй траве. І нерухомае цела ляжыць пластом на палатцы. Федзя нават галавы падняць не можа, каб хоць на імгненне зірнуць, што там у яго з нагою, ці, можа, не дай Бог, яе ўвогуле… Фу-у! Яго хтосьці цягне. Значыць, яго ўсё ж адшукалі ў полі, сярод красавіцкае слоты, сярод перамешанага з крывёю пасля артылерыйскай атакі глыжэўя яшчэ мёрзлай, бруднай зямлі. Хто?

Снег толькі сышоў. Брудная вада агідна чвякае пад ботамі. Вымакла, хоць ты выкручвай, гімнасцёрка. Але ж — паўзі. Паспрабуй хаця б галаву прыпадняць. Адразу ж — ціў-ў. Куля толькі і пільнуе разяваку. Снайперамі прастрэльваецца ўся тэрыторыя, дзе праходзіць лінія сувязі са штабам, дзесьці гахнула, парвала кабель. Дзе? Яго, Фёдара, паслалі высветліць. Паўзці нязручна — замінае катушка. Метр за метрам пераадольвае ён узгоркі і лагчыны — толькі б хутчэй знайсці…

Ёсць! Ого! Ды тут варонка якая! Дзіва што развярнула. Ліквідаваць разрыў не так складана — тры месяцы менавіта гэтаму вучылі ў Горкім. Хутка і спрытна надточвае-замяняе Федзя ўшчэнт разнесены ладны кавалак тэлефоннага кабеля. На месцы правярае сувязь. Ёсць!

Куды складаней дапаўзці, вярнуцца назад. Чорт! Наперадзе — лысы ўзгорак, ні кусціка — захінуцца, ні хоць бы травінкі — адна шэрая брудная слота. І — трэба паўзці. Чаму быць, таго не мінуць. І вось ён ужо амаль перапоўз гэтую злашчасную лобную мясцінку. Яшчэ пару метраў і — скоціцца ўніз.

Ціў-ў! Ён і не пачуў, калі апякло ступню. Зразумеў, што паранены, толькі калі правая нага раптам цяжкая і чужая зрабілася. Паўзці стала нясцерпна-пакутліва, але Федзя ўсё роўна поўз. Халодным потам пакрывалася спіна, сілы пакідалі. Адчуўшы, што можа страціць прытомнасць, вырашыў крыху адпачыць. Злёгку прыпадняўшы галаву, убачыў белую дымкавую хмарку сярод красавіцкага блакіту, тая не хаваючыся, спакойна, быццам бы і не было вайны на свеце, плыла сабе бязбоязна ўдалеч, стала раптам ціха-ціха, так што нават чуваць было, як зазвінела высока ў небе ранняя птушачка-жаўручок. І — зямля раптам кульнулася, стала сплываць з-пад яго неслухмянага цела… Зямля правальвалася ў забыццё…

…Шурх-шурх-шурх-шурх — вось і знайшлі яго! І, значыць, жыць яму яшчэ ды жыць…

…Дзякуй, дружа! Парадаваў! Ну, ты сапраўдны сябар, Валерка! Калоціцца рука, уцякае, не слухаецца «мышка». Як быццам я заходжу не ў інтэрнэт, а ў нейкую іншую часавую прастору і ў іншае вымярэнне, як быццам зараз убачу там бацьку — жывога, нават не сённяшняга, якому, божа мой, споўнілася б дзевяноста! А тога, даваеннага, дзевятнаццацігадовага, з кім не аднойчы сустракаліся ў нашым старым сінім плюшавым альбоме.

Набіраю ў пошукавіку словы «Подзвіг народа». Праз хвіліну паўстае манументальны, як гара, каменны салдат-абаронца, нібы сышоў з мемарыяла «Брэсцкая крэпасць» — на ўвесь экран манітора. Так, пошук па прозвішчы. Уводжу звыклыя ініцыялы. Выплывае: «Красноармеец в РККА с 20.12.1941г. Место призыва — Лепельский РВК Белорусская ССР. Витебская обл., Лепельский р-н. Номер записи в базе данных 46722881. Шчоўкаю па зорачцы, дзе «Описание подвига», нецярпліва чакаю, пакуль загрузіцца.

Высвечваецца пажоўклы кавалачак паперы, зусім як той, што ляжыць у маёй шкатулцы, толькі тэкст іншы: «Тов. Михно Фёдор Тимофеевич, участник Великой Отечественной войны на Центральном фронте в составе 7-го отдельного гвардейского батальона связи 5-ой гвардейской стрелковой дивизии в должности радиста с 20.12.41 г. по 19.4.42 года. Выполняя боевую задачу командования во время исправления порыва линии связи в районе гор. Юхнов был тяжело ранен осколком мины в правую ногу стопы 19.4.42 года».

Такая вось рамантычная віртуальная наша сустрэча з бацькам. Чаканне бывае нашмат рамантычней самой рэчаіснасці. Сціслы тэкст у сусветнай павуціне — усё, што засталося ад самага дарагога мне чалавека. Нястройная граматыка тэкста, загадкавыя недакладнасці, над якімі буду доўга раздумваць. Напрыклад, як можна было прызваць бацьку з Лепельскага РВК у снежні сорак першага года? Альбо чаму ў даведцы напісана «сквозное пулевое ранение», пра якое, зрэшты, неаднойчы прыгадваў і сам бацька, а ў прадстаўленні да ўзнагароды раптам выплыў «осколок мины»? Да гэтых пытанняў дабавяцца іншыя: чаму на вайне бацьку ўратавалі, а ў мірны час забілі, чаму героі паміраюць, а баязліўцы застаюцца жыць. Я часта думаю пра таго настаўніка, які, можа, і не наўмысна, але забіў майго бацьку. Забіў сваім шкурніцтвам — чэрствасцю, карыслівасцю, палахлівасцю. Пра якія ідэалы ён пасля распавядаў у школе дзецям? Цікава, а што ён скажа пры сустрэчы Богу?

Аняго, знішчаюць людзей не толькі снарады і кулі, але і здрада і подласць. Але немагчыма забіць маю памяць…

У мяне ёсць Бацька. Быў… Ёсць… Будзе…

ПАЛІЦА

# НАСТАЛЬГІЯ

Уладзімір МАРОЗ

**Бачыў у сецціве вестку аб новым рамане Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». А тут і апошні ў старым годзе «Дзеяслоў» прыплыў з гэтым творам. Да назвы падзагаловак: «Менскі раман».**

Чытаю, натуральна, ужо ў новым годзе, балазе на машыне не езджу ў звязку з парою года, а ў метро заўсёды нешта чытаю. Задавальненне вялікае. І не толькі таму, што сам настальгічна люблю Менск свайго студэнцкага юнацтва і маладосці, калі мы былі бестурботнымі і ведалі, акром старых, кожную новую прыцягальную кропку (рэстарацыю, кавярню ці піўніцу) значна меншага тады горада. А яшчэ і таму, што шмат якія персанажы рамана знаёмыя і мне.

Віктар Ледзенеў (па-беларуску хочацца Ледзянёў), журналіст, аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Калі я прыйшоў на кінастудыю, заходзіў колькі разоў і ён, сядзеў у нашым пакоі, аб нечым размаўлялі… Але з пачатку 90-х супрацоўніцтва ўжо не было, іншыя патрэбны былі на той час сцэнарыі, беларускія, а нацыянальна арыентаваным чалавекам Віктара назваць было складана. Дарэчы, знешні выгляд яго ў мяне заўсёды блытаўся з фатографам Сашам Дзмітрыевым — абодва барадатыя, валасы з сівізной. Абодва высокія хлопцы. Дзмітрыеў бадзяўся з Кошалем і са мною па мінскім андэграўндзе (майстэрні мастакоў на паддашках ці ў падвалах-паўпадвалах), фатаграфаваў мяне з Пятром. Было тое ў другой палове сямідзясятых. Трапіў ён і ў нейкую майстэрню недалеч вакзала, дзе са мною была савецкая мадзьярка з Карпатаў, што таксама вучылася ў літінстытуце і прыехала ў госці з Масквы. Старонка вучэбнага рамана, так бы мовіць.

Андэграўнд перадусім звязаны ў мяне з Кошалем, бо для таго нашага юнацкага жыцця (студэнцкага і постстудэнцкага) лепш падыходзіла азначэнне багемы. На архітэктурным факультэце вучыліся дзеці не абы якіх бацькоў, мы сябравалі, маглі сустрэць новы год на дачы ў закрытым пасёлку для вышэйшага рэспубліканскага чынавенства, любілі паэзію, танцавальныя вечарыны з жывымі музыкамі (праобраз пазнейшых дыскатэк), з намі жылі даўнія і сучасныя шэдэўры сусветнага дойлідства, якія клікалі ад будзённасці ў іншы свет. Нам падабалася больш сядзець у рэстарацыях і кавярнях, чымся ў лёхах ці на кватэрах. А ўвогуле наш час (я прыехаў вучыцца ў Мінск у 1970 годзе) — гэта не стылягі, як у рамане Някляева ў шасцідзясятыя. У свеце нонканфармістамі былі ўжо хіпі. Я сам пэўны час насіў даўгія валасы, якія спускаліся ўніз хвалямі-кудзеркамі. Ды яшчэ «Бітлз» у памяшканнях з прыглушаным святлом. З'явіліся джынсы, аднаму з маіх таварышаў бацькі купілі недзе гэтыя сінія порткі, ды і то на апошніх курсах. А так ні ў кога яшчэ не было. Не мог іх купіць у свой час і я, мо таму пазней з-за гэтага комплексу і не хацелася — так практычна ні разу ў жыцці і не насіў тыя джынсы. А цяпер тым больш — каб і заплацілі, то не надзеў бы. А Ледзенева апошні раз бачыў на нашым нядаўнім пісьменніцкім з'ездзе. Запомнілася, што ён распавядаў кампаніі (хто стаяў побач, таму і расказваў) аб сваіх княскіх ці графскіх каранях і гісторыях, з гэтым звязаных. Голас густы, басісты, пераканаўчы, маўленне выдатнае — гаварыць ён умее!

Згаданага ў рамане Пілю, сына Піліпа Пестрака Анатоля, я таксама ведаў. Сам пісьменнік — мой зямляк, бацька рыхтаваў матэрыял аб ім у звязку з чарговым юбілеем. Вікенцій Іванавіч звязаўся з гэтай нагоды з яго сынам, дамовіўся аб сустрэчы. Прыехаў у Мінск, і мы выправіліся (ці не на «Жыгулях» яшчэ?) да яго ў Ждановічы (ці як гэта правільна назваць?). Карацей, на першыя пісьменніцкія дачы блізу Мінскага мора, якія давалі ў пяцідзясятыя гады. Я быў на тых участках з рэжысёрам Валерам Кавалёвым у доме яго бацькі Паўла. Увогуле, гэтыя дачныя пасёлак выдаваў на вёску, адно што зеляніна была суцэльная. Інача, напэўна, і быць не магло — дзе карані нашых класікаў? І тут быў дамок як сялянская хата. Пасядзелі, пагаварылі. Побач у гэтым пасёлку ўжо былі адбудаваныя новыя шыкоўныя дамы, за высокімі платамі. Ахова стаіць, якая на мае «Жыгулі» паглядае пагардліва. Сын Пестрака сказаў, што толькі за адзін пляц даюць мільён. Даляраў.

Ні ў якім сне не мог сасніць Піліп Сямёнавіч, што такую агромністую па грашах спадчыну ён пакіне не сваімі кнігамі (натуральна, ганарыўся імі), а вось гэтым кавалачкам зямлі, адшкадаваным пры Хрушчове пісьменнікам савецкай уладай і дзякуючы якому яго сын можа стаць сапраўдным мільянерам. «А я не буду прадаваць, — сказаў сын, — мне тут добра жывецца». Можа, і не будзе. Хата ж бацькоўская.

А хто не ведае Лі Харві Освальда, які жыў у тыя гады, на пачатку шасцідзясятых, у Мінску? Моладзь сённяшняя мо і не ведае — што ім за цікавасць да гучных спраў пяцідзесяцігадовай даўніны? Ці Эдзі Рознэра? Не зразумеў толькі, хто прататып скульптара ці архітэктара Косці Ворана? Калі Косця Сарока, то аб гэтай легендарнай асобе чуў показкі і расповеды неаднойчы. Ведаў і Кіма Хадзеева, беларускага дысідэнта пасляваенных часоў, ці не галоўнага персанажа някляеўскага рамана. Не проста чуў, але і меў знаёмства.

У пачатку васьмідзясятых гэта было. Неяк сядзелі мы з Мішам Шэлехавым у кавярні «Бярозка» на Круглай, яшчэ хто быў — не памятаю. Міша ўжо адчуваў сябе вялікім паэтам, бадзяўся недзе ў Маскве, друкаваўся там, мо ўжо і першая з дзвюх тамтэйшых кніжак яго выйшла. Але ж і я пачуваў сябе паэтам, хоць відавочных падстаў (публікацый) было тады вобмаль. Таму і вялася размова на грані. Я сказаў нешта ў тым сэнсе: паглядзім яшчэ, што з каго выйдзе.

Калі на сённяшні дзень… Заблудзіўся Міша ў сваіх шуканнях нацыянальнай ідэнтычнасці, у пісаннях вершаў на розных мовах, у духовых пошуках неафіта… Ды не будзем тут нейкія рахункі падводзіць, дай Бог яму здароўя. Дык вось. Якраз мо для пацверджання сваіх амбіцый Шэлехаў і прапанаваў зайсці да Кіма, з якім быў знаёмы. Узялі віна, здаецца, ды пайшлі, балазе, недалёка. Пакой у камунальнай кватэры выглядаў адпаведна статусу і ладу жыцця легендарнага мінчука — інтэлігентна-неахайна. Помніцца, што размова ўсчалася аб тэатры, літаральна ў тыя дні ў Мінску былі маскоўскія гастролі з пастаноўкаю п'есы Віктара Слаўкіна «Дачка стылягі», якая на афішах пісалася «Дарослая дачка маладога чалавека». Спектакль, зразумела, быў кідкім, ішоў пры аншлагах, памятаю ігру Альберта Філозава. Але па сэнсе выклікаў у мяне шмат пярэчанняў. Тут і завязалася спрэчка, бо Кім, ясная справа, п'есу ўзнесці высока. Я ж стаяў на сваім, ужо на той час меў акрэсленыя перакананні і хрысціянскае бачанне жыцця. Кіму не падабалася, што яму не глядзяць у рот як гуру, а спрачаюцца, ды яшчэ пераканаўча і аргументавана, таму аб наступных сустрэчах-візітах і размовы не магло быць. У мяне і сёння такі ж погляд на тэатр. Самае галоўнае — прынцып гульні («лицедейства») нехрысціянскі.

…Ды нешта збочыў я ад рамана, дзе аб тэатры якраз няма практычна нічога… Знаёмы я быў і з Жарэсам Алфёравым, які не персанаж тут, але згадваецца, што вучыўся ў сорак другой школе на Камсамольскай, што адзіны з вучняў настаўніка фізікі Якава Барысавіча Мельцэрзона пайшоў у навуку і нават стаў Нобелеўскім лаўрэатам, а тады быў стылягам, насіў порткі з дудачкамі ды стракатую кашулю з малпамі.

Вось табе маеш! Зразумела, нават мімаходзь згаданае ў рамане вядомае на ўвесь свет імя нейкім чынам уздымае ці грунтуе тэкст, але ж пэўнай праўды жыцця і храналогіі ўсё ж прытрымлівацца — варта. Так здарылася ў жыцці, што я не проста быў знаёмы з лаўрэатам, а зняў аб ім як рэжысёр дакументальны фільм «Лазер Алфёрава», зрабіўшы дзеля гэтага дзве кінематаграфічныя вандроўкі ў Санкт-Пецярбург і адну ў Маскву ды аб'ездзіўшы алфёраўскія мясціны ў Беларусі (Крайск, Гарадок, Віцебск, Мінск). Я бачыў увесь фотаархіў Жарэса Іванавіча — няма там аніводнага сведчання аб портачках дудачкамі ды кашулі з малпамі. І не магло быць. Школу Жарэс скончыў у 1947-м, а ў сорак восьмым з'ехаў ужо ў Ленінград. Так, хлопцы яны былі вясёлыя, з гумарам, прыкалоцца былі мастакі. Але якія ў той паўразбураны паваенны час стылягі? Ды і школа тады (адзіная мужчынская з чатырох усіх) была на пляцы Волі, у былым доме губернатара каля іезуіцкага касцёла, на Камсамольскую яна перабралася пазней. Зразумела, прыязджаў рэгулярна сын да бацькоў, якія жылі ў Мінску да 1963 года, але стылягам яго ніхто не мог бачыць. Бо ўжо ў пяцьдзясят трэцім ён рабіў першы савецкі радыёпрыёмнік, а ў 59-м атрымаў першы ордэн. У гусце Алфёраву не адкажаш, але гэта былі элегантныя чорныя касцюмчыкі ды адметныя капелюшы, а не прыкід стылягі. Адно праўда, што і падштурхнула, напэўна, аўтара згадаць імя Нобелеўскага лаўрэата, — тое, што ён вучыўся разам з Кімам Хадзеевым, яны сябравалі, і Жарэс у адзін са сваіх прыездаў у Мінск у 1954 годзе аказаўся першым, хто падышоў да Кіма пасля яго адсідкі ў турме. Астатнія абыходзілі наўзбоч.

Ды перад намі ж — мастацкі твор, а не дакументальная проза. Таму не дзіўна, як вынікае з пасляслоўя аднаго з прататыпаў Віктара Ледзенева, што Ася і яе бацька Саламон Майсеевіч Бланк, «сваяк» Уладзіміра Ільіча Леніна, які якраз і прадае газіроўку з аўтамата з сіропам і без, — персанажы выдуманыя. Сам я яшчэ са школьных гадоў быў заўсёды закаханым, таму перманентную закаханасць аўтара (хіба ж можа без гэтага вырасці паэт?) выдатна разумею. Гаварыла мне мая бабуля Маня — абкруціць цябе якая чарнявенькая! Не абкруціла. Хоць пад час вучобы я гады паўтара быў безнадзейна (як і аўтар у рамане) закаханы ў дзяўчыну са старэйшага курса з небеларускім імем… Якая маладосць без кахання?

…Уладзімір Някляеў напісаў свой менскі раман. Цудоўны раман. Дай Бог кожнаму напісаць свой твор аб Менску і маладосці, ды не ў кожнага таленту столькі, як у Някляева. Дарэчы, у Жарэса Алфёрава ў кнізе з абсалютна лапідарнай назвай «Наука и общество» ёсць уласны напісаны з любоўю менскі раман (глава «Моя родная Беларусь»), які чытаецца з вялікай цікавасцю. Ды і ўвогуле на сёння скардзіцца на адсутнасць у беларускай літаратуры гарадской прозы не выпадае, — пытанне толькі ў тым, цікава табе чытаць гэта ці не. У дадзеным выпадку задавальненне было вялікае, і не толькі з-за ўсяго вышэйзгаданага, а таму, што раман. Пры тым эгацэнтрычнасць тэксту не выклікала супраціўлення, наадварот, мне якраз і падабаюцца эгацэнтрычныя творы. Тут хоць аўтара-героя можна адчуць, не хаваецца ён за нейкі персанаж. Адно што падалося — гэбісцкай тэмы зашмат, ці не перабор? Ужо і не ведаеш, можа, і паспачуваць гэтым людзям, бо ў іх жыцці і абставіны такія? А спачуваць і кранацца іх апраўданняў ці пацвярджэнняў сваёй дзікай з чалавечага гледзішча рацыі аніяк не хочацца…

А ў рамане мне не хапіла выйсця. Светлая настальгія аб юнацтве, каханні — гэта зразумела, гэта тычыць кожнага, без гэтага творцу проста нельга ўявіць. А што далей? Складваецца ўражанне, што аўтар сам не ведае, што са сваёй настальгіяй рабіць. Проста напісаў выдатную стылёвую рэч.

…Другому лягчэй задаць пытанні, выказаць прэтэнзіі. Адкажы на тыя пытанні найперш сам, напішы сваё, калі адчуваеш нешта большае ці глыбейшае, ці вышэйшае.

**Скардзіцца на адсутнасць у беларускай літаратуры гарадской прозы не выпадае, — пытанне толькі ў тым, цікава табе чытаць гэта ці не. У дадзеным выпадку задавальненне было вялікае**



НОБЕЛЬ

# ГРОНКІ ПРЭМІІ СТЭЙНБЕКА

**Шведская акадэмія рассакрэціла архіўныя дакументы, прысвечаныя прысуджэнню Нобелеўскай прэміі па літаратуры ў 1962 годзе. Як паведаміла «The Guardian», выбар класіка амерыканскай літаратуры Джона Стэйнбека тады стаў кампрамісным варыянтам: яго палічылі «лепшым у дрэннай кампаніі».**



У 1962 годзе на Нобелеўскую прэмію па літаратуры вылучылі 66 чалавек, а ў ліку фіналістаў аказаліся пяць аўтараў. Апроч Стэйнбека на прэмію прэтэндавалі французскі драматург Жан Ануй, дацкая пісьменніца Карэн Бліксэн і брытанскія пісьменнікі Роберт Грэйвс і Лорэнс Даррэл.

Сярод архіўных дакументаў захаваліся каментары аднаго з членаў Нобелеўскага камітэта Генры Олсана, які напісаў, што камітэт патрапіў у незайздросную сітуацыю, паколькі ў 1962 годзе не было відавочнага пераможцы. Бліксэн, якая напісала раман «З Афрыкі», «пакінула» спіс, бо памерла ў верасні 1962-га.

Олсан быў супраць прысуджэння прэміі Грэйвсу, які, хоць і напісаў некалькі гістарычных раманаў, усё ж быў больш паэтам, чым празаікам. Олсон лічыў, што нельга прысуджаць прэмію якому-небудзь англамоўнаму паэту датуль, пакуль жывы Эзра Паўнд. Кандыдатура Даррэла адхілялася другі год запар. Па здагадках газеты «Svenska Dagbladet», камітэт палічыў, што аўтар «Александрыйскага квартэта» да таго моманту напісаў недастаткова для атрымання прэміі.

Па якіх чынніках быў выключаны Жан Ануй, невядома. Як адзначае выданне, мабыць, на рашэнне камітэта паўплываў той факт, што ў 1960-м прэмію далі французскаму паэту Сен-Жону Персу. Да таго ж ужо тады ў ліку магчымых кандыдатаў на Нобелеўку разглядаўся Жан-Поль Сартр (і атрымаў яе ў 1964 годзе).

У выніку выбар Нобелеўскага камітэта з некаторымі агаворкамі выпаў на Стэйнбека, аўтара раманаў «Гронкі гневу» і «Да ўсходу ад Эдэма» (якога да таго часу ўжо вылучалі на прэмію восем разоў!).

Стэйнбеку ўручылі прэмію з наступнай фармулёўкай: «За рэалістычны і паэтычны дар, які спалучаецца з мяккім гумарам і вострым сацыяльным бачаннем». Крытыкі і ў ЗША, і ў Швецыі ўспрынялі рашэнне камітэта негатыўна, назваўшы яго памылкай і адзначыўшы, што позні творы пісьменніка значна саступалі ў якасці яго раннім раманам.

Паводле правілаў Нобелеўскага камітэта, усе матэрыялы пра прысуджэнне прэміі трымаюцца ў таямніцы на працягу 50 гадоў. Так, толькі напачатку 2012 года высветлілася, што ў 1961 годзе на прэмію, якую ў выніку атрымаў Іва Андрыч, прэтэндавалі Грэм Грын і Джон Рональд Руэл Толкіен. Аднак Нобелеўскі камітэт вырашыў, што ««Уладара пярсцёнкаў ні ў якім разе нельга ацэньваць як высакаякасную прозу»…

КНІГАСКОП

# «КІТАЙСКІ» ДЖЭЙМС ДЖОЙС

**Новы кітайскі пераклад «Хаўтураў па Фінегану» ірландца Джэймса Джойса, рамана, які славіцца сваёй стылістычнай складанасцю, стаў чытацкім хітом у Кітаі. Першапачатковы наклад кнігі ў 8000 асобнікаў разышоўся за тры тыдні.**

Кніга актыўна рэкламавалася на білбордах у Шанхаі і Пекіне, што стала першым выпадкам масавай рэкламнай кампаніі перакладу іншамоўнага твора ў Кітаі. Па продажах у Шанхаі раман саступіў толькі біяграфіі былога кітайскага правадыра Дэн Сяопіна.

У мацерыковым Кітаі гэта першае выданне рамана, які Джойс пісаў 17 гадоў і які выйшаў у 1939-м.

Па меркаваннях экспертаў кніжнага рынка, поспех перакладу можа прывесці да абуджэння цікавасці кітайцаў да замежнай інтэлектуальнай літаратуры.

Перакладчык рамана Дай Кангрон з Шанхайскага ўніверсітэта Фудань працаваў восем гадоў, каб перастварыць плынь свядомасці Джойса па-кітайску, а выдавец Ван Вайсонг з Шанхайскага народнага выдавецкага дома апісвае поспех кнігі як «вельмі нечаканы».



Хоць «высакалобы» раман атрымаў непрадбачаны камерцыйны поспех на рынку, агучваліся і негатыўныя рэакцыі на Джойса. Прафесар універсітэта Цзяотун з Шанхая Цзян Сяоян, як паведамляе «Сіньхуа», заявіў: «Джойс, мабыць, быў псіхічна хворы, калі напісаў такі раман».

# КНІГА БРЫТАНСКАГА ГОДА

**Гістарычны раман «Заносьце целы» («Bring Up the Bodies») брытанскай пісьменніцы Хілары Мэнтэл стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі «Costa» ў намінацыі «Кніга года», паведамляе «Reuters».**



Раней Мэнтэл за гэты раман атрымала брытанскага «Букера», стаўшы першай пісьменніцай і першай прадстаўніцай Вялікабрытаніі, якая здолела двойчы заваяваць гэтую прэстыжную літаратурную ўзнагароду. «Заносьце целы» — другая частка гістарычнай трылогіі, пачатак якой — «Wolf Hall» — у 2009-м прынёс Мэнтэл «Букера».

Прэмія «Costa» прысуджаецца штогод аўтарам з Вялікабрытаніі і Ірландыі ў пяці намінацыях: найлепшыя раман, біяграфія, паэтычная кніга, дзіцячая кніга і дэбют. Пасля прысуджэння гэтых узнагарод журы выбірае ўладальніка галоўнай прэміі — за кнігу года.

Акрамя Мэнтэл, якая атрымала ўзнагароду за найлепшы раман і кнігу года, прэмію за найлепшы дэбют прысудзілі Франчэсцы Сігал за раман «The Innocents», найлепшай паэтычнай кнігай былі прызнаны зборнік шатландскай паэткі Кэтлін Джэмі «The Overhaul». Узнагароду за найлепшую дзіцячую кнігу атрымала Салі Гарднэр за «Maggot Moon». Найлепшай біяграфіяй прызналі графічную навэлу Браяна і Мэры Толбат «Dotter of her Father's Eyes» пра жыццё дачкі Джэймса Джойса.

Прэмія «Costa Book Award» уручаецца з 1971 года, але да 2005-га яна мела назву «Whitbread Book Award». Пераможца ў намінацыі «Кніга года» атрымлівае чэк на 30 тысяч фунтаў стэрлінгаў, а лаўрэаты ў кожнай з катэгорый — чэкі на пяць тысяч.

# ПАЗБАВІЦЬ ЗВАННЯ «НАРОДНАГА»!

**Азербайджанскі пісьменнік Акрам Айлislі пазбаўлены звання «народнага». Пра гэта са спасылкай на BBC паведаміла радыё «Свабода».**

Раман «Каменныя сны», які апісвае напад на армян у Баку ў снежні 1989 года, выклікаў шырокі рэзананс у Баку (ён быў апублікаваны ў мінулым годзе на расійскай мове ў маскоўскім часопісе «Дружба народаў».) У адрас аўтара прагучалі абвінавачванні ў неаб'ектыўнасці ў выкладанні гістарычных фактаў.

У гутарцы з Азербайджанскай службай BBC Акрам Айлislі сказаў, што пазбаўленне звання «народнага пісьменніка» было для яго нечаканасцю і што ад рашэння нясе «духам 30-х гадоў».

«Глеба для гэтага рыхтавалася, як у 1930-я гады, з «лістамі ад народа». Я не мог сабе ўявіць, што гэта здарыцца. Свабода слова гарантуецца ж канстытуцыяй!», — адзначыў пісьменнік.

# МАЛДОВА, НОБЕЛЬ І ХАЛАКОСТ…

**Рада Саюза пісьменнікаў Малдовы вылучыла на Нобелеўскую прэмію па літаратуры выхадца з Бесарабіі Паўла Гому. Як паведаміў кішынёўскі тэлеканал PublikaTV, гэта першы пісьменнік, які нарадзіўся ў Бесарабіі і вылучаны на прэмію Нобеля.**



Фота www.ziarjurnal.md

Сам жа Гома на першае тэлефанаванне журналістаў адказаў, што пакуль нічога не ведае пра рашэнне Саюза пісьменнікаў Малдовы.

Паўл Гома нарадзіўся ў сярэдзіне 30-х гадоў у вёсцы Мана, размешчаным на тэрыторыі Бесарабіі. Пасля таго, як гэтая тэрыторыя адышла да СССР, сям'я пісьменніка эмігравала ў Румынію, дзе ён і вырас. У Румыніі будучага пісьменніка пераследавалі за антыкамуністычныя погляды. У канцы 70-х яго пазбавілі грамадзянства, пасля чаго Гома з сям'ёй з'ехаў у Парыж, дзе працягнуў антыкамуністычную дзейнасць і жыве да гэтага часу.

Творы Паўла Гомы публікуюцца з 60-х гадоў. У 2003-м ён апублікаваў эсэ «Крывавы тыдзень 28 чэрвеня – 3 ліпеня 1940, ці Бесарабія і габрэі», у якім, у прыватнасці, сцвярджаў, што ў Халакосце вінаватыя самі габрэі. Як паведамляла IA REGNUM, раней габрэйскія арганізацыі Малдовы неаднаразова пратэставалі супраць прысваення Гоме розных малдаўскіх узнагарод і навуковых званняў. У 2010 годзе Гому ўрачыста прымалі ў малдоўскай Акадэміі навук. Старшыня Асацыяцыі габрэяў-вязняў канцлагераў Малдовы Шабс Ройф заявіў, што «ў пытанні Халакоста афіцыйная Малдова сёння падзяляе пункт гледжання нацыстаў і іх памагатых». Па словах Ройфа, Паўл Гома «не жыве ў Румыніі, бо там даюць тры гады за адмаўленне Халакоста, чым гэты чалавек сумна і знакаміты».

# АГАТА КРЫСЦІ І СПЕЦСЛУЖБЫ

**Падчас Другой сусветнай вайны Агату Крысці западозрылі ў сувязях з сакрэтнай службай. Як піша газета «The Guardian» са спасылкай на архіўныя матэрыялы, агенты MI-5 палічылі, што ў пісьменніцы быў інфарматар у сакрэтным шыфравальным падраздзяленні Блэтчлі-Парк.**

Шыфравальнікі з Блэтчлі-Парк выконвалі асаблівую ролю ў брытанскай арміі. Менавіта яны ўзламалі нямецкі шыфравальны код «Энігма». Пра існаванне падраздзялення мала хто ведаў, у той час як ад працы яго супрацоўнікаў залежалі ключавыя рашэнні, якія прымалі ў штабе войскаў Вялікабрытаніі.

У 1941 годзе ў Агаты Крысці выйшаў шпіёнскі раман «Н ці М?». Адзін з герояў кнігі, былы вайсковец індыйскай арміі, быў названы маёрам Блэтчлі. Герой сцвярджаў, што ведае планы брытанскіх войскаў па барацьбе з Гітлерам.

Пасля выхаду кнігі супрацоўнікі MI-5 западозрылі, што пісьменніца ведае пра існаванне сакрэтнага шыфравальнага падраздзялення Блэтчлі-Парк. Больш за тое, у Агаты Крысці сярод сяброў быў супрацоўнік гэтага падраздзялення Дылі Нокс. Контрразведчыкі не рызыкнулі дапытаць Агату Крысці, баючыся агалоскі такіх дзеянняў. Замест гэтага яны дапыталі Нокса.

Шыфравальнік пераканаў MI-5, што ён нічога не расказваў пісьменніцы пра сваю працы. Ён пабяцаў даведацца, адкуль Агата Крысці ўзяла імя для героя сваёй кнігі. Ён запрасіў пісьменніцу ў



госці і за кубкам гарбаты няўзнак спытаў, чаму яна назвала маёра менавіта Блэтчлі.

«Чаму? Я неяк затрымалася ў мястэчку Блэтчлі па дарозе з Оксфарда ў Лондан і вырашыла адпомсціць гэтаму мястэчку, назваўшы ў гонар яго не самага прыемнага персанажа», — адказала пісьменніца. Пасля гэтага ў MI-5 больш не было да яе прэтэнзій.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваны паводле паведамленняў «The Guardian», IA «REGNUM», «PublikaTV», BBC, радыё «Свабода», «Associated Press», telegraph.co.uk, prajdzisvet.org , lenta.ru і «Reuters».**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 1 САКАВІКА, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** «Не толькі зброяй». Відэастужка (Беларусь).
**12.55** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Прэм'ера. Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая). 1-я серыя.
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20, 23.25** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Дыялогі пра цывілізацыю.
**22.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая). 1-я серыя.
**01.25** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ты не адзін».
**16.55** «Ералаш».
**17.20** «Хачу ведаць».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Фільм «2 дні».
**22.45** АНТ прадстаўляе: «Што?Дзе?Калі?» у Беларусі.
**00.10** Прэм'ера. Фільм «Вайна богаў: Несмяротныя».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Марс». Расія, 2004 г.
**15.40** «Хораша жыць».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Вясельная вечарынка». ЗША, 2003 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Белыя ваўкі». Серыял.
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Інфарматары».ЗША-Германія, 2008 г.
**02.30** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Час футболу.
**10.55** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 4-я серыя.
**11.35** Дэтэктыў «Усяго адна ноч» («Беларусьфільм»).
**13.15** Авантурная камедыя «Няўлоўная чацвёрка» (Расія).
**15.45** Мазгавы штурм.
**16.20** Рэгіянальная праграма.
**17.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**18.45** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**20.45** «Імперыя песні».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Арэна.
**22.00** Фактар сілы.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.20** Крымінальная драма «Сёстры» (Расія).
**00.45** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). 4-я серыя.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Права на сустрэчу».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Арыфметыка ганебнасці» (2011 г.).
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** Фільм «Чалавек ля вакна» (2009 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Муж і жонка».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Баявік «Марскія д'яблы. Віхраслуп».
**21.10** Дэтэктыўны серыял «Гульня».
**22.55** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».
**00.35** «Бітва за Поўнач. «1937».

### Мир

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Тэлесерыял «Гарачы лёд».
**10.45** Праграма «На шашлыкі».
**11.15** Праграма «Усюды жыццё».
**11.40** Праграма «Рэспубліка сёння».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Тэлесерыял «Трое звераў».
**13.15** Мастацкі фільм «Адзіная».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.50** Мастацкі фільм «Мегаполіс».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Любімыя акцёры».
**21.55** Мастацкі фільм «На ўсе вочы глядзі!».
**23.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**23.50** Мастацкі фільм.
**01.30** Мастацкі фільм «Адзіная».
**03.20** Мастацкі фільм «На ўсе вочы глядзі!».

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 9 серыя.
**10.55** «Доўгае падарожжа праз гісторыю Балканаў», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.30** Рэпартэр.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.10** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 9 серыя.
**16.00** Чорным па белым.
**16.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.40** «Доўгае падарожжа праз гісторыю Балканаў», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**17.35** Рэпартэр.
**18.05** На колах.
**18.30** Навігатар.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Палітыканы», серыял: 1 серыя.
**22.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.05** Студыя «Белсат».
**00.40** ПраСвет.
**01.05** Аб'ектыў.
**01.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.50** Вагон.

## 2 САКАВІКА, СУБОТА

### Беларусь 1

**06.55** Меладрама «Вясна на Зарэчнай вуліцы» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.40** Здароўе.
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.15** Камедыя «Старыя разбойнікі» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Эксцэнтрычная камедыя «Жандар у Нью-Ёрку» (Францыя-Італія).
**17.30** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Камедыйная меладрама «Нявернасць» (Расія).
**20.45** «Трыўмф. Героям спорту «. Дзённік.
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальны трылер «Чорная архідэя» (ЗША).
**23.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Камедыйны серыял «Суседзі».

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** «Шынок «13 крэслаў».
**12.50** «Шынок «13 крэслаў».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Шынок «13 крэслаў». Працяг.
**17.15** «Адзін супраць усіх».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Дзве зоркі».
**22.45** «Сёння ўвечар».
**00.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм «Некіраваны».

### СТВ

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** Фільм «Вясельная вечарынка». ЗША, 2003 г.
**09.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**10.20** «Чыстая праца».
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Шклянка вады». СССР, 1979 г. 1-я серыя.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Фільм «Вы не пакінеце мяне». Расія, 2006 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Бессань». ЗША, 2002 г.
**22.20** «Зорны рынг».
**23.25** «Дзіўная справа».
**00.20** Фільм «Пустэча». Канада, 2003 г.
**01.55** «Дурні, дарогі, грошы».

### Беларусь 2

**07.00** Дабравест.
**07.25** Прыгодніцкая камедыя «На спіне ў чорнага ката» («Беларусьфільм»).
**09.10** Пазакласная гадзіна.
**09.30** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Альбарутэнія.
**11.20** Наперад у мінулае.
**11.55** Пад грыфам «Ведомыя».
**12.30** Беларуская кухня.
**13.05** Шпіёнскі баявік «Радзіма чакае» (Расія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**15.05** Мазгавы штурм.
**15.50** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**16.50** Фактар сілы.
**17.25** Прыгодніцкая камедыя «На спіне ў чорнага ката» «Беларусьфільм»).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке-шоў.
**22.20** Біяграфічная драма «Дзённік яго жонкі» (Расія).
**00.15** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**00.45** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).

### Россия

**07.00** Фільм «Арыфметыка ганебнасці» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.10** «Суботнік».
**11.50** Мультфільмы.
**12.10** Фільм «Бацькава хата».
**14.00** Весткі.
**14.25** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**15.00** «Цуд прыроды».
**16.00** «Ландышы для каралевы».
**17.00** Тэлесерыял «Сваты».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «А снег кружыць.» (2012 г.).
**00.10** Фільм «Жыло-было Каханне» (2011 г.).

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Жыў-быў дзед».
**15.05** Выратавальнікі.
**15.35** «Крамлёўскія пахаванні».
**16.30** «Следства вялі.».
**17.15** Вострасюжэтны серыял «Адысея шпіка Гурава».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Адысея шпіка Гурава».
**21.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.00** «Ты не паверыш!».
**22.50** «Сталін з намі». Фільм.
**00.30** Фільм «Злодзей».

### Мир

**05.00** Мастацкі фільм «Чужыя дзеці».
**06.25** Мультфільмы.
**07.45** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.00** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.15** Праграма «Эксперыментатары».
**08.30** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Зроблена ў СССР».
**09.40** Мастацкі серыял «Гонкі па вертыкалі».
**13.15** Дакументальны фільм «Зоркі на мяжы экстрыму».
**14.05** Праграма «Практычная магія».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Чалавек без пісталета».
**20.25** Праграма «Навіны Садружнасці. Культура».
**21.10** Мастацкі фільм «Дзесяць крокаў да поспеху».
**22.35** Праграма «Музычны ілюмінатар».
**23.05** Мастацкі серыял «Гонкі па вертыкалі».
**02.40** Праграма «Зроблена ў СССР».
**03.10** Мастацкі фільм «Мегаполіс».

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах.
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоў).
**11.45** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Пацукі».
**12.15** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 9 серыя.
**13.00** «Час гонару», серыял: 10 серыя.
**13.45** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 1 серыя.
**14.30** Без рэтушы: «Лёсавырашальная сустрэча», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**14.50** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Псеўданім Пух».
**15.35** «Жанчыны, часопісы і слёзы», дак. фільм, 2000 г., Польшча.
**16.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.50** «Палітыканы», серыял: 1 серыя.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 9 серыя.
**18.05** Еўропа сёння.
**18.30** Назад у будучыню.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытная Індыя», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**19.55** Зона «Свабоды».
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 20.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**21.55** Суботні сеанс: «Надзея», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**23.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**00.15** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 3 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.25** Камедыя «Старыя разбойнікі» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны серыял «Суседзі».
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.10** Меладрама «Вясна на Зарэчнай вуліцы» (СССР).
**14.05** «Трыўмф. Героям спорту «. Дзённік.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.35** Заўтра - гэта мы!
**16.05** Культурныя людзі +.
**16.50** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**17.50** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.50** Вострасюжэтны баявік «Стрытрэйсеры» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Трылер «88 мінут» (Германія-ЗША).
**00.20** Камедыйны серыял «Суседзі».

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** Пакуль усе дома.
**10.30** Прэм'ера. «Вячаслаў Зайцаў. Заўсёды ў модзе».
**11.30** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.30** Фільм «Старыя разбойнікі».
**14.15** Фільм «Афоня».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Форт Боярд».
**19.00** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.10** Фільм «Мне б у неба».
**01.10** Фільм «Вій».

### СТВ

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** Фільм «Бессань». ЗША, 2002 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Шклянка вады». СССР, 1979 г. 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Знечуленне». ЗША, 2007 г.
**22.20** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.45** Фільм «Горад жыцця і смерці». Кітай - Ганконг, 2009 г.
**02.00** «Дурні, дарогі, грошы».

### Беларусь 2

**07.35** Таямніца душы.
**08.00** Біяграфічная драма «Дзённік яго жонкі» (Расія).
**10.05** Пазакласная гадзіна.
**10.25** Камедыйны серыял «Светлафор».
**11.35** Тэлебарометр.
**11.40** Альбарутэнія.
**12.15** Пра мастацтва.
**12.40** Вышэй за дах.
**13.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавыя стартам. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**14.55** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**16.50** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Лірычная камедыя «Падкідыш» (СССР).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спорт-кадр.
**21.55** Камедыйная меладрама «Крутая Джорджыя» (ЗША).
**23.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Тотэнхем - Арсенал.
**01.50** Камедыйны серыял «Светлафор».

### Россия

**07.00** Фільм «А снег кружыць.» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Фільм «З жыцця начальніка крымінальнага вышуку».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.00** Тэлесерыял «Сваты».
**18.00** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Фактар А».
**23.20** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.15** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.30** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Таварыш Сталін».
**16.55** «Вочная стаўка».
**17.55** Выратавальнікі.
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.35** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** «Жалезныя лэдзі».
**22.20** «Сталін з намі». Фільм.
**00.00** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** Мастацкі фільм «Аповесць пра першае каханне».
**06.40** Мультфільмы.
**07.45** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.00** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.15** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Даведнік».
**09.40** Праграма «Ежа».
**10.10** Праграма «Незорнае дзяцінства».
**10.40** Мастацкі фільм «Каран і Арджун».
**13.55** Дакументальны фільм «У свеце каменных джungляў».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Тэлесерыял «Марозаў».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Марозаў».
**22.30** Мастацкі фільм «Там, дзе грошы».
**00.30** Мастацкі фільм «Каран і Арджун».
**03.45** Праграма «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 9 серыя.
**08.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.20** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**09.50** Рэпартэр.
**10.20** Без рэтушы: «Лёсавырашальная сустрэча», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.05** Асабісты капітал.
**11.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.45** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**12.10** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 9 серыя.
**12.35** «Ночы і дні», серыял: 2 серыя.
**13.40** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Svet Boogie Band».
**13.55** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 2 серыя.
**14.45** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытная Індыя», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**15.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.05** «Надзея», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Невядомая Беларусь: «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.05** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «У пошуках скарбаў».
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Усё нашае жыццё – соц-арт», дак. фільм, 2004 г., Расія.
**20.35** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт: выступ «Maleo Regge Rokers».
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**00.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 20.
**00.25** Два на два (тэледыскусія).
**00.50** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48, Марына

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Кассир Всего ________

ПАРТЫІ

# AU REVOIR, СЕРП І МОЛАТ!

Алег НОВІКАЎ

**Аналітыкі намагаюцца зразумець, якая муха ўкусіла французскіх камуністаў, што яны вырашылі прыбраць серп і молат са сваёй сімволікі.**



«Гэта будзе не кангрэс, а сапраўдны рок-н-рол», — паабяцаў напярэдадні 36-га кангрэсу Камуністычнай партыі Францыі (PCF) яе нацыянальны сакратар П'ер Ларан. У некаторым сэнсе яго абяцанне спраўдзілася. Агучанае на кангрэсе рашэнне адмовіцца ад выкарыстання ў якасці партыйнай сімволікі выявы сярпа і молата прымусіла паліталагаў шукаць логіку такога ўчынку.

Адмова ад сімвалаў, якія PCF выкарыстоўвае з 1924 года, — вельмі дзіўны акт з улікам таго, што на дварэ другая дэкада XXI стагоддзя, а не пачатак 1990-х. Менавіта тады шматлікія партыі камуністаў адмаўляліся ад былых сімвалаў веры, у тым ліку ад сярпаста-малаткастых выяваў. Напрыклад, Камуністычная партыя Чэхіі і Маравіі, якая, дарэчы, стала другой на апошніх восеньскіх рэгіянальных выбарах, змагаецца за сацыялізм пад выявай вішні. PCF лічылася самай сталіністычнай сярод еўрапейскіх кампартый: фактычна да канца 1970-х гадоў практыкаваліся выключэнні рэвізіяністаў і іншых аматараў еўракамунізму.

Варта таксама нагадаць, што французскае грамадства не вельмі крытыкуе PCF за рэцыдывы «сталінізму». Папулярна думка, што кампартыя, сябры якой былі франтмэнамі антыфашысцкага супраціву, выкупіла сябе індульгенцыю на любыя забабоны. Таму мясцовыя правыя партыі, у адрозненне ад аднадумцаў з Усходняй Еўропы, ніколі не выносілі на публічны суд ідэю забараніць сімволіку «камуністычнага таталітарызму». Нагадаем, што цяпер серп і молат забароненыя ў Венгрыі і Літве. Вывучаюць магчымасць крыміналізацыі ўжывання знаку ў вышэйшых судовых інстанцыях Малдовы.

І вось французскія камуністы адмаўляюцца ад спрадвечных сімвалаў. «Гэты сімвал не адлюстроўвае рэальнасць», — сказаў П'ер Ларан. Па яго словах, патрэбны «камунізм новага пакалення», якому будзе адпавядаць новая сімволіка. Адмова ад сярпа і молата, лічыць ён, дапаможа партыі лепш інтэгравацца ў сям'ю еўрапейскіх левых партый, наладзіць дыялог з зялёнымі і сацыял-дэмакратамі, якія заўжды крытычна ставіліся да бальшавіцкага эксперыменту і, адпаведна, да яго візуалізацыі. Каб канчаткова дабіць фанатаў сярпа і молата, Ларан на з'ездзе паказаў аўдыторыі партыйны білет 1944 года, калі PCF, будучы ў падполлі, перажывала свой зорны час, і з іроніяй засведчыў, што на дакуменце няма сярпа і молата.

Лексіка Ларана выклікала шок у камуністаў-артадоксаў. Вось заява Кампартыі Грэцыі, якая засталася вернай старому догмату. «Французская КП даўно адышла ад марксізму-ленінізму і ад рэвалюцыйных прынцыпаў камуністычнай партыі. Яна выступае ў авангардзе апартунізму. Для рэвалюцыянераў-камуністаў усяго свету выклікам з'яўляецца не столькі вульгарнасць і перараджэнне яе апартуністычнага кіраўніцтва, колькі замена гістарычнага сімвала камуністычнай партыі».

Аднак сітуацыя больш складаная. Інакш бы Ларан не быў аднагалосна пераабраны на пасаду старшыні. У дадатак прапанаваны ім на кангрэсе праграмны дакумент «Арыенціры дзейнасці» падтрымалі 70 працэнтаў дэлегатаў. На самай справе, «на працягу апошняга стагоддзя» PCF якраз наадварот хутчэй кансервавала сваю адданасць традыцыйнаму камунізму. Пасля таго, як партыю ў 2002 годзе пакінуў нацыянальны сакратар Рабэр Ю, якога за спробы рэформаў празвалі «французскі Гарбачоў», кіраўніцтва партыяй перайшло да больш артадаксальнай Мары-Жорж Бюфэ.

Яе кадэнцыю цяжка назваць паспяховай. Адпаведна апытанням, у 2010 годзе 58 працэнтаў французаў думалі, што Камуністычная партыя больш не існуе. Менавіта тады пачалося тое, што грэчаскія камуністы называюць «перараджэнне». Да ўлады ў партыі прыйшла групоўка, якая задумалася над тым, каб прыпыніць працэс ператварэння партыі ў секту. На дапамогу прыйшоў харызматычны Жан-Люк Меленшон — лідар левай фракцыі сацыялістаў, якая вырашыла падацца ў вольнае плаванне. На базе тандэму камуністы — Меленшон узнік «Левы фронт».

На прэзідэнцкіх выбарах 2012 года кампартыя падтрымала кандыдатуру Меленшона як кандыдата ад «Левага фронту». Ён набраў 11,1% галасоў, што значна вышэй, чым атрымлівалі кандыдаты ад PCF як мінімум на чатырох папярэдніх выбарах. У дадатак камуністы абскакалі сваіх заўзятых апанентаў — трацкістаў. Іх самы распіяраны праект «Новая антыкапіталістычная партыя» (NPA) ледзь-ледзь падае прыкметы жыцця.

Па-сутнасці, рашэнне здаць серп і молат у архіў прадыктавана ўстаноўкай далей фліртаваць з электаратам сацыялістаў. Тым больш, што кан'юнктура зараз вельмі добрая. Вынікі знаходжання Франсуа Аланда пры ўладзе выглядаюць вельмі супярэчлівымі ў вачах левага выбаршчыка. Як адзначыў у сваім выступе П'ер Ларан: «Мы прызнаем ліміты прэзідэнцкай праграмы, яго сацыяльна-ліберальныя комплексы. Аднак мы не кажам пра тое, што мы прайгралі. Нам не падабаюцца некаторыя ўчынкі ўраду, што прымушаюць шукаць яму альтэрнатыву, якія больш заслугоўвае даверу». Вось для чаго і спатрэбілася ўтылізацыя былой сімволікі.

Не ўсе, праўда, упэўненыя, што камуністычны рэбрэндынг можа быць паспяховым. Выданне «Le Monde» мяркуе, што першым вынікам новай сімволікі PCF стане не наплыў новых сяброў, а вайна генеральный унутры партыі, накшталт той, якая была ў часы Рабэра Ю. І вынік гэтага супрацьстаяння можа быць драматычным, паколькі серп і молат (сімвалы гераічнага мінулага) з'яўляліся тымі элементамі, што звязвалі пакаленні. Іншае выданне «Liberation» мяркуе, што надзеі Ларана на павелічэнне сацыяльнай базы партыі апрыёры бесперспектыўная, паколькі кампартыя — гэта партапарат, які, нібы той ненавісны Карлу Марксу ранцье, існуе дзякуючы арэндзе партыйнай нерухомасці, якая засталася ад былых часоў. Тое, што камуністы носяцца з сярпом і молатам, хутчэй указвае на вузкія рамкі іх манеўру і фантазіі. Сапраўды, нічога альтэрнатыўнага сярпу і молату П'ер Ларан не прапанаваў.

Аднак гэта праблема не толькі кампартыі. Не дарма брытанская газета «Guardian» заклікае левых пачаць прыдумляць сімволіку для XXI стагоддзя. Газета піша: «Серп і молат — гэта архаіка. Молат не запатрабаваны пры сучасных тэхналогіях. А зялёная рэвалюцыя ў аграрным сектары хутка паложыць канец і выкарыстанню сярпа ў агракультурнай прамысловасці. Левыя партыі павінны пачаць шукаць новы эквівалент візуалізацыі рабочай сілы ў часы неаліберальнага капіталізму. Тэлефон і мікрафон супрацоўнікаў колцэнтраў, санітарная маска-рэспіратар рабочага на кітайскіх заводах ці рабочы жакет... Трэба проста вызначыць, што сімвалізуе рабочы клас у нашы дні, і, магчыма, вы прыдумаеце яго новы сімвал».

Дарэчы, над гэтым пытаннем даўно ламаюць галаву левыя Усходняй Еўропы, дзе з-за забароны старой камуністычнай сімволікі даводзіцца прыдумляць новую. Так, некаторыя польскія левыя інтэлектуалы лічаць, што сімвалам сацыяльнай барацьбы ў XXI стагоддзі можа быць выява кола. Адзін з аргументаў вельмі моцны: выяву кола пры ўсім жаданні забараніць нельга.



## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У Мінску лічаць, што расійскае кіраўніцтва ў апошні час пачало сумнявацца ў шчырасці інтэграцыйных намераў Лукашэнкі. Падчас 5-гадзіннай прэс-канферэнцыі ў сярэдзіне студзеня беларускі прэзідэнт сказаў, што ні Беларусь, ні Казахстан пакуль не гатовыя да таго ўзроўню інтэграцыі, які хацела б бачыць Масква. Акрамя таго, расійскіх партнёраў маглі насцярожыць дзеянні афіцыйнага Мінска на заходнім напрамку. Як пісала «НГ», нядаўна прызначаны міністр замежных спраў Уладзімір Макей правёў шэраг сустрэч з прадстаўнікамі еўрапейскіх дыпламатычных місій. Пра парадак дня не паведамлялася, але незаўважанымі яны застацца не маглі: мясцовыя эксперты загаварылі пра закулісны дыялог Мінска і Брусэля.

**«Независимая газета» (Расія)**

Разглядаючы ўзаемаадносіны Мінска і Тбілісі, можна сказаць, што тут асаблівую ролю адыгрывае старшынства Беларусі ў СНД. Лукашэнка казаў, што асноўнай яго місіяй будзе калі не вярнуць Грузію назад, то, па меншай меры, актыўна далучаць яе да праектаў СНД. Гэта яго знешнепалітычны канёк, або свайго роду місія Беларусі ў гэтым годзе. Наколькі гэта магчыма і наколькі Мінск лічыць гэтую ідэю рэальнай, сказаць складана. Але галоўнае — заявіць.

**«Грузия сегодня» (Грузія)**

Сёння Курманбек і Жаныбек Бакіевы жывуць у Беларусі, карыстаючыся заступніцтвам Аляксандра Лукашэнкі. Паводле паведамленняў прэсы, першы атрымаў беларускае грамадзянства, купіў сабе дом на ўскрайку Мінска, дзе і жыве са сваёй грамадзянскай жонкай і дзецьмі. На неаднаразовыя патрабаванні афіцыйнага Бішкека выдаць братоў Бакіевых паступаюць адмовы. Але што будзе, калі Лукашэнка сыдзе?

**«Республика» (Казахстан)**

Адносіны паміж расійскай і беларускай дзяржавамі ў гандлёвай сферы зусім не простыя. У апошнія некалькі гадоў паміж краінамі не раз разгараліся «гандлёвыя войны», і ўсе яны так ці інакш былі звязаны з харчовымі таварамі. Расія ў парадку чарговасці паспела забараніць увоз на сваю тэрыторыю беларускага цукру, беларускіх малочных прадуктаў і шэрагу беларускіх цукерак. Лічылася, аднак, што гэтыя рознагалоссі даўно ў мінулым. Аднак цяпер з расійскімі таварамі вырашыла змагацца Беларусь. Справа ў тым, што нядаўняя нацыяналізацыя «Камунаркі» і «Спартака», хутчэй за ўсё, негатыўна адаб'ецца на кандытарскім рынку краіны, лічаць эксперты. Рэзка знізіцца аб'ёмы экспарту, у тым ліку і ў Расію. Таму Мінску даводзіцца рабіць пэўныя крокі, каб абараніць свае цукеркі.

**«Правда.Ру» (Расія)**

Часам трэба пераступіць праз свае амбіцыі і бачыць Дзяржаву. Тое, што Лукашэнка ні з кім не сустракаецца, не робіць самому Лукашэнку горш — ён ездзіць у ААН, у Расію, яшчэ кудысьці. А больш і не трэба. Для Украіны такая ізаляцыя папросту шкодная. Таму неабходна шукаць усе магчымасці для ўдзелу кіраўніцтва Украіны на ўсіх сустрэчах і недапушчэння ізаляцыі.

**«Час пик» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АЎСТРАЛІЯ. КАНСТЫТУЦЫЮ ПЕРАПІШУЦЬ ПАД АБАРЫГЕНАЎ

Ніжняя палата парламента Аўстраліі прыняла гістарычны закон, які абвяшчае аўстралійскіх абарыгенаў «першымі аўстралійцамі». Адпаведны пункт таксама хутка з'явіцца ў тэксе Канстытуцыі. Раней афіцыйна лічылася, што да пачатку брытанскай каланізацыі кантынент быў «нічыйным». Рашэнне парламента адназначна гістарычнае, паколькі надае абарыгенам (зараз па ўсёй краіне іх каля 450 тысяч) права патрабаваць кампенсацыі за тое, што нарабілі каланізатары за апошнія 200 гадоў. Нагадаем, што следствам каланіяльнай палітыкі стала скарачэнне колькасці тубыльцаў з 750 тысяч (1788 год — пачатак каланізацыі) да 31 тысячы (1911 год). Ініцыятары папраўкі (Зялёныя і лейбарысты) кажуць, што позна ці рана белыя жыхары Аўстраліі, каб захаваць маральныя прынцыпы, павінны былі пайсці на гэты крок. Іх праціўнікі са стану кансерватараў непакояцца, што цяпер абарыгены са спасылкай на закон будуць намагацца ўзняць свой сацыяльны статус, напрыклад, атрымаць вялікую квоту ў парламенце і г.д. Дарэчы, да 1967 года абарыгены ўвогуле не мелі грамадзянскіх правоў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. ЦАР МІКАЛАЙ ІІ СТАНЕ ДЗЕДАМ МАРОЗАМ

Камісія па бюджэтнай і эканамічнай палітыцы Аўтаномнай Рэспублікі Крым вырашыла прапанаваць рэгіянальнаму парламенту аўтаноміі правесці «мерапрыемствы, прысвечаныя святкаванню 400-й гадавіны Царскага Дома Раманавых» (як вядома, менавіта 400 гадоў таму, у сакавіку 1613 года, Міхаіл Раманаў стаў рускім царом). Як гаворыцца ва ўжо распрацаваным дакуменце, такая акцыя «будзе садзейнічаць папулярызацыі і захаванню гісторыка-культурнай спадчыны ў аўтаномнай Рэспубліцы Крым». Да дакумента дадаецца спіс рэкамендаваных мерапрыемстваў, які часам нельга чытаць без смеху. Напрыклад, на Новы год плануецца арганізаваць дзіцячае свята «Царская ёлка», дзе малых будзе віншаваць са святам не Дзед Мароз, а імператар-нябожчык. А ў чэрвені намечана свята «Грязи, подарившие надежду», прысвечанае 100-й гадавіне лячэння цэсарэвіча Аляксея крымскімі гаючымі ваннамі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. БАЦЬКІ СУПРАЦЬ ШЭНГЕНСКІХ ВІЗ

Нядаўна Уладзімір Пуцін сустрэўся з бацькамі — удзельнікамі Кангрэсу бацькоў, якія арганізавалі рух «Суть времени» Сяргея Кургіняна. Падзея гістарычная, паколькі Пуцін фактычна падтрымаў вельмі кансерватыўную фракцыю грамадства, тым самым даючы зразумець, што больш не з'яўляецца кумірам усіх расіян. Тым не менш, гаворка пра іншае. Удзельнікі кангрэсу, якія аб'ядналіся ў рух «Бацькоўскі супраціў», здаецца, зразумелі візіт Пуціна як знак пачатку своеасаблівай культурнай рэвалюцыі, у якой ім адводзіцца роля хунвейбінаў. Так, на Урале пачаліся рэйды па кніжных крамах у пошуку літаратуры, якая, на думку прапуцінскіх бацькоў, здольная разбэсціць школьнікаў. Першай ахвярай стала кніга маладой пісьменніцы Ксеніі Драгунскай «Цалавацца забаронена!», у якой апісаны раман школьніка і настаўніцы. У выніку рэйдаў кніга знікла з продажу. Акрамя таго, бацькі прапаноўваюць пачаць кампанію салідарнасці з фінскімі ахвярамі ювенальнай паліцыі. Яны плануюць усенародны байкот фінскіх тавараў і кампаній. Ужо складзены адпаведны чорны спіс. У яго сярод іншага трапілі «Нокіа» і шэнгенскія візы, якія выдае фінскае пасольства.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВАТЫКАН. ПАПА ПАЙШОЎ У АДСТАЎКУ, БО ПАГЛЯДЗЕЎ КАМЕДЫЮ?



Шмат журналістаў не паверылі ў тое, што Рымскі Папа вырашыў сысці з-за праблем са здароўем. Сярод фактараў, якія паўплывалі на рашэнне Бенедыкта XVI, таксама называюць камедыю «Habemus papam», якая выйшла на экраны 2 гады таму. Адну з галоўных роляў у стужцы — асабістага сакратара Папы — выканаў славуты польскі актор Ежы Штур, якога наш глядач ведае па фільмах «Дзэжаво» і «Новыя амазонкі». Паводле сюжэту, кардынала, якога Канклаў толькі што абраў Рымскім Папам, нечакана ахопліваюць апатыя і хандра, жаданне падаца ў акторы, каб выканаць ролю ў камедыі Чэхава. Сакратар водзіць яго да псіхааналітыка, дае нейкія медычныя сродкі, прымушае займацца спортам, аднак усё марна. З улікам таго, што фільм нарабіў у Італіі шуму, не выключана, што Бенедыкт XVI таксама яго прагледзеў і, магчыма, задумаўся — навошта яму ўсё гэта трэба. Тое, што камедыя магла паўплываць на Папу, не выключае сам Ежы Штур. Ён у інтэрв'ю польскай прэсе, дарэчы, вітаў учынак Бенедыкта XVI, назваўшы яго «моцным на фоне слабасці інстытуту Касцёла». Застаецца спадзявацца, што фабула папулярнага фільма не паўторыцца ў сакавіку, калі адбудуцца выбары чарговага Папы.

**Паводле польскай прэсы**

---

▸ ЦІКАВА

# ВЯРТАННЕ МАХНО

**Алег НОВІКАЎ**




**Любоў украінцаў да анархіста Нестара Махно пераходзіць у фазу адмаўлення ад ідэі дзяржаўнасці — як мінімум, у яе цяперашняй форме.**

Культурныя войны паміж Усходам і Захадам — гэта тое, чым штодня дыхае Украіна. Напрыклад, нядаўна хвалю абурэння ў Львове выклікаў падыхтаваны міністэрствам адукацыі падручнік гісторыі Украіны, са старонак якога зніклі выявы Бандэры і Шухевіча (камандзір УПА), а таксама раздзел, прысвечаны падзеям 2004 года на Майдане. У якасці парытэтнага адказу на захадзе Украіны выдалі свой падручнік. У ім якраз піяраць Бандэру і кажуць пра тое, што Віктар Януковіч — заўзяты ўкраінафоб.

Аднак існуе купка персанажаў, якія выяўленыя ў абодвух згаданых падручніках у пазітыўным ракурсе. Сярод іх герой грамадзянскай вайны, анархіст Нестар Махно. Нестар Іванавіч адчувае сябе вельмі ўтульна на фоне канфрантацыі Захаду і Усходу.

Яго паважаюць на Усходзе. Не так даўно радзіму Махно горад Гуляйполе наведаў губернатар Запарожскай вобласці Аляксандр Пеклушэнка, каб заявіць: «Мы павінны вывучаць гэту дзіўную, складаную асобу. Таму я абвяшчаю конкурс сярод нашых літаратараў на найлепшую п'есу пра жыццё і дзейнасці Нестара Махно. Неабходна, каб наш тэатр абавязкова меў у сваім рэпертуары такую п'есу, якая б раскрывала і вобраз, і час, і чалавека. Перакананы, што тое неабходна, і гэта наш абавязак перад гэтай асобай». У суседняй Херсонскай вобласці на дзень нараджэння Махно пры падтрымцы ўлады адбыўся культурны фестываль «Кахоўскі плацдарм». Нарэшце, Нацбанк Украіны ў 2013 годзе запусціць манету ў гонар Нестара Махно наміналам у дзве грыўні.

Гэтак жа да Нестара ставяцца і па той бок барыкад. Да нядаўняга часу маладыя нацыяналісты мелі моду адзначаць Дзень незалежнасці Украіны 25 жніўня ў Гуляйполі ў рамках фестываля «Дзень незалежнасці з Махно». Пры гэтым іх абсалютна не хвалюе тое, што Махно пры жыцці не паважаў праект Пятлюры незалежнай Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР). Больш таго, у парыжскай эміграцыі Махно, бацькам, падтрымліваў кантакты з Самуілам Шварцбурдам, які ў 1926 годзе забіў Пятлюру за арганізаваныя яго памагатымі яўрэйскія пагромы ва Украіне. У адрозненне ад камуністаў, анархісты вольна шпацыруюць па Львову са сваёй сімволікай. Іх апошняя вылазка пад назвай «Буржуям кулю» адбылася ў лістападзе і была пракаментавана на мясцовых інтэрнэт-форумах пастамі накшталт: «Малайцы. Так трымаць. Героеў трэба памятаць».

Ёсць шмат прычын такой незвычайнай павальнай сімпатыі да героя грамадзянскай вайны, якая, праўда, мае павярхоўны характар. Напэўна, толькі адзін працэнт «махноўцаў» чытаў публіцыстычныя творы свайго куміра. Таму тым больш цікава разглядаць апошнія трэнды сярод адэптаў культу Махно.

У якасці прыкладу можна ўзяць вядомага ўкраінскага літаратара Леся Падзервянскага, які ў брэжнеўскі час быў адным з самых вядомых культурных дысідэнтаў. Падзервянскі, як і шмат іншых кіеўскіх багемшчыкаў, ніколі не хаваў павагі да Махно. Два гады таму ў адным інтэрв'ю ён заявіў: «Махноўшчына — ва ўкраінцаў у крыві. І гэта менавіта тое, што нам трэба. Узнікае пачуццё адказнасці. Тым больш, заўсёды існуе пагроза, што нейкая банда прыбяжыць і ўсё забярэ. Людзі тады пачынаюць свядома аб'ядноўвацца. Таму што надзея на ўладу ніякай — улады няма».

Аднак цяпер разуменне спадчыны Махно перайшло ў Леся ў новае вымярэнне. На днях у інтэрв'ю аднаму з часопісаў ён дазволіў сабе жудасную ерась з пункту гледжання ўкраінскага інтэлігента: «Назавіце мне хоць адну прычыну, для чаго існуе ўкраінская дзяржава? Для таго, каб Расія або нехта іншы адцяпалі ў нас шматок? Ну калі яна адцяпае, то мы сапраўды гэтага вартыя. Вось і ўсё».

Заява літаратара шакавала бамонд. Аднак аказваецца, што Лесь — не белая варона. Адно з самых папулярных львоўскіх выданняў «Zahid» піша: «На самай справе, у канцы 1980-х гадоў ніякай рэальнай барацьбы за ўкраінскую дзяржаўнасць не было. Пагадзіцеся, цяжка назваць барацьбой нават даволі шматлюдныя мітынгі за дэмакратызацыю савецкай сістэмы, трохі запраўленыя нацыянальным каларытам, і тое толькі ў заходніх абласцях УССР. Абвяшчэнне суверэннай Украіны не было рэвалюцыйным актам, які ў корані мяняў папярэдні парадак. Абвяшчэнне незалежнай Украінскай дзяржавы звялося да звычайнага пераапранання старой партыйнай наменклатуры з шэрых касцюмаў у маляўнічыя вышыванкі… Мы пабудавалі дзяржаву, якая не гарантуе нам годнага жыцця, але адбірае нашу годнасць. Нашто ўкраінцам такая дзяржава?»

Такія опусы прымусілі мабілізавацца нацыяналістаў. Часопіс «Тиждень» у адным з апошніх нумароў прысвяціў цэлы разварот праваканцы Падзервянскага.

Пры гэтым аўтар крытыкуе не столькі разважанні Леся, колькі канцэпцыі і ўчынкі яго ідэйнага аўтарытэта Нестара Махно. Супраць атамана выстаўлена цэлая серыя абвінавачванняў: Махно фліртаваў з Саветамі, Махно адрэзаў УНР ад Чорнага мора і, магчымай, іншаземнай дапамогі, Махно не даў войскам УНР прайсці на багаты карыснымі выкапнямі Данбас… І самае галоўнае — Махно заклаў асновы жыццёвай філасофіі «пафігізм», якая сёння пагражае ўкраінскай дэмакратыі і дзяржаве.

Але адказу на галоўнае пытанне, чаму менавіта зараз антыдзяржаўнікам стала быць модна, аўтар артыкулу не дае. Затое ўскосны адказ вынікае з матэрыялаў на суседніх старонках выдання, лейтматыў якіх: людзі не вераць лідарам апазіцыі. Украінская апазіцыя сапраўды ў крызісе. Пра маштаб яе дыстанцыі ад народу цудоўна сведчыць заява аднаго з лідараў аранжавых, дэпутата Сяргея Власенкі. 11 лютага Сяргей літаральна ўзарваў медыяпрастору наступнай заявай: «Сёння вакол майго дома з'явіліся супрацоўнікі Службы бяспекі Украіны ў касцюмах мультыплікацыйных мядзведзяў, якія пад выглядам раздачы рэкламнай прадукцыі вядуць сакрэтнае назіранне за мной. У гэтым ёсць і элемент псіхічнага ціску — так улада дэманструе, што проста адкрыта здзекуецца з галоўнага абаронца Юліі Цімашэнка». Вось такі постмадэрнізм. Паступова губляецца давер да тых, хто меўся прыйсці на змену аранжавай генерацыі — партыям Віктара Клічко і Алега Цягнібока. Губляецца сама ідэя таго, што нешта можна змяніць шляхам галасавання.

**Абвяшчэнне незалежнай Украінскай дзяржавы звялося да звычайнага пераапранання старой партыйнай наменклатуры з шэрых касцюмаў у маляўнічыя вышыванкі…**

Пэўным кампенсатарам для маладой інтэлігенцыі і стала захапленне ідэямі Махно.

І хаця махноўская мара пра асацыяцыю вольных сялян сапраўды выглядае ўтапічна, аднак анархісцкая крытыка дзяржавы — вельмі моцная ідэйная зброя для тых, хто выступае за сапраўдныя кардынальныя рэформы сістэмы. Акрамя таго, мінулыя парламенцкія выбары давялі, што на ўсходзе і на поўдні фармуецца запыт на новую палітычную сілу, адрознную і ад «Партыі рэгіёнаў», і ад камуністаў. А папулярная ў народзе фігура бацькі Махно і яго спадчына можа быць выкарыстаная прадстаўнікамі новай хвалі мясцовых левых палітыкаў.

ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЯК НАМ ПРЫДУМВАЮЦЬ СЦЯГ

Алег НОВІКАЎ

**Беларусы нават не ведаюць, што актыўна ідзе распрацоўка сімволікі Еўразійскага саюза, якая таксама павінна стаць у будучым сімволікай беларусаў.**





Як вядома, за прыклад еўразійскай інтэграцыі ўзятая мадэль еўраінтэграцыі. Акрамя ўсяго, Еўрасаюз мае сваю сімволіку: усім сёння знаёмае сіняе палотнішча з 12 залатымі зоркамі, зацверджанае яшчэ ў 1955 годзе. А гэта значыць, што калі гаворка пра стварэнне Еўразійскага саюза вядзецца ўсур'ёз, то цалкам лагічна было б задумацца пра сімволіку новага аб'яднання.

І хаця працэс будаўніцтва ЕўрАзЭС яшчэ, мякка кажучы, тармозіцца яго ўдзельнікамі (дастаткова ўзгадаць нядаўнюю сентэнцыю Лукашэнкі пра тое, што з бухты-барахты інтэгравацца ён не будзе), аматары Еўразіі вядуць актыўныя дэбаты наконт таго, як будзе выглядаць сцяг новага дзяржаўнага фармавання. У дадатак прапануюцца канкрэтныя эскізы.

Найбольш значную фракцыю ў гэтай дыскусіі складае групоўка прыхільнікаў чырвонага штандару. Яны ахвотна ўзгадваюць, як у свой час той жа цяперашні скептык еўразійскай інтэграцыі Аляксандр Лукашэнка прапаноўваў прыняць за аснову сцяга Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі сцяг СССР. Пытанне тады было адкладзенае. З улікам таго, што Пуцін спрабуе трымаць дыстанцыю ад савецкай спадчыны, такі варыянт зараз маларэальны. Не кажучы пра тое, што чырвоны сцяг дзейнічае як ануча на быка для значнай часткі ўкраінцаў і нават беларусаў.

Аднак ужо прыдуманы кампраміс. Прапануецца наступны варыянт сцяга Еўразійскага саюза (ЕАС) — чырвоны сцяг з той ці іншай камбінацыяй залатых зорак, якія абазначаюць раўнапраўе і адзінства суб'ектаў рэінтэграцыі. Як і на сцягу ЕС, гэтыя зоркі могуць быць размешчаны па крузе, а іх колькасць магла б мяняцца ў залежнасці ад колькасці тых постсавецкіх рэспублік, што далучыліся да ЕАС у дадзены момант. Галоўны мінус праекта — выява нагадвае сцяг Кітайскай Народнай Рэспублікі (КНР) або В'етнама.

Як і трэба было чакаць, большасць праектаў геральдыкі ЕАС належыць расійскім вялікадзяржаўнікам. Яны разглядаюць еўразійскую інтэграцыю як мудрагелістую шматхадоўку, каб зноў сабраць былыя калоніі Масквы пад адзін дах. Кажучы пра роўнасць суб'ектаў у будучым саюзе, яны так ці інакш пераходзяць на імперскую лексіку. Так, калі згадваюць пра чырвоны сцяг, абавязкова падкрэсліваюць, што гэта не толькі сцяг перамогі народаў СССР над Германіяй, аднак і сцяг апалчэнцаў Мініна і Пажарскага, князя Святаслава і г.д. Іншымі словамі, перш за ўсё чырвоны колер — гэта нацыянальны колер рускага народа.

Іншыя ўдзельнікі распрацовак праекту агульнага сцяга нават не хаваюць рускай матрыцы еўразійскай інтэграцыі. Так, дызайнеры групоўкі «Арсенал» падрыхтавалі эскізны праект сімволікі ЕАС на базе сімволікі, якую яны раней распрацавалі для ўкраінскіх партый прарасійскага накірунку «Рускі свет» (гл. малюнак 1). Нават недасведчанаму відавочна, што прапанаваная імі васьміканцовая зорка — знак ЕАС — не што іншае, як алюзія на сімвал сумнавядомай рускай праварадыкальнай арганізацыі «Рускае нацыянальнае адзінства» (РНЕ).

Такім жа бачаць сімвал ЕАС ідэйныя еўразійцы — філасофска-палітычны рух, які выступае за адмову ад еўрапейскай інтэграцыі Расіі на карысць інтэграцыі з цэнтральнаазіяцкімі краінамі. На іх думку, васьміканцовая зорка «мае старажытныя карані ў еўразійскай гісторыі і з'яўляецца сімвалам адзінства, веры, надзеі, прагрэсу, новага світанку для народаў нашай прасторы». А вось наконт колеру сцяга еўразійцы і вялікадзяржаўнікі маюць адрозныя меркаванні. Юрый Кофнер, адзін з лідараў маладых еўразійцаў, лічыць, што ў Еўразійскага саюза павінен быць фіялетавы сцяг (гл. малюнак 2).

«На маю думку, фіялетавы дакладней за астатнія колеры сімвалізуе сутнасць еўразійскай ідэі, паколькі злучае ў сабе пароўну чырвоны (Візантыйская імперыя, Захад, зямля, стварэнне) і сіні (Мангольская імперыя, Усход, неба, духоўнасць) пачатак», — тлумачыць Кофнер. Нягледзячы на доўгую традыцыю еўразійства, наўрад ці яго прыхільнікі будуць фармаваць павестку дня падчас стварэння ЕАС. Занадта еўразійцы ўжо маргінальныя.

Хапае сярод канкурсантаў на аўтарства сцяга ЕАС і аматараў памаляваць, якія вельмі далёкія ад палітычных рэалій. Так, адзін з блогераў прапануе сіне-чырвоны сцяг з вялікай зоркай, вакол якой будуць размешчаны чатыры малыя зоркі, што, адпаведна, будуць сімвалізаваць Расію, Казахстан, Беларусь і Паўднёва-Усходнюю Украіну.

Складаецца ўражанне, што да распрацоўкі сцяга ЕАС далучыліся самыя заўзятыя авантурысты. Напрыклад, свой варыянт зрабіў мастак з Уральска, які характарызуе сябе як спецыяліста ў касмічнай іканаграфіі. Ён, дарэчы, ужо даслаў свой праект у геральдычную камісію Расіі. Аднак яго, безумоўна, пераўзышоў кіргізскі навуковец Зарыфулін. Ён мяркуе, што сцягам ЕАС павінен стаць цяперашні сцяг Кыргызстану, паколькі на ім выяўлена юрта, якая сімвалізуе полюс святла і Гіпербарэю. Гэты сакральны знак, быццам, дазваляе выклікаць старадаўніх духаў, якія ў свой час дапамаглі Сталіну перамагчы ў бітве за Маскву.

Забаўны неафіцыйны конкурс на сцяг ЕАС з'яўляецца тым не менш своеасаблівым люстэркам таго, наколькі праект Пуціна пайшоў у масы. Відавочна, што беларусы і казахі абсалютна абыякавыя да гэтага конкурсу. Нават улады не намагаюцца падключыць іх да гэтага абмеркавання. Што да рускіх, дык у дыскусіі бяруць удзел або аматары геапалітычных фантазій, або прадстаўнікі чырвона-карычневай субкультуры.

З улікам гэтага цяжка ўявіць, што ў 2015 годзе, калі ЕАС будзе ўрачыста абвешчаны, ён стане ўспрымацца сур'ёзна. Праўда, нашым інтэгрыстам не ўпершыню спачатку абвяшчаць, а пасля думаць. Дарэчы, аб'яднанне Расіі і Беларусі да гэтага часу не мае сваёй сімволікі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ПІТЭР ТУРКСАН



64-гадовы кардынал Ганы стаў першай ахвярай вайны кампраматаў, што набірае ход напярэдадні сакавіцкага канклаву, які абярэ новага Папу Рымскага. Яшчэ ўчора ён лічыўся кандыдатам нумар адзін на пасаду пантыфіка. Шмат каму імпанаваў чарнаскуры кардынал, папулярны ў краінах Трэцяга свету. Акрамя таго, у Пітэра добрая працоўная біяграфія (ён зарабляў на вучобу працай прыбіральшчыка ў банку). Нарэшце, на фоне іншых прэтэндэнтаў ён выглядае дастаткова маладым. Аднак цяпер шанцы кардынала з Ганы ўжо не такія вялікія. Каціроўкі на яго ўпалі пасля таго, як на мінулым тыдні Турксан дазволіў сабе супярэчлівыя выказванні наконт ісламу. Ён перасцярог Францыю ад таго, каб тая не стала праз 40 гадоў ісламскай краінай (адпаведна статыстыцы, так яно можа і здарыцца). Запіс з прамовай Турксана добразычліўцы адразу закінулі на YouTube, дзе яго выказванні расцанілі як праяву ісламафобіі. Хаця сам кардынал ужо сказаў, што яго некарэктна зразумелі, крыж, здаецца, на яго амбіцыях ужо пастаўлены. Таксама ўзгадалі тое, што кардынал адмаўляўся прызнаць наяўнасць у Касцёле педафілаў. Між тым, яшчэ нядаўна Турксан жартаваў, што пасля таго, як яго абяруць Папам, ён разам з чарнаскурым сакратаром ААН Кофі Ананам і прэзідэнтам ЗША Баракам Абамам падпарадкуюць свет чорным.

### МАРЫЁН МАРЭШАЛЬ ЛЕ ПЭН



Дэпутат французскага парламенту ад правай партыі «Нацыянальны фронт», унучка заснавальніка партыі Жана-Мары Ле Пэна, вельмі засмуціла дзядулю і цётку Марын (старшыню НФ), бо не прагаласавала супраць закона аб легалізацыі аднаполых шлюбаў. Яе сакратар заявіў, што дэпутатка зрабіла так, сыходзячы з відавочнай большасці ў зале дэпутатаў ад левых партый, якія ў любым выпадку прагаласуюць за законапраект. Як і трэба было чакаць, учынак маладога палітыка ўзарваў родную партыю, дзе існуе моцная каталіцкая фракцыя. Кансерватары-гамафобы заявілі пра наяўнасць у НФ гееўскага лобі, якому, па іх словах, сімпатызуе цяперашні старшыня Марын Ле Пэн. Апошняя адмаўляе наяўнасць такой групоўкі, аднак на самай справе вымушана лічыцца са статыстыкай. Паводле апытанняў, 54 працэнты прыхільнікаў партыі падтрымліваюць аднаполыя шлюбы. Не выпадкова мадам Ле Пэн не ўхваліла ідэю рэферэндуму па праблеме шлюбаў для гомасэксуалістаў. Цяпер Марын даводзіцца думаць, як не страціць імідж гамафоба і адначасова захаваць у партыі прыхільнікаў аднаполых шлюбаў.

### ЖОЛТ НЕМЕТ

Парламенцкі дзяржсакратар замежных спраў Венгрыі, а фактычна цяневы міністр замежных спраў, заклікаў усіх мэраў Венгрыі ўзняць у сваіх населеных пунктах сцяг непрызнанага Бухарэстам Секейскага краю (зона кампактнага пражывання венграў у Румыніі) у знак салідарнасці з барацьбой трансільванскіх венграў за аўтаномію. Заява прагучала пасля інцыдэнту, які здарыўся на цырымоніі ўступлення на пасаду прэфекта ўезда Ковасна Думітру Марынэску, які дэманстратыўна пакінуў афіцыйную цырымонію ў горадзе Шэпшысэнтдзьёрдзе (румын. Сфэнту-Георге) і запатрабаваў выдаліць з будынка муніцыпалітэту секейскі сцяг. Заклік МЗС Венгрыі адразу выклікаў маштабную канфрантацыю паміж Бухарэстам і Будапештам, які намагаецца падтрымліваць венгерскую меншасць у Румыніі. Так, румынскія ўлады папярэдзілі сваіх этнічных венграў, маўляў, тых, хто возьме пашпарт Венгрыі, будуць пазбаўляць пашпарту Румыніі, што аўтаматычна выклікае шмат прававых праблем. У сваю чаргу, Будапешт вуснамі свайго пасла ў Румыніі прапанаваў прызнаць свабоду секееў на сваю адміністратыўную адзінку, і ўвогуле выключыць з канстытуцыі краіны пункт пра тое, што «Румынія — нацыянальная дзяржава». Зараз пікіроўка паміж урадамі краін працягваецца, і канца ёй не бачна. Самае смешнае, што Бухарэст абвінавачвае венграў у тым, што самі румыны робяць у Малдове з мэтай уключыць гэты рэгіён у сваю сферу ўплыву: раздаюць румынскія пашпарты і дазваляюць галасаваць на выбарах у румынскі парламент.



▸ З НАГОДЫ

# Рыгор Барадулін: «ПАКУЛЬ ПІШУ —

Сяргей ШАПРАН

**Адны называюць яго вялікім, іншыя — геніяльным, а сам ён нават паэтам сябе не называе — толькі чорнарабочым беларускай мовы. 24 лютага Рыгору Барадуліну спаўняецца 78… Гады, хваробы і ў непасрэднай сувязі з гэтым — дасюль няздзейсненыя мары, сярод якіх самая істотная — дажыць да беларускай Беларусі.**


Рыгор Барадулін


«У вояў гартаваныя мячы!»

Апошнім часам дзядзька Рыгор зрэдчас выходзіць з дому — не дазваляе здароўе. Яго жыццё працякае пераважна ў коле самых блізкіх людзей, у тэлефонных размовах з сябрамі і сустрэчах з імі, сярод кніжных паліц, на якіх увесь літаратурны космас — сусветны і беларускі. Тым не менш, нягледзячы на здароўе, Рыгор Барадулін па-ранейшаму піша, дакладней, — вершы самі прыходзяць да яго, дзень за днём, год за годам, ужо больш за паўстагоддзе, і толькі ў гэтым бачыць ён сэнс свайго жыцця, і ў гэтым жа — яго ратунак.

***— Дарагі дзядзька Рыгор, як вы сябе адчуваеце апошнім часам?***

— Не зусім, каб добра, і не зусім ужо дрэнна. Спадзяюся яшчэ трошку пажыць, таму што задум многа, а часу мала. Калі яшчэ пачынаў жыць, дык здавалася, што часу наперадзе шмат, а чым далей жывеш, тым яго менш і менш. Усё-такі ў гэтым годзе мне 78 — гэта страшэнна многа. Раней я падлічваў не злева направа, а наадварот: дапусцім, 71 ставіш справа налева — атрымліваецца 17, 77 і ёсць 77, а 78 — выходзіць ужо 87… Але, як у нас дома гаварылі, трэба жыць і мучыцца, пакуль смерць налучыцца.

***— Мы некалі гаварылі з вамі пра дзіўнае несупадзенне: сам сябе ніколі не адчуваеш на той узрост, што пазначаны ў пашпарце. Дый вы самі пісалі: «душа маладая, Ты, як вецер, стары…» У звязку з гэтым: колькі цяпер гадоў вашай душы?***

— Гэта ў залежнасці ад надвор’я, ад часу — ці раніца гэта, ці вечар, але ўсё роўна адчуваеш сябе маладзей, бо душа не можа быць старой. І пакуль ёсць душа — ты малады.

***— Нядаўна гаварылі пра вас з Уладзімірам Някляевым, дык ён нечакана прызнаўся, што нягледзячы на тое, што розніца ва ўзросце ў вас у дзесяцігоддзе, часам ён адчувае сябе старэйшым за вас, бо, паводле яго тлумачэння, у вас захавалася нейкая здзяцінеласць…***

— Сам я гляджу на яго як на маладога, мне нават не верыцца, што яму можа быць пяцьдзясят…

***— Але Някляеву — 66.***

— Так, я ведаю, але па-ранейшаму ўспрымаю яго шалёна маладым, бо ён нічога не баіцца і пастаянна ідзе напралом. Ён бы мог быць у атрадах Каліноўскага ці ў любым вызваленчым атрадзе Беларусі. Да таго ж Някляеў — гэта апошні класічны геніяльны беларускі паэт. Будзе новы час — будуць новыя геніяльныя паэты. Можа, яны ўжо растуць — новыя някляевы, тройчы някляевы, і хай растуць, я не супраць, але яны — толькі растуць, а я гавару пра наш час, пра той час, у якім я жыву. Кожны час дае сваіх геніяў, і добра, што ў Беларусі ёсць Някляеў. А маладзейшы ён, мой сябра, ці старэйшы — гэта не варта вызначаць, ён проста мой сябра.

***— Дарэчы, вось што сам Някляеў гаварыў пра вас падчас нядаўняй нашай гутаркі: «Барадулін — асоба ў гэтым свеце, геніяльны беларускі паэт. Прычым ён, можа быць, найлепшы беларускі паэт з усіх беларускіх паэтаў. У метафарах, у вобразах, у моўнай гульні Барадулін — чарадзей, ніхто так не ўмеў працаваць са словам. Першыя, канешне, заўсёды будуць першымі, як слушна сцвярджаў Міхась Стральцоў, маючы на ўвазе Купалу, Коласа, Багдановіча, таму што яны — першыя. Але калі б да гэтага Старальцоў дадаў, што Барадулін побач з імі, дык я са Стральцовым згадзіўся б…»***

— Гэта, канешне, сведчыць пра шчырасць Някляева. Ён ужо так захваліў мяне, што я сам сябе гатоў на «вы» называць.

***— Але ж і вы, дзядзька Рыгор, у апошнія гады шчодрыя на ацэнкі Някляеву. Так, дасюль памятаю, як 31 снежня мінулага года прыйшоў да вас у бальніцу і стаў сведкам такой мізансцэны: вы сядзелі на ложку, побач на крэсле прысеў Някляеў, які падпісваў вам свой новы раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без», і вы, ні на кога не зважаючы, сцвярджалі ў адрас Някляева толькі адно: «Геній! Геній! Геній!..»***

— Пакуль магу гаварыць, пакуль яшчэ не ў глыбокім маразме (*усміхаецца*), я паўтараю: Някляеў — гэта геній… У мяне вось у мінулую восень напісалася, я гэта нідзе не друкаваў:

*А як лямант людскога вар’яцтва заціх,*
*Я запытаўся ў Някляева:*
*— Чаму ты геній?*
*Адказаў:*
*— Таму што зайздросці меней*
*Ува мне, чым ва ўсіх…*

***— Сапраўды, што здзіўляе ў Някляеве — адсутнасць зайздрасці. Да таго ж ад яго практычна не пачуеш, каб ён выказаўся пра некага дрэнна.***

— Так, у яго рэдкая сярод пісьменнікаў (*смяецца*) рыса, каб сказаць пра іншага добра. Калі літаратары і гавораць адзін пра аднаго, дык абавязкова з падколам… Вось калі ПЭН-цэнтр вылучаў мяне на Нобелеўскую прэмію (хоць ясна ж было, што ніякай прэміі не будзе, бо гэта ўсё палітыка), дык што тут пачалося: «А чаму не той?! А чаму не гэны?!» (*Усміхаецца.*) Я кажу: «Вылучайце ўсіх, каго хочаце…» Гэта рыса такая ў нашых літаратараў.

А ў Някляева душа шырокая. Ён, дарэчы, мог бы спакойна жыць без палітыкі, яму трэба было б пісаць, пісаць і пісаць, бо ва ўсім, за што ён бярэцца — у прозе, эсэістыцы, паэзіі, — ва ўсім ён геній. Аднак ён думае не толькі пра літаратару, але і пра будучыню Беларусі. Высоканапышліва кажучы, у яго баліць душа за народ, за ўсё беларускае. Таму ён і пайшоў у палітыку, аддаючы гэтай справе свой залаты час, які дадзены яму для напісання твораў. А гэта небяспечна ў тым ліку фізічна — яго ж ледзь не забілі. Ужо не кажу пра маральны бок… Я вось некалі быў у гасцях у нашага геніянальнага паэта Уладзіміра Дубоўкі, які дваццаць пяць гадоў сядзеў у лагерах, дык у яго былі сабраныя сталярскія інструменты — на той выпадак, калі зноў арыштуюць…

Раней быў такі анекдот: Сталін некага выклікае і кажа: «*Расстрелять*… — пасля робіць паўзу і затым дадае: — *следовало бы*». І хоць чалавека не расстралялі, але яго ўжо, па сутнасці, няма, бо колькі ён будзе жыць, столькі будзе помніць: «*Расстрелять… следовало бы*».

***— Вы раней прыгадалі Каліноўскага. Някляеў расказваў, што піша драму пра 1863 год, якая спачатку не задалася, пакуль не ўзнікла такая гістарычная паралель: Каліноўскі — гэта адначасова Дашкевіч, і Дашкевіч — адначасова Каліноўскі. Праўда, калі Някляеў распавёў пра тое аднаму свайму сябру-паэту, дык той скрывіўся: «Штучны сюжэтны ход, непараўнальныя велічыні! Я б на тваім месцы пачакаў…» — «Чаго? Пакуль Дашкевіча, як Каліноўскага, павесяць? — запярэчыў Някляеў. — Тады непараўнальныя велічыні падраўняюцца?»***

— Для кожнай эпохі, для кожнага часу ёсць свой Каліноўскі. Гэта цяпер ён стаў амаль святым, амаль недатыкальным. Каліноўскі — гэта ўжо сімвал незалежнага духу, духу, які змагаецца з прыгнётам, які змагаецца за волю народа, за волю краіны. Таксама і Дашкевіч змагаецца за Беларусь, і сапраўды для нашага часу ён — Каліноўскі. Так што, усё правільна. Будзе іншы час — будзе іншы Каліноўскі.

***— І, дарэчы, мне вельмі даспадобы, што напісала Святлана Калінкіна пра Дашкевіча: «Гэты чалавек стаў сымбалем змагання не за ўладу, не за пасады, а менавіта за свае ідэалы. За гэта ён і трапіў пад такі ціск карнай машыны».***

— Так, многія прымыкаюць да той групы ці да іншай, а мець сваю ўласную думку, свой уласны погляд на гісторыю, на жыццё можа толькі асоба незалежная. І вось якраз Дашкевіч мае права быць Дашкевічам. Ён не Іваноў, не Пятроў, ён — Дашкевіч. І гэтым усё сказана.

***— Між тым, вяртаючыся да ранейшай размовы, зазначу, што не адзін Някляеў шчодры на ацэнкі вашай асобы. Нядаўна я гаварыў са Станіславам Шушкевічам, дык ён зазначыў, што для яго ёсць два святыя чалавекі — Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Да таго ж Станіслаў Станіслававіч прыгадаў, з якімі цяжкасцямі было нададзена вам у 1992 годзе званне народнага паэта, бо супраць гэтага выступала адна даволі ўплывовая ў той час асоба. Але прыгадваю гэта цяпер вось з якой прычыны: вы аказаліся апошнім народным паэтам Беларусі, бо гэтае званне ўжо дваццаць гадоў нікому не надаецца. Але калі б улада ў краіне была нацыянальная, а не антынацыянальная, няўжо, на вашу думку, не вартыя былі б звацца народнымі паэты Генадзь Бураўкін і Уладзімір Някляеў?***

— Безумоўна, вартыя. Такіх асоб, як той жа Генадзь Бураўкін, у нас больш не было і няма. Мне прыгадваецца паэт Кавалёў (ён быў рэдактарам і «Вожыка», і «Полымя»), які паўжартам гаварыў: «Працаваць мне ўжо цяжка, але міністрам яшчэ пабыў бы». У гэтым сутнасць савецкага мыслення! Але не такім быў Генадзь Бураўкін. Калі ўзначальваў Беларускае радыё і тэлебачанне, ён цалкам зрабіў іх беларускімі. Гэта ж Бураўкін, падтрымаўшы нашыя карані, абеларусіў Беларусь. А тая ж Бураўкінская «Калыханка» гадавала цэлыя пакаленні беларускіх дзяцей. І ў Арганізацыі аб’яднаных нацый Бураўкін прадстаўляў Беларусь не таму,

# ДАТУЛЬ ЖЫВУ»



Рыгор Барадулін з жонкай і ўнучкай

што быў там «для спісу», а таму што душой быў за Беларусь. Ён праз усё жыццё мысліў дзяржаўнымі катэгорыямі. І заўсёды быў і застаецца беларусам незалежным і смелым. І разам з тым ён — тонкі лірык у паэзіі і найвыдатнейшы эсэіст. Я цяпер чакаю, калі ён урэшце напіша свае ўспаміны, гэта будзе страшэнна патрэбная кніга — яна будзе, калі жартам казаць, як «Краткий курс ВКП(б)», толькі не сталінскі, а нармальны — Бураўкінскі… Я, дарэчы, напісаў нядаўна такі верш:

*У галаве*
*Ў Бураўкіна Генадзя*
*Плямёны мужных думак у засадзе.*
*Не паслабляйце ўвагу,*
*Чытачы, —*
*У вояў гартаваныя мячы!*

І тут я яшчэ хацеў бы сказаць пра Станіслава Шушкевіча — і не таму, што ён пахваліў мяне. Станіслаў Станіслававіч — гэта такая асоба… Як бы хто ні пяўся, але першым беларускім прэзідэнтам, першым прэзідэнтам незалежнай Беларусі быў і застанецца менавіта Шушкевіч. Усе астатнія будуць ужо пасля яго, колькі б гадоў яны ні кіравалі, хоць два жыцці пражылі, але ўсё роўна яны будуць ужо пасля Шушкевіча. А помняць якраз першых, з іх бяруць прыклад, на іх арыентуецца гісторыя.

Я невераемна паважаю Станіслава Станіслававіча (дарэчы, я быў знаёмы з ягоным бацькам, які быў рэпрэсіраваны і каля дваццаці гадоў правёў у турмах, лагерах і спецпасяленнях, гэта быў выдатны чалавек). Яго характар, канешне, не для прэзідэнта — усё ж ён рамантык, ён занадта мудры і шчыры і занадта лірычны. Шушкевіч, вядома, вельмі адрозніваецца ад некаторых нашых кіраўнікоў, адзіная мэта якіх — быць кіраўнікамі.

***— Нягледзячы на агульны, здаецца, песімізм, які пануе ў Беларусі ўжо амаль два дзесяцігоддзі, тым не менш нельга гаварыць, што не адбываецца ніякіх пазітыўных змен, у тым ліку ў літаратуры. Так, да прыкладу, дзякуючы найперш намаганням Міхася Скоблы вяртаецца ў кантэкст беларускай культуры Ларыса Геніюш; пачэснае месца займае сваё пачэснае месца Міхась Стральцоў; нікуды не сыходзіў нават пасля смерці Уладзімір Караткевіч — цікавасць да яго творчасці не знікае вось ужо тры дзесяцігоддзі, невыпадкова пачаў выходзіць яго 25-томны збор твораў, за што асаблівая ўдзячнасць Анатолю Вераб'ю, Адаму Мальдзісу і выдавецтву «Мастацкая літаратура»; быў і застаецца з намі Васіль Быкаў. Нарэшце, па-ранейшаму ў пашане старэйшыя класікі літаратуры. Значыцца, беларуская літаратура была, ёсць і будзе, ці вы ўсё ж бачыце падставы сумнявацца ў гэтым?***

— Усё-такі нас і не так яшчэ вынішчалі — было нават страшней. І той жа Уладзімір Караткевіч — гэта ўнікальнейшая з'ява, гэта сённяшні і будучы дзень нашай літаратуры. Я некалі напісаў: «Уладзімір Караткевіч быў, каб застацца». І фігура сусветнага маштабу — Васіль Быкаў. Хоць цяпер не дужа ахвотна чытаюць пра вайну, але ж у Быкава вайна — гэта толькі фон, галоўнае ў яго — сам чалавек, яго душа. Увогуле, я б правёў такую паралель: у рускай літаратуры ёсць Леў Талстой, у беларускай — Васіль Быкаў.

Што ж тычыцца Міхася Стральцова, які, дарэчы, дужа любіў Максіма Багдановіча, гэта зноў жа, як Багдановіч для нашага часу. Гэта тонкі і лірык, і крытык, і празаік. Нас часта папракаюць у правінцыйнасці, у прыземленым пабытавым мысленні, маўляў, нашы літаратары нязрэдку пішуць: «бульбу пасеялі, жыта ўбралі», аднак у Стральцова проста касмічнае мысленне. Гэта таксама еўрапейскі талент.

Менавіта дзякуючы якраз такім пісьменнікам Беларусь і будзе заставацца Беларуссю, як бы кіраўніцтва ні хацела вынішчыць беларускую мову і ўвогуле ўсё беларускае. Ад нашых жа кіраўнікоў не пачуеш ані слова па-беларуску, у той час як Папа Рымскі Ян Павел II, калі я быў у яго на прыёме, гаварыў са мной на чысцейшай беларускай мове! Я разумею: ён звяртаўся не асабіста да мяне, а праз мяне — да ўсёй Беларусі… Такім чынам, беларуская культура заўсёды трымалася на сваіх талентах і геніях, прычым на талентах не толькі літаратурных, але ўсяго нашага мастацтва. Трымалася і будзе трымацца надалей.

***— Калі мы ўжо прыгадалі гэтае імя — Ларыса Геніюш, дык хацеў бы ўдакладніць адзін невядомы факт з вашай біяграфіі, пра які даznаўся зусім нядаўна. Але спачатку хацеў бы ўзгадаць, што некалі пісала Геніюш у лісце да славутага навукоўца Адама Мальдзіса: «Думаю аб Рыгору-Рыгорачку. Што яму сніцца? Відно, што ён не абыякавы багом, якія выбралі яму ўсё ж меншае зло… Спадзяюся, што ён яшчэ здзівіць нас подзвігамі ў розных галінах мастацтва. Бо ў адной паэзіі гэтаму віхру — зацесна!» Іншым жа разам, у лютым 1968 года, Геніюш паведамляла Мальдзісу: «Пісаў сябра Мікола [Мікола Прашковіч, беларускі крытык, літаратуразнавец. — С. Ш.], што наш Рыгор збіраецца ў паход!.. Думаю, што гэта нармальна: і Байран жа ў свой час бараніў Грэцыю. Што ж, В'етнам — не Балканы, але думаю, што пакуль ён там паявіцца, дык будзе ўжо po tszy і po kozaniu [у перакладзе з польскай: пасля імшы і казання, тут у значэнні: позна. — С. Ш.]. Калі ўцалее галава, дык будзе медаль, новыя вершы, многа ўражанняў і іншы нажытак. Валі ён там не здрадзіць, бо там глаз узкий, нос плоский, а лицо… А гэта не ў гусце беларусаў. Не радзьце яму нічога, няхай робіць, што знае, мужчына — гэта шырокі свет. Пакуль не паброdзіць па свеце і не перабродзіць у душы, не супакоіцца, і можа быць горай. Гэта ж не нармальны чалавек, а паэт…»***

— Не, гэта нейкая выдумка (*усміхаецца*), я ніколі не збіраўся на вайну… Што ж тычыцца Геніюш, дык Ларыса Антонаўна была ў мяне ў гасцях і нават верш мне прысвяціла… Геніюш — гэта наша святая пакутніца і таксама ўнікальны паэт, які проста геніяльна выразіў у сваёй паэзіі незалежны беларускі дух… Увогуле, я параўнаў бы Геніюш з Ахматавай. Ахматава, на маю думку, павінна быць у кожнай літаратуры, дык вось наша Ганна Ахматава — гэта Ларыса Геніюш.

***— У чэрвені будзе дзесяць гадоў, як не стала Васіля Быкава. Вы не толькі сябравалі з Васілём Уладзіміравічам ад самага пачатку 1960-х гадоў — вашыя імёны разам пазначаны ажно на трох сумесных кнігах: «Лісты ў Хельсінкі», «Калі рукаюцца душы…» і «Дажыць да зялёнай травы». Васіль Быкаў — адзіны пісьменнік, якому вы прысвяцілі не тое што асобныя вершы, а цэлыя паэтычныя цыклы, якія вы дасылалі яму звычайнай поштай на працягу пяці гадоў у Хельсінкі, Нямеччыну і Прагу. І я даўно ўжо думаю, што ваша здароўе было падарвана менавіта гэтай стратай, бо не толькі па фотаздымках, але нават па дыктафонных запісах можна заўважыць, як змяніўся ваш голас пасля чэрвеня 2003 года. Вам не хапае Васіля Быкава цяпер, ці ўсё ж гэтая рана патроху загойваецца?***

— Мне кожны дзень не хапае Васіля. Мне не хапае мамы і Быкава, бо ён быў для мяне ўсім. Хоць я не хадзіў з ім у панібраце, таму што адчуваў, што ўсё-такі не роўня яму. Я не з тых людзей, якія будуць ляпаць па плячы і гаварыць: «Вася»… Але Быкава не хапае не толькі мне — яго не хапае наогул для Беларусі, для нашага грамадства, для нашай літаратуры, для беларускага мыслення.

***— А хто ў гэты не надта спрыяльны для вас час побач, хто найперш падтрымлівае вас?***

— Як бы цяжка ні было, але мне ўсё адно хочацца жыць хоць бы таму, што ведаю, што магу пазваніць і пачуць голас Някляева, што Някляеў можа прыехаць да мяне ў любы час ці ў бальніцу, ці дадому. Раней мяне гэтаксама падтрымліваў Міхась Стральцоў, але яго ўжо даўно няма… З маладзейшых для мяне дужа неабходны Алесь Камоцкі. Гэта ўжо новае пакаленне, гэта шляхціц па натуры і чалавек высокай культуры. Я часта надакучаю яму, чытаючы яму свае вершы. Ці вось яшчэ Глеб Лабадзенка — мне нямецка называць яго ўнукам, але гэта той промнік святла з будучага, каля якога я грэюся. Мне падабаецца ў гэтым промніку яго дапытлівасць, яго хуткасць думкі. Так што без Глеба Лабадзенкі я таксама не магу. Наогул, я не магу без добрых людзей жыць.

***— Я вось так збоку гляджу на ваша жыццё, дзядзька Рыгор, і мне падаецца, што і Валянціна Міхайлаўна, ваша жонка, з якой вы разам ужо больш за пяцьдзясят гадоў, таксама адзін з найблізкіх вашых сяброў, нават, відаць, можна сказаць, што ў нечым вашае апірышча.***

— Сваю жонку Валянціну я не магу ганіць, яна са мной і ў вясёлы час, і ў сумны. Як гаварылі ў нас у Вушачы: яна мае шарае плячо…

***— А што значыцца — шарае?***

— Працоўнае плячо, на якое нагрузка ўся. Хоць часам мы і крычым, і лаемся — ну, усё як у людзей, але калі кладуся на ноч спаць, дык прашу ў Бога за здароўе дзён для Валянціны…

Да таго ж у мяне яшчэ два званочкі: унучка і мая дарагая дачка Ілона, якая магла б быць выдатнай мастачкай, але лёс не склаўся. Зрэшты, я ўсё роўна ганаруся ёй.

***— І, напэўна, радасці дадаюць вашыя кнігі, што час ад часу выходзяць у самых розных выдавецтвах. Тут можна прыгадаць і кнігу вашага ліставання з мамай Акулінай Андрэеўнай «Паслаў бы табе душу…», і зборнік выбранага «Руны Перуновы», укладзены Алесем Камоцкім і Уладзімірам Сіўчыкавым, і білінгвічную кнігу «Перакуленае / Опрокинутое», і першаданне першай вашай кніжачкі «Маладзік над стэпам», якое было ажыццёўлена Глебам Лабадзенкам, і, безумоўна, усе выданні Рымска-каталіцкай парафіі Святога Сымона і Святой Алены: «Ксты», «Гуканне паэзіі Усходу», «Халодная памяць вады», «Апіта». Нарэшце, якраз цяпер, у лютым, з'явілася цудоўна аформленая кніга выбраных дзіцячых вершаў «Сябрына»…***

— Я, канешне, вельмі ўдзячны ўсім сваім выдаўцам без выключэння і найперш Чырвонаму касцёлу і айцу Уладзіславу Завальнюку, а таксама ўкладальніцы Алe Сакалоўскай, бо менавіта яны першымі пачалі вяртаць мяне з небыцця. А што тычыцца самай апошняй маёй кнігі — «Сябрыны», дык я ў захапленні ад яе. Гэтую кнігу афармляла маладая мастачка Майя Пракаповіч — гэта нейкае новае мысленне: тут ёсць палёт думкі і сучаснае ўспрыняцце маленькіх дзетак. Я страшэнна ўдзячны выдавецтву «Мастацкая літаратура» за такі падарунак для здзяцінелага сівога паэта.

***— Ужо напрыканцы нашай гутаркі хацеў бы зазначыць, што вельмі рады, што застаў вас, дзядзька Рыгор, па-ранейшаму за працай. Па-другое, нягледзячы на ваш і ўсеагульны песімістычны настрой, відаць, усё роўна не варта губляць надзею, што некалі і ў беларускае акенца загляне сонца?***

— Памятаеце латынь? Dum spiro spero — пакуль жыву, спадзяюся. Гэта дэвіз, якому ўжо вякі вякоў.

***— Дарэчы, не запытаўся, дзядзька Рыгор: а ці прыходзяць да вас вершы апошнім часам?***

— Вы разумееце, у мяне такое адчуванне, што пакуль пішу — датуль жыву. Радкі ж да мяне нават у рэанімацыі прыходзілі… Праўда, цяпер ужо менш даўгіх, больш карацейшых… Я прачытаю вам з апошніх вершаў:

***

*Ідзя для таго даецца,*
*Каб ціха ехала страха.*
*І чалавецтва,*
*І авецтва*
*Не могуць жыць*
*Без пастуха…*

***

*Не дадзена нікому выбіраць*
*Умельства жыць,*
*Майстэрства паміраць…*

***

*Дзед, як дзіця.*
*Хаця…*

АПОВЕД

# ПАБЯЖЫМ, ДЗЕТКІ, КАБ НАС ЗАБІЛІ

Неўзабаве споўніцца сорак дзён, як не стала на гэтым свеце Міхася Чарняўскага. Яго няма, а справа яго, творчасць яго, дух яго — жывуць. Гэта апавяданне даслаў у рэдакцыю Максім, сын Міхася Чарняўскага. Мы з задавальненнем яго друкуем, каб наш чытач яшчэ раз дакрануўся да спадчыны гэтага дапытлівага гісторыка, таленавітага пісьменніка і цудоўнага чалавека.



**Міхась ЧАРНЯЎСКІ**

Давай, дачка, сходзім у Гінеўку — узгорыстую мясціну паміж балот і лясоў, дзе твой дзядуля некалі меў невялікі хутар і дзе прайшло маё дзяцінства.

Пойдзем пешкі, так, як я калісьці — старадаўнім гасцінцам ад вёскі Сцюдзяніца. У той вёсцы ў драўлянай будыніне з пабеленымі сценамі была пачатковая школа, куды прыходзілі вучыцца дзясяткі чатыры хлопчыкаў і дзяўчынак. Але ў саму вёску не будзем заходзіць. Інакш давядзецца паказаць табе і тую колішнюю школу, і той клён на школьным двары, які я пасадзіў у чацвёртым класе; і ўсе тыя хаты, дзе жылі мае аднакласнікі; і вулачкі, дзе гулялі ў схованкі; і гумны, дзе хаваліся, калі ў школу прыходзілі дактары рабіць нам балючыя ўколы. І яшчэ давядзецца многа што паказаць і яшчэ больш расказаць. А гэта зойме шмат часу, і тады мы можам так і не паспець да вечара ў Гінеўку.

Таму Сцюдзяніцу абмінём па новай жвіроўцы, што абыходзіць вёску за гумнамі.

За вёскай жвіроўка злучыцца з тым жа гасцінцам і амаль схаваецца ў зялёным тунелі пад таполямі. Таполі такія высокія, што трэба як мага задзіраць галаву, каб пад самымі воблакамі ўбачыць іх вяршаліны. А калі тата вёў мяне ў першы клас, яны былі няшмат вышэй за яго...

Потым гасцінец павядзе ў лагчыну з рачулкай і Курыным мостам праз яе. Не будзем спыняцца і на мосце, бо рачулка зачаруе, заваражыць нас. А тады ад яе цяжка вырвацца.

Ужо зусім недалёка. Пройдзем толькі два невялікія ўзгоркі, мінём катлоўкі — балотцы са стромкімі берагамі. Тут паабапал гасцінца даўней раслі старыя бярозы. Пры партызанах іх спусцілі на дарогу, каб заміналі нямецкім машынам. Зараз у траве ўжо рэдка дзе знойдзеш і струхлелы пень ад тых бяроз.

А тут павернем на гэты жвіраваты высокі ўзгорак, на якім даўней стаяў межавы слупок.

За слупком і пачынаўся наш хутар...

Вось табе і ўзгоркі абяцаныя, зарослыя ляшчэўнікам, і малады бярэзнік ля балота, які вырас на месцы даўняга, высечанага суседзямі, калі мы адсюль з'ехалі. Вось табе тое ажно да далягляду тарфяное балота, дзе, пэўна, і зараз паміж ап'яняючага багуну як насыпана кісла-салодкіх журавін, і дзе пад канец лета з моху выцягваюцца на незвычайна даўгіх ножках падбярозавікі. А вось тое таямнічае балотнае возера з прыбярэжным сітнягом і чорнымі карчамі, пад якімі жылі вусатыя і такія ж чорныя ракі. І вось табе спрэс на ўзгорках валуны: большыя і меншыя, акругленыя і кантаватыя, ружовыя і шэрыя, з рознакаляровымі «жыламі», з лішаямі і мохам. На большых было добра прысесці адпачыць, нагуляўшыся, а аб малыя колькі разоў да крыві збівай ногі, бегаючы за каровамі, якія толькі і ведалі лезці ў шкоду на суседскі хутар.

Бачыш гэты бугор і камяні навокал яго? Месцамі яшчэ прыкметна, што камяні ляжаць роўным парадкам. Тут стаяла наша хата, а бугор гэты — печышча. На схіле ўзгорка вялікая аплыўшая яміна — рэшткі склепа. Побач яміна меншая — усё, што засталося ад калодзежа. А ён жа быў такі глыбокі, што я, дачуўшыся, што зямля круглая, думаў: праз калодзеж бачу на другі бок зямлі — і там сіняе неба і воблакі.

У глыбокім рове за нашай хатаю вясной і пасля кожнага вялікага дажджу бег бурлівы ручай. Як імкліва ляцелі па ім мае выструганыя з хваёвай кары чоўнікі! Прыпынялі яны свой імпэт толькі вось у гэтым, зараз перасохлым, балотцы.

Але пачакай! Чаму тут, на краі гэтага балотца, тая ж ялінка — такая ж маленькая, зялёная і разлапістая? Я ж спадзяваўся, што яна даўно вырасла і яе ссеклі суседзі на дровы і даўно спалілі. А яна чамусьці з таго часу зусім не вырасла. Не паднялася вышэй ні на пядзю. І ніхто таму на яе не пакваліўся. Нават не ссеклі пад Новы год. А я ж думаў, што яе ўжо няма, што яе напаткаў лёс іншых хвояў і ялін, што раслі ля катловак. А яна, бачыш, стаіць — абсалютна такая, як і тады! Можа, пад ёй у зямлі ляжыць валун, які не дае ходу караням, не дапускае да зямных сокаў? А можа, пад дрэўцам валун маёй памяці?..

Тым летам так усё ўрадзіла — і жыта, і ячмень, і гарох. І на бульбе каліўе ўзнялося высокае і густое. Гумно пад самае шэлама было набіта снапамі, саломаю, сенам. Аруды поўніліся зернем.

І чаму зямля так радзіла тым летам? Хіба яна не ведала, што ўсё гэта пойдзе не чалавеку, а агню?

Не памятаю, чаго мы ўсе разам сабраліся былі вось на тым узгорку з вялікім каменем. Тады каля каменя расла пакручастая бяроза і густы ляшчэўнік. Ляшчэўнік, як бачыш, ёсць і зараз. На яго рэдка ў каго падымаецца сякера.

Дык чаго мы апынуліся на тым узгорку? Я то быў з торбачкаю цераз плячо — збіраў арэхі, бо яны ўжо паспелі і пачыналі лушчыцца. Тата, магчыма, грэў лазню, што была непадалёку. Бронька, наш далейшы сусед, быў заўзятым паляўнічым, і, хоць давялося здаць немцам стрэльбу, даўняя звычка, магчыма, паклікала яго пахадзіць па навакольных лясах і балотах. Пэўна, так, блукаючы, ён і натрапіў на наш узгорак. Ну а сусед бліжэйшы мог надысці, убачыўшы мужчын, каб перакінуцца з імі якім словам.

Было бязвоблачнае і ціхае пасляпаўдня. Мы стаялі на самым лабку ўзгорка і глядзелі на далягляд за балота. Там уздымаліся дымы. Яны строма выцягваліся ў неба і толькі ў вышыні заломваліся і сплывалі шэрай смугою ў бок Нарачы.

— Гарыць уся Заворнач, — кажа мой тата. Заворнач — гэта край, што за рэчкаю Ворнач.

— Не міне і нас немец — вые маё выжла начамі, — хмурыцца Бронька.

Бліжэйшы сусед засяроджана грызе сухую сцябліну і маўчыць.

Ноч прайшла такая ж ціхая. І, здаецца, не было якому ветру нагнаць тыя хмары, але на другі дзень усё неба было як засланае шэраю пасцілкай. А можа, гэта не паспяваў разыходзіцца дым?

Ад гэтай засмужанасці рана пачало змяркацца, і мама ўзялася замешваць у драўлянай балейцы калатушку для парсюка. Хутка калатушка была гатовая. Зараз тату трэба было занесці яе ў бярэзнік, дзе ў схованцы быў парсюк — такім трывожным часам жыўнасць трымалі далей ад чужога вока.

— І я з табою, — узяўся быў я за клямку дзвярэй.

— Вот я табе нахаджу.

Я пакрыўдзіўся, сеў на лаву і пачаў з сумам глядзець у акно. Мама пайшла корпацца на агародзе. Старэйшы брат заняўся нейкімі сваімі справамі. Ціха было ў хаце і нудотна.

І раптам знадворку глуха пачулася, быццам нехта палкаю правёў па штыкетніку. Потым яшчэ раз, і яшчэ.

У хату ўбегла збялелая мама:

— Дзеткі, немцы.

Потым яна расказвала: толькі наламала бацвіння, каб падкінуць карове, калі будзе даіць. Разагнулася з ахапкам, ды так і выпусціла тое бацвінне з рук — з прыбалотных хмызоў выйшаў ланцуг людзей у зялёным і накіраваўся якраз на бярэзнік, куды пайшоў тата. Затым у бярэзніку пачуліся аўтаматныя чэргі...

Прачасаўшы бярэзнік, ланцуг выгнуўся падковай і пачаў абкружаць наш хутар. І тады мама ўбегла ў хату, да дзяцей.

А немцы паводзілі сябе па ўсіх правілах вайсковай навукі — за камень лёг салдат і нацэліў на будынкі кулямёт, іншыя салдаты агледзелі гумно, хлеў, склеп. Надышла чарга і да самой хаты...

У акно выткнулася страхатлівая каска. Каска пачала прыўздымацца, і я з жахам чакаў, калі з-пад яе пакажацца твар немца. Але твару не было — каска была ўздзета на аўтаматную рулю. Затым з'явіўся і немец — насцярожаныя вочы і плямістая накідка. Зазірнуў у хату і знік.

Тады мама адшчапіла на акне кручкі, паставіла нас паабапал яго на лаве, сама стала поруч і загадала:

— Як пачнуць паліць, пабяжым, дзеткі, каб нас забілі.

І пры гэтых словах мама не галасіла, не плакала. Толькі неяк нязвыкла гарэлі яе вочы. Такіх вачэй у мамы я ніколі не бачыў, ні да гэтага, ні пасля.

Я чуў, што немцы паляць людзей жывымі, разам з хатамі, і адразу згадзіўся з мамаю — хай лепш застрэляць. Бо ведаў, што агонь — гэта вельмі балюча, гэта пячэ, а «заб'юць» — гэта імгненна, можа, і болю не адчую.

Праз акно я бачыў паласу іржышча. Нешырокую — перабегчы няма чаго. Потым роў, і ў канцы яго — балацявіну і на краі яе маленькую ялінку. І мне страшэнна хацелася паспець дабегчы да гэтай ялінкі. Няхай заб'юць там.

Чаканне доўжылася бясконца. Нарэшце загрукалі боты на ганку, з ляскатам адчыніліся дзверы і ў хату ўсунуліся два аўтаматчыкі — пачварныя да непрытомнасці постаці.

— Бандытоф нéма?

— Няма, паночкі, няма!

Пярэдні немец прыгнуўся і жахнуў кароткай чаргою ў падпечак — быццам зноў шмарганулі палкаю па штыкетніку, толькі ўжо аглушальна моцна. Рэзка засмярдзела порахам. Другі немец палез па драбіне на гарышча. Адкінуў у столі века, прасунуўся ў лаз і прайшоўся чэргамі па чым мог.

На гэтым пакуль і скончылася. Пайшлі з хаты немцы. Падняўся з-за каменя кулямётчык.

І зараз мама загаласіла, заломваючы рукі. Старэйшы мой брат пачаў супакойваць яе як мог. А я таксама, гледзячы на маму, заплакаў уголас.

І тут зноў адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў тата. Ён быў бледны, запэцканы балотнай тванню і трымаў у руцэ пустую балейку. Убачыўшы тату, мама загаласіла яшчэ мацней і кінулася яму на шыю.

А тата толькі разгублена паказваў балейку:

— Во, паглядзі...

У сценцы балейкі свяцілася круглая адтулінка. Дно пасудзіны было пашчапанае, і там была такая ж дзюрачка, толькі наўскос.

Затым тата пайшоў на дрывотню, знайшоў там сучкі, абстругаў іх нажом і моцна загнаў у адтулінкі. Тое, што выступала, роўна абрэзаў.

Дарма тата стараўся. Згарэла гэта балейка назаўтра ж, разам з усім нашым набыткам і будынкамі, разам з суседнімі хутарамі, з малымі і вялікімі навакольнымі вёскамі...

Ну вось, дачка, я зараз не змагу паказаць табе ні тую ручаіну, каля якой раслі самыя смачныя ў маім жыцці маліны; ні тую грушу-дзічку, пад якой хаваўся спякотнымі днямі; ні тую хвою з дуплом, у якім вадзіліся сівавароні. Не змагу цябе правесці па сотнях тых куткоў і куточкаў на гэтых узгорках, дзе спрэс сляды маёй памяці. Бо зараз памяць нябачнымі ланцугамі зноў прыкаваная да гэтай вось маленькай ялінкі. І яе можна адарваць хіба што толькі з каранямі дрэўца.

**Новы Час**
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 214

Падпісана да друку 25.01.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.



(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча